ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 7 (2533)
ПЯТНІЦА
12
лютага 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

*«Зорка Венера» — так называецца гэтая работа гродзенскага графіка Аляксандра Захарава, навеяная славутымі радкамі Максіма Багдановіча...*



## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# ГРАМАДЗЯНІН І ЗАКОН



прававая работа ў народнай гаспадарцы, падрыхтоўка заканапраектаў, выяўленне законаў, якія страцілі сілу і г. д. і да т. п.

Але тут я хачу зрабіць адну заўвагу. Міністэрства юстыцыі ніякім чынам не падмяняе судовыя органы, і парадак разгляду скаргаў, апеляцый застаецца ранейшым. Я гэта да таго, што ў першыя ж тыдні нас закідалі скаргамі, якія мы вымушаны былі пераадрасаваць па прызначэнні ў абласныя, Вярхоўны суды.

— Значыць, практычна разглядам спраў міністэрства не займаецца?

— Не. Але мы можам паставіць на разгляд пленума Вярхоўнага суда няправільнае, на нашу думку, тлумачэнне судамі таго ці іншага закона.

— Нядаўна ЦК КПСС і Савет Міністраў СССР прынялі пастанову «Аб паляпшэнні прававой работы ў народнай гаспадарцы». Гаспадарка і закон. У якіх аспектах яны пераплятаюцца?

— Калі ўлічыць шматлікасць і складанасць гаспадарчых сувязей нашых прадпрыемстваў, аб'яднанняў, фірм, дык стане зразумелым, як важна тут захаваць сацыялістычную законнасць і дзяржаўную дысцыпліну, дакладнае выкананне пастаноў і дырэктыў.

Эканамічная рэформа дала прамысловым прадпрыемствам вялікую самастойнасць, шырокія правы, устанавіла эфектыўную сістэму матэрыяльнага заахвочвання. Відавочна, што гэтыя магутныя рычагі будуць паспяхова дзейнічаць толькі пры строгім захаванні норм права, якія адносяцца да гаспадарчай дзейнасці. Адным словам, за юрыдычнай службай не апошняе слова ва ўмацаванні эканомікі кожнага прадпрыемства.

— Колькі юрысконсультаў у рэспубліцы?

— Прызнацца шчыра, дык дакладна ніхто не ведае. Справа ў тым, што дагэтуль кожная прамысловая галіна мае сваю юрыдычную службу. На заводзе, скажам, юрыст падначальваецца толькі свайму дырэктару, які можа выкарыстаць яго ў любой якасці. Многія юрысконсульты выступаюць забеспячэнцамі, штурхачамі, даставаламі.

Я расказваю Аляксандру Аляксандравічу пра нядаўнюю сваю гутарку з юрысконсультам аднаго прадпрыемства. Жанчына-юрысконсульт (працуе яна на гэтай пасадзе гадоў дваццаць) горка прызналася, што галоўнае ў яе рабоце... абысці закон. Начальства ёй пастаянна гаворыць: «Разбіся ў ляпёшку, а справу выйграй». І яна «разбіваецца». Калі, напрыклад, чыгунка выстаўляе прадпрыемству штраф за затрымку вагонаў, дык юрысконсульт вышуквае спосабы, каб нейтралізаваць гэту прэтэнзію, выстаўляе сустрэчны пратэст, скажам, за пашкоджанне грузаў у час перавозкі. Складаюцца розныя акты, экспертызы, а так як на чыгунцы таксама часам не ведаюць, у якім стане груз быў прыняты, дык справа і выгарае.

— Ваша юрысконсульт трохі згусціла фарбы,—гаворыць міністр,—але многае ў яе расказе справядліва. Вузкаведамасныя інтарэсы, часам, ставяцца вышэй за дзяржаўныя. І тое, што юрыдычная служба ў радзе месц практычна садзейнічае гэтаму, не можа нас не ўстрывожыць. Зараз Міністэрства юстыцыі СССР разам з Дзяржаўным арбітражам пры Савеце Міністраў СССР, Інстытутам дзяржавы і права АН СССР, пры ўдзеле міністэрстваў і ведамстваў рыхтуе праект Агульнага палажэння аб юрыдычным аддзеле, старшым юрысконсульце (юрысконсульце) прадпрыемства, арганізацыі, установе. Палажэнне канкрэтна вызначыць задачы юрыдычнай службы, яе правы, абавязкі, установіць пэўную адказнасць работнікаў гэтай службы.

Слабыя бакі юрыдычных служб у прамысловасці ў пэўнай ступені тлумачацца тым, што юрысты не мелі адзінага цэнтра, які б займаўся абагульненнем вопыту дагаворна-прававой работы і аказваў бы юрыдычным службам канкрэтную дапамогу, у прыватнасці, у галіне арганізацыі і методыкі. Зараз гэтая работа ўскладзена на міністэрства юстыцыі, дзе ствараецца ўпраўленне прававой работы ў народнай гаспадарцы.

Наогул, нам прадстаіць вялікая работа па сістэматызацыі законаў, звязаных з рознымі аспектамі народнай гаспадаркі. Так на працягу трох гадоў будзе выпушчаны дзесяцітомны збор заканадаўства. Міністэрства юстыцыі зараз рыхтуе кодэкс воднага заканадаўства, кодэкс аб працы і г. д.

— Якія яшчэ юрыдычныя службы ў арбіце вашага міністэрства?

— Адвакатура, натарыяльныя канторы, загсы... Дарэчы, пра загсы. Мы праводзім зараз значную работу па ўкараненні новых вясельных абрадаў.

— Цяжкая задача...

— Усё новае заўсёды прывіваецца з цяжкасцю. Што датычыць вясельных абрадаў, дык тут раней часам дапускалася самадзейнасць. Сёння дырэктар Палаца шлюбу выдумляе свой «абрад», заўтра прыйшоў другі дырэктар — новы «абрад». І ўсё з галавы, усё нараджаецца за пісьмовым сталом, не падгледжанае ў жыцці. Мы думаем заняцца гэтай справай самым сур'ёзным чынам. Тут патрабуецца пэўнае даследаванне, у якім павінны прыняць удзел сацыёлагі і псіхолагі.

Усё, пра што мы гаварылі вышэй, можна ўкласці ў кароткую формулу: «Грамадзянін і Закон». Грамадзянін. Гэтае высокае званне заўсёды спалучаецца з юрыдычнымі і маральнымі правамі і абавязкамі. Маецца на ўвазе сумленнае стаўленне да Закона, савецкага закона, які зыходзіць з інтарэсаў усіх працоўных нашай вялікай краіны.

**М. ЗАМСКІ.**

# АКРЫЛЕНЫ ЛЮБОЎЮ

гэтыя словы гарачымі і дружнымі воплескамі.

Слова пра юбіляра — пісьменніка, чалавека, таварыша па працы і сябра — сказаў на вечары Аляксей Кулакоўскі.

Незвычайны поспех «Людзей на балоце» і «Подых навальніцы» вызначаецца, на думку прамоўцы, трыма фактарамі. Па-першае, тым, што ў пісьменніка заўсёды быў і ёсць свой погляд на разуменне праблемы сучаснасці ў літаратуры — усведамленне таго, што сучаснасць твора вызначае перш за ўсё яго ідэйная накіраванасць, адпаведнасць сённяшнім патрэбам людзей тых маральных, духоўных пачуццяў, якія абуджае, выклікае, выхоўвае твор. Другая крыніца творчай упэўненасці і натхнення І. Мележа ў тым, што ён ставіў перад сабой задачу расказаць чытачам пра тое, што сам добра ведаў, разумеў, адчуваў, пра што мог сказаць толькі ён і ніхто іншы. Пранікнёнае вока мастака ўбачыла вобразы, характары землякоў, дапытлівы, жывы розум зноў і зноў вяртаў яго да падзей і сітуацый тых гадоў, чуйны слых захаваў у памяці некрануты пласт палескай лексікі, а душа поўнілася паэзіяй жыцця, чалавечых радасцей і пакут. У выніку выспела задума — смелая, высакародная, маштабная. Трэці фактар заключаецца ў тым, што перш чым узяцца за пяро, сесці за рабочы стол, пісьменнік выношваў, дзесяткі і сотні разоў вывяраў і перадумваў, накідваў і абмалёўваў у думках вобразы, характары, дзеянні, учынкі і паводзіны сваіх будучых герояў, высвятляў — да поўнай яснасці разумення — філасофскую канцэпцыю твора.

Аляксей Кулакоўскі гаварыў пра Івана Паўлавіча Мележа як пра чалавека, калегу па сумеснай працы ў Саюзе пісьменнікаў, сябра, шчыра, ад душы павіншаваў яго з нялёгкім, нягладкім, але слаўным паўвекам.

Уручаючы І. Мележу прывітальныя адрасы ад імя праўлення СП СССР, Савета па беларускай літаратуры пры СП СССР, а таксама ад імя калектыву выдавецтва «Советский писатель», член праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, дырэктар выдавецтва «Советский писатель» М. Лесючэўскі гаварыў:

— Беларуская літаратура выйшла сёння на адно з першых месц сярод літаратур братніх народаў нашай Радзімы, яна мае сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў у многіх краінах свету. Адзін з найвыдатнейшых гэтых прадстаўнікоў — наш сённяшні юбіляр Іван Паўлавіч Мележ.

— Я памятаю, якую высокую ацэнку даў раману «Мінскі напрамак» выдатны савецкі пісьменнік Аляксандр Аляксандравіч Фадзееў, — гаварыў, віншуючы юбіляра ад імя Саюза пісьменнікаў БССР, народны пісьменнік рэспублікі Міхась Лынькоў. — Ён як бы прадбачыў будучы творчы шлях юбіляра, яго «Людзей на балоце» і «Подых навальніцы», якія сталі здабыткам не толькі для самога пісьменніка, але і для ўсёй нашай літаратуры. Першым кансультантам Мележа быў Кузьма Чорны. Ён, як вядома, марыў стварыць мастацкую гісторыю нашага народа. На вялікі жаль, гэтай сваёй мары ажыццявіць ён не паспеў. Сёння ж, з нагоды юбілея Івана Паўлавіча, хочацца сказаць, што яму ўпару ўзняць гэтую мару незабыўнага Кузьмы Чорнага і панесці яе як светлую эстафету пісьменніцкіх пакаленняў.

З цёплымі словамі прывітання звярнуўся да юбіляра сакратар Мінскага абкома КПБ Ул. Багданаў.

Ад імя работнікаў культуры І. Мележа вітаў міністр культуры БССР М. Мінковіч. Цёплае прывітанне шматлікай арміі настаўнікаў і вучняў рэспублікі перадаў юбіляру міністр асветы БССР М. Мінкевіч.

— Прыміце, дарагі Іван Паўлавіч, наш гарачы камсамольскі паклон, — гаварыла, уручаючы прывітальны адрас, сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі Н. Нерад. — Вялікае дзякуй вам за ўсё, што вы зрабілі і робіце для выхавання нашай юнай змены. Дазвольце лічыць вас, былога камсамольскага работніка, на заўсёдным камсамольскім уліку.

Юбіляра цёпла віталі сакратар Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў М. Дубкова, старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку Р. Канавалаў, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі Г. Чарнушчанка, старшыня праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання, народная артыстка СССР Л. Александроўская, прарэктар Рэспубліканскай партыйнай школы В. Розін. Гарачае прывітанне юбіляру ад імя савецкіх воінаў перадаў намеснік начальніка аддзела прапаганды і агітацыі Палітупраўлення ЧБВА палкоўнік К. Марцьянаў.



Юбіляра віншуе народны паэт Беларусі Максім Танк.

— Мы шчаслівыя, што нам даручылі, паважаны Іван Паўлавіч, павіншаваць вас са слаўным юбілеем, сказаць вам вялікае, вялікае дзякуй. Жывіце доўга, будзьце шчаслівымі і радуйце нас сваімі новымі творамі, — гучыць у зале ўсхваляваны, ломкі голас юнака. Гэта вітаць юбіляра прыйшлі выхаванцы Мінскага суvoраўскага вучылішча.

Вясёлае ажыўленне ў зале выклікала прывітальнае слова, якім вітаў І. Мележа доктар гістарычных навук, супрацоўнік Інстытута гісторыі АН СССР М. Улашчык. Выдатны знаўца гісторыі і культуры роднага народа, ён сваё прывітанне сказаў на старабеларускай мове, на мове старажытных летапісаў і статута Вялікага княства Літоўскага.

Ад імя калектыву тэатра імя Янкі Купалы І. Мележа сардэчна павіншавалі народныя артысты рэспублікі З. Браварская і С. Бірыла.

З пяцідзесяцігоддзем І. Мележа павіншавалі таксама кандыдат філалагічных навук П. Дзюбайла — ад імя супрацоўнікаў Інстытута літаратуры АН БССР, намеснік рэдактара газеты «Звязда» М. Філімонаў — ад калектыву рэдакцыі, мастак Л. Асецкі — ад Саюза мастакоў рэспублікі, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» А. Асіпенка — ад калектываў супрацоўнікаў рэдакцый часопісаў «Полымя», «Маладосць», «Беларусь» і газеты «Літаратура і мастацтва», дырэктар Літаратурнага музея Я. Купалы Ул. Юрэвіч — ад імя супрацоўнікаў музея, настаўніца-пенсіянерка Л. Камоцкая.

На вечары былі зачытаны шматлікія віншавальныя адрасы, пісьмы і тэлеграмы ад пісьменніцкіх арганізацый Масквы, Ленінграда, братніх рэспублік, ад розных устаноў і прадпрыемстваў, ад сяброў, таварышаў і землякоў юбіляра.

Цёпла сустрэлі прысутныя выступленне Івана Паўлавіча Мележа.

— Пяцьдзесят гадоў — вялікая, доўгая вярста, з яе бачыцца далёка і многае. Не хапіла б, пэўна шматтомнай кнігі, каб расказаць пра тое, што перажыта, перадумана мною за гэтыя гады: яны былі труднымі і радаснымі, багатымі на падзеі, здарэнні, перажыванні, выпрабаванні. У пачатку бачыцца вёска — старая беларуская вёска з замшэлымі стрэхамі, потым — вёска, абуджаная вірлівымі трыццатымі гадамі, гады вучобы і пазнання свету, яшчэ пасля — вогненныя дарогі сорак першага і сорак другога... А да гэтага прымешваюцца ўспаміны пазнейшага часу... І ўсё гэта кліча, турбуе, хвалюе.

Працую над «Палескай хронікай». Але паралельна я ўвесь час настойліва думаю аб тым, што трэба напісаць кнігу пра людзей майго пакалення, пра самога сябе, вярнуцца да вытокаў, да таго, што прайшло незаўважным у маленстве і юнацтве. Гэтая кніга мне бачыцца як кніга аб простых, звычайных людзях, якім выпала зведаць нялёгкае жыццё і трудныя дарогі, бо ў жыцці заўсёды здараецца так, што больш выпадае цяжкасцей і труднасцей, чым шчасця і радасці. Пісаць такую кнігу нялёгка, бо трэба рабіць вывады і пераацэнкі, бо з вышыні гадоў добра відны допушчаныя пралікі і памылкі, і нават тое, што ўжо напісана, апрабіравана часам і чытачамі, хочацца перапісаць, выправіць, дапоўніць, — гэтак, як я вяртаўся да «Мінскага напрамку», як вярнуўся да «Подыху навальніцы»...

Гэтыя дні запомняцца мне назаўсёды. У такія дні неяк асабліва абвострана адчуваеш, што такое пісьменніцкае слова і пісьменніцкая справа, з радасцю бачыш незвычайную сілу гэтага слова і з трывогай, з хваляваннем думаеш, аб велізарнай адказнасці, якая ўскладзена на цябе, пісьменніка, народам і партыяй.

Яшчэ раз вялікае дзякуй усім, хто ўспомніў пра мяне, выказаў мне знак павагі, пажадаў шмат добрага і радаснага. Вялікае дзякуй роднай Камуністычнай партыі і савецкаму ўраду за іх клопат і ўвагу, за высокую ацэнку маёй работы. Вялікае дзякуй роднай беларускай зямлі, якая ўзгадавала нас, навучыла любіць яе фарбы і водар. Вялікае дзякуй і нізкі паклон роднаму беларускаму народу — за яго працавітасць, гераізм, увагу, ласку і спагаду. Любоўю да роднай зямлі і да роднага народа народжаны мае кнігі. Гэтай любові я служыў і буду служыць да канца.

У заключэнне вечара адбыўся канцэрт майстроў мастацтва. Артысты купалаўскага тэатра паказалі сцэны з твораў юбіляра.

На ўрачыстым вечары прысутнічалі сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Клімаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцэлеў.

насустрач XXIV з'езду КПСС

# ЧАС — АРЫЕНЦІР ТВОРЧАСЦІ

## АДКРЫТЫ ПАРТЫЙНЫ СХОД У БЕЛАРУСКІМ ДРАМАТЫЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

**У** АДЗІН з апошніх дзён студзеня на сцэне Дзяржаўнага тэатра імя Якуба Коласа ішоў спектакль «Улада цемры» па п'есе Л. Талстога. Акцёры ігралі сакавіта, ярка, напоўнена. І гледачы жыва адгукаліся на тое, што адбывалася на сцэне, — спачувалі, гневаліся, пакутавалі. Адным словам, перажывалі разам з акцёрамі. А калі апусцілася заслона, доўга апладзіравалі, удзячныя за высокае майстэрства, якім і ў той вечар іх парадавалі коласаўцы.

А назаўтра ў тэатры быў адкрыты партыйны сход.

І пазней, калі ўжо была падведзена рыса пад выступленнямі і прынята рэзалюцыя сходу, зноў падумалася: глядач ведае тэатр толькі па спектаклях, не задумваецца над тым, што ім папярэднічае, якая велізарная праца ўкладваецца ў кожны спектакль, не задумваецца гэтак жа, як мы не думаем пра электрастанцыю ці турбіну, калі ўключаем святло.

Штодзённыя рэпетыцыі і праца не толькі акцёра і рэжысёра, але і касцюмера, грымёра, сталяра, дэкаратара, бутафора, рабочага сцэны — карацей кажучы, калі для гледача тэатр пачынаецца з вешалкі, дык для саміх людзей тэатра ён пачынаецца з цвіка, з малатка, з таго ружжа—літаральна! — якое павінна стрэліць. А яшчэ тэатр пачынаецца з калектыву. Бо тэатр — гэта той арганізм, здароўе якога—на твары спектакля. Жыццё тэатра—гэта таксама атмасфера ўзаемаадносін, атмасфера псіхалагічнай сумяшчальнасці членаў калектыву. І гэтая атмасфера найбольш выяўляецца за кулісамі тэатра—на рэпетыцыі, на лятучцы, на сходзе.

У тэатры ішоў адкрыты партыйны сход. На парадку дня—два пытанні: прыём у кандыдаты ў члены КПСС і «Задачы калектыву тэатра па дастойнай сустрэчы XXIV з'езда партыі». Дакладчык—галоўны рэжысёр тэатра С. Казіміроўскі.

Шчыра кажучы, гэта быў не так даклад, як сяброўская гутарка з калегамі па мастацтве.

Рабочыя і калгаснікі нясуць сёння працоўную вахту ў гонар з'езда. У канцы кожнага рабочага дня можна ўбачыць, ацаніць і праверыць іх прадукцыю. Наша «прадукцыя»,—гаворыць С. Казіміроўскі, — спецыфічная, яна не паддаецца утылітарнай ацэнцы. Мы ў мастацтве — адзін на адзін са сваім сэрцам. І, толькі зазірнуўшы ў сэрца, мы можам адказаць: ці ўсё ты аддаў, чым багаты, ці ўсё зрабіў, што ў тваіх сілах! Толькі з такім падыходам да самога сябе павінен працаваць сёння кожны, хто служыць сцэне, прыйшоў у тэатр.

Тэатр — гэта рэпертуар, рэжысура і акцёрскае майстэрства.

Тэатр імя Якуба Коласа дастаткова сталы калектыў, каб гаварыць аб кожным з казваных кампанентаў паасобку. У гэтыя дні мы вымяраем сваю работу часам, роўным чатыром гадам. Што ж мы паставілі за гэтыя чатыры гады! Гэта «Бацькаўшчына» К. Чорнага, «Вайна пад стрэхамі» А. Адамовіча, «Трыбунал» А. Макаёнка—нашы, беларускія п'есы. Руская і замежная класіка: «Улада цемры» Л. Талстога, «Зыкавы» М. Горкага, «Марыя Сцюарт» Ф. Шылера. Руская савецкая класіка: «Клоп» Ул. Маякоўскага і «Трэцяя патэтычная» М. Пагодзіна. Сучасная савецкая драматургія: «Шостае ліпеня» А. Шатрова, «Варшаўская мелодыя» Л. Зорына і рад іншых. У большасці выпадкаў гэтыя спектаклі былі для гледача сустрэчай з сапраўднай літаратурай, з сапраўдным тэатрам. А гэта дае акцёрам вялікае маральнае задавальненне.

Многія з названых спектакляў прайшлі за гэты час больш за сто разоў. Але трэба прама сказаць, сярод іх не ўсе — лепшыя, ёсць проста «касавыя». Гэта сведчыць пра тое, што мы часам не вядзём гледача за сабой, а прыстасоўваемся да яго. Так, напрыклад, мы трымаем у рэпертуары дэтэктыў «Семнаццаць імгненняў вясны» па аповесці Ю. Сямёнава, які не робіць асаблівага гонару тэатру...

Нас можна папракнуць і за тое, што мы затапталіся на месцы, аддаўшы залішне многа часу навагоднім прадстаўленням, і цяпер нам трэба размеркаваць кожны дзень, кожную хвіліну, каб фарсіраваць рэпетыцыі будучых прэм'ер — «Многа шуму з нічога» Шэкспіра і «Амністыі» М. Матукоўскага. Мы павінны здаць гэтыя спектаклі ў сакавіку, але здаць без скідак на тэрміны. Патрабуецца таксама дапрацоўка ў многім яшчэ незавершанай пастаноўкі «Прынцэса і Дрывасек», назва якой ужо з'явілася на нашых афішах.

Да ліпеня тэатр павінен падрыхтаваць яшчэ адну пастаноўку, аднак і сёння мы яшчэ дакладна не вызначылі, што будзем ставіць. У партфелі тэатра ляжаць такія п'есы, як «І вечны бой» М. Герчыка, «Начное дзяжурства» А. Дзялендзіка, «Снежныя зімы» І. Шамякіна, «Адвячоркі тут ціхія» Б. Васільева. Магчыма, твор Б. Васільева і стане чацвёртай прэм'ерай тэатра ў першай палавіне гэтага года. Каб «выцягнуць» увесь гэты рэпертуар і адначасова захаваць на сцэне старыя спектаклі, тэатру патрэбны рэжысёры. Заяўкі на самастойныя пастаноўкі падалі маладыя рэжысёры Л. Кавалёў і Ул. Забела, акрамя таго мы і ў далейшым не будзем адмаўляцца ад дапамогі такіх рэжысёраў, як Б. Эрын і Ю. Шчарбакоў. Сустрэча з майстрамі рэжысуры ўзбагачае не толькі тых, хто заняты ў іх пастаноўках, але і ўвесь калектыў. А цяпер мы з хваляваннем чакаем сустрэчы з Г. Таўстаногавым, з якім ужо ідуць перагаворы наконт таго, каб ён паставіў у нас спектакль.

Трэці «кіт», на якім, паводле думкі дакладчыка, трымаецца тэатр — гэта акцёрскае майстэрства, гэта гранічная самааддача кожнага акцёра на сцэне. А ў нас яшчэ здараецца так, што акцёр, які напоўнены настроем, які ўвесь жыве ў вобразе, раптам сутыкаецца з раўнадушнымі вачыма партнёра. Знікае іскра, зарад, як кажуць, «не праскоквае». І гэта зніжае напал усяго ансамбля. На жаль, такую падмену страсці і тэмпераменту «службова-прыстойным» выкананнем ролі, дазваляюць сабе маладыя акцёры, учарашнія студэнты.

Хоць мы і не ставім над кожны наш спектакль, тытр «Прысвячаецца з'езду», працягвае дакладчык, кожны наш спектакль, увесь наш рэпертуар сёння, кожны творчы дзень павінен быць аддадзены з'езду, прысвячацца яму.

...П'еса, рэжысёр, акцёр. Гэта і ёсць той трохкутнік, на якім, як на падмурку, будуецца тэатральнае відовішча, пачынаючы з тых далёкіх часоў, калі гэтае мастацтва брала пачатак. Іншая справа, што ў кожным тэатры трохкутнік гэты — свой, не падобны на іншыя, І суадносіны бакоў трохкутніка таксама тут свае. Праўда, галоўны рэжысёр, як правіла, велічыня пастаянная. А рэжысёр на разавых пастаноўках!

Бясспрэчна, такая фігура для тэатра, асабліва перыферыйнага, неабходная, — тэатр на перыферыі, калі ён адзіны тэатр у горадзе, каб не зрабіцца аднастайным, павінен узбагачацца здабыткамі іншых сцэн рэспублікі і краіны. Такія здабыткі якраз і прыносіць запрошаны рэжысёр.

Але што ж адбываецца! Рэжысёр прыехаў, паставіў спектакль, зрабіў гэта таленавіта, з душой, і—паехаў. Спектакль застаўся без гаспадара. І натуральна, што з цягам часу фарбы яго цьмянеюць.

Пра такія спектаклі без гаспадара і гаварылася на партыйным сходзе. У сувязі з гэтым было прапанавана замацоўваць за такімі спектаклямі другога рэжысёра, дзяжурнага (з ліку свайго рэжысёрскага складу), які павінен сачыць за тым, каб рэжысёрская думка і ўсё тое, што даў спектаклю пастаноўшчык, не гублялася.

Ішла размова пра жыццё спектакля на сцэне, пра яго даўгалецце. Пратрымаецца спектакль гады ці толькі адзін сезон — гэта залежыць не толькі ад гледача, але і ад творчага калектыву. У практыцы тэатра бывае, што спектакль ідзе шмат разоў запар, а потым, набіўшы аскому і гледачу і акцёрам, знікае з афішы на многія месяцы. І вярнуць яго да актыўнага жыцця не лягчэй, часам, чым паставіць новы. Таму, відаць, трэба так размяркоўваць каляндар рэпертуару, каб спектакль ішоў рэгулярна, — такую думку выказалі, у прыватнасці Ф. Шмакаў і Г. Валчок.

Г. Валчок павёў таксама размову аб гастрольнай паездцы тэатра ў Мінск, якая мае адбыцца ў чэрвені. Гастролі для тэатра—не толькі агляд яго дасягненняў, не толькі экзамен на майстэрства. Гэта яшчэ і школа для акцёраў — школа творчай дысцыплінаванасці, сабранасці, школа, якая патрабуе да яго творчай трываласці. Менавіта пра гэта гаварылі ў сваіх выступленнях А. Трус, А. Шэлег і іншыя.

...Тэатр пачынаецца з цвіка. Іншы раз глядач не даверае сцэнічнай дзеі толькі таму, што хістаецца дэкарацыя, зачапілася за нешта заслона. Адным словам таму, што нехта палічыў цвік за дробязь. Вось пра такія цвікі і цвічкі, пра адказнасць рабочых сцэны за тэхнічную дасканаласць пастаноўкі, пра ролю, якую адыгрывае рабочы ў пастаноўцы, нямала было сказана галоўным мастаком тэатра Я. Нікалаевым.

Аб неабходнасці наладзіць сацыялістычнае спаборніцтва паміж тэхнічнымі цэхамі тэатра, аб ролі камуністаў у арганізацыі спаборніцтва, гаварылі артыстка З. Канапелька і дырэктар тэатра Г. Асвяцінскі.

...Рэпетыцыя, здача, прэм'ера. Этапы працы над спектаклем. Здача спектакля — ці то з гледачом у зале, ці то без яго, як зазначыў Г. Асвяцінскі—яшчэ не канец работы над ім. Кожны спектакль і пасля здачы павінен дапрацоўвацца, ён патрабуе рэпетыцыі перад паўторнымі паказамі гледачу—толькі так адточваецца майстэрства, толькі так спектакль удасканальваецца. А. Трус нагадаў пра тое, што ў тэатры няма дробязей. Акуратнасць, дысцыплінаванасць — усё важна ў рабоце акцёра. Усё альбо працуе альбо не працуе на спектакль. Аб тым, што тэатр, здараецца, выпускае незавершаныя работы гаварыў Б. Левін. Праўда, бывае, што не хапае часу на рэпетыцыі, але гледачу да гэтага няма ніякай справы. Ніякія звышсціслыя тэрміны не павінны адбівацца на якасці пастановак. Нават танцы і песні павінны быць высокапрафесіянальнымі, а не нагадваць слабую самадзейнасць, як гэта часам бывае. І тут няважна—уводзяцца гэтыя песні альбо танцы ў казачны спектакль для дзяцей, ці ў шэкспіраўскі — патрабавальнасць да іх павінна быць аднолькавая: высокі прафесіяналізм.

Так, падрыхтоўка да з'езда партыі—не парад, не кампанія, а штодзённая праца. І задача камуністаў, задача ўсяго калектыву тэатра не ў тым, каб навесці святочны лоск, так сказаць, «памыць падлогу ў хаце», як сказаў Ф. Шмакаў, а ў тым, каб яшчэ і яшчэ раз праверыць свой творчы багаж, яшчэ і яшчэ раз зверыць сваю творчасць з часам, з жыццём, з яго запатрабаваннямі.

Камуністы тэатра, яго партыйная арганізацыя, зазначыў сакратар партбюро А. Шэлег, разумеюць гэтыя задачы. У гэтым зарука таго, што калектыў тэатра з гонарам выканае свой абавязак перад гледачом, перад грамадствам.

Праект рэзалюцыі партыйнага сходу, побач з абавязацельствамі павысіць сцэнічную культуру і ў бліжэйшы час падрыхтаваць дзве прэм'еры, а таксама ўмацаваць творчую дысцыпліну, прадугледжвае і ўдзел калектыву тэатра ва ўсесаюзным Ленінскім суботніку, які адбудзецца ў красавіку.

На высокай грамадзянскай ноце закончыўся гэты сход, які, трэба думаць, з'явіцца зарадам новай творчай энергіі.

Р. БАКУНОВІЧ,
спец. кар. «Літаратуры і мастацтва».
г. Віцебск.

---

**А**ПАВЯДАННЕ — надзвычай дзейсны і актуальны жанр літаратуры. Яно асабліва цесна звязана з рэчаіснасцю: чуйна рэагуе на змены ў жыцці, непасрэдна ўплывае на яго. Сцвярджэнні гэтыя не новыя, яны сталі аксіёмай. Але — магчыма, вінаваты тут наш няўрымслівы век, поўны нечаканых змен, нечуваных пераўтварэнняў — апошнім часам не-не ды і пачынае закрадацца сумненне ў правільнасці і правамернасці гэтых высокіх атэстацый жанру апавядання.

Давайце паглядзім на апавяданне апошніх гадоў. Наколькі яно правільна і глыбока адлюстроўвае сучаснасць? Наколькі актыўна ўплывае на чытача, турбуе яго свядомасць, яго пачуцці? Наколькі моцна ўзбуджае грамадства? Адказ на маю думку: не асабліва. Гэта — калі быць памяркоўным.

Канечне, гэтаму можна знайсці шэраг апраўданняў. Маўляў, наконт правільнасці і глыбіні адлюстравання сучаснасці нам меркаваць цяжка: усе мы тут «зацікаўленыя асобы». Патрэбна дыстанцыя часу. Узбудзіць жа сучаснае грамадства, звыклае да амаль штодзённых вялікіх адкрыццяў і дасягненняў, не дужа проста. «Цяжкая артылерыя» літаратуры (раман, аповесць) і то не заўсёды прымусіць звярнуць на сябе ўвагу. А то апавяданне...

Некалі апавяданні А. Чэхава былі выключнай падзеяй не толькі для літаратуры, але і для грамадства.

У свой час мелі вялікі літаратурны і грамадскі рэзананс апавяданні Якуба Коласа і М. Гарэцкага, пазней Кузьмы Чорнага і Міхася Лынькова.

Не так даўно, мы памятаем, вострыя спрэчкі выклікалі апавяданні Барыса Сачанкі, Міхася Стральцова, Івана Чыгрынава.

Сёння ж апавяданне — і старэйшых, і сярэдніх, і самых маладых—вылучаецца нейкім дужа спакойным тонам, разважлівасцю. Прычым, што дзіўна, маладых амаль не адрозніш ад старэйшых. Усё гэта само па сабе быццам і нядрэнна. За іхняй літаратурнай сталасцю стаіць жыццёвая сталасць, якая ідзе ад пасляваеннай бясхлебіцы, безбацькоўства, працы не па гадах.

Аднак і ў літаратуры і ў жыцці ўсё ж самы здаровы рост — натуральны рост. А так хто ведае, што лепш: набыць раннюю сталасць ці захаваць маладосць?

А якраз маладосць з яе захапленнем сучаснасцю, жыццём, непрымірымасцю да адмоўнага, баявітасцю, пэўнай безаглядпасцю, на жаль, у сённяшнім апавяданні, і ў першую чаргу ў апавяданні маладых, адчуваецца слаба. Чытаючы, напрыклад, апавяданні мінулагодніх часопісаў, можна падумаць, быццам самы малады сярод празаікаў — Янка Брыль. Не спрашчаючы складанасцей жыцця, бачачы і адчуваючы цяжкасці яго, пісьменнік у апавяданні «Гуртавое», паказваючы звычайны штодзённы побыт і працу, адкрывае крыніцу такой чыстай, паэтычнай радасці, якая захоплівае нас цалкам, узвышае і ачышчае. Мы самі

---

ЧАЛАВЕКУ ГАВОРАЦЬ ДЗЯКУЙ

# ЭХ ТЫ, ПОЛЕЧКА «КРАПІЎКА»!

Журналісцкія шляхі-дарогі закінулі мяне аднойчы ў Салігорскі раён. У самую «глыбінку». Заначаваў я ў вёсцы Кутнева. Надвячоркам гаспадар дома, малады саўгасны шафёр, прапанаваў:

— У нас вяселле ў сяле. Мо пойдзем Міцкевіча паслухаем?

— Якога Міцкевіча? — спытаў я.

— Хіба вы не ведаеце Івана Данілавіча? Ён летась пяць вяселляў сыграў у нас. Во, браце, музыкант! Як урэжа польку ці вальс — мёртвы ў скокі пойдзе.

— А ён не з Круглага?

— Ну, ну, адтуль, са Случчыны.

Я прыкінуў адлегласць — на прамой пяцьдзесят кіламетраў. У семдзесят гадоў адпраўляцца ў такія далёкія і нялёгкія зімовыя паездкі не ўсякі захоча.

...У цесным пакойчыку мясцовай бібліятэкі (клуба ў вёсцы няма) ужо танцавала моладзь. Схіліўшы галаву на яркачырвоны перламутравы баян, Іван Данілавіч іграў любімую польку «Крапіўку» — яго ўласны твор. Дзядзька ў кажусе, што стаяў побач з ім, уздыхнуў са скрухай:

— Во дае, аж сэрца застукала мацней. Эх, каб мне маладыя гады!

Потым нехта з гасцей жаніха аб'явіў.

— Вальс «Усё наша жыццё!» Аўтар — наш паважаны Іван Данілавіч!

Пяшчотная, мілагучная і крыху ўрачыстая мелодыя вальса ўраз стварыла ва ўсіх своеасаблівы, лірычны настрой. Закружыліся юнакі і дзяўчаты, выйшлі ў круг немаладыя кабеты.

У перапынку мы разгаварыліся з




ТВОРЧАЯ ТРЫБУНА

Серафім АНДРАЮК



# АПАВЯДАННЕ: МАГЧЫМАСЦІ, СЁННЯШНІ СТАН

перажываем разам з пісьменнікам гэты «момант чыстай чалавечай блізкасці, глыток высокай радасці жыцця, хоць часовага забыцця пра клопаты, беды і сваркі будзёншчыны».

Зразумела, пэўная адсутнасць маладога запалу, няўрымслівасці, грамадзянскай і літаратурнай актыўнасці (бо сапраўдным грамадзянінам пісьменнік перш за ўсё і галоўным чынам павінен быць у сваёй творчасці: яго трыбуна — гэта старонкі часопісаў, кніг, газет, трыбуна, з якой гавораць з мільёнамі чытачоў, шчыра, адкрыта, зацікаўлена, гавораць пра самае галоўнае, запаветнае) — у сёняшнім апавяданні і ў першую чаргу ў апавяданні маладых не столькі іхняя віна, колькі бяда. Пісьменніка робіць час. Зразумець гэта — значыць, у пэўнай ступені апраўдаць. І ўсё ж разуменне і апраўданне ніяк не можа заглушыць турботнасці, неспакою за сённяшні і заўтрашні дзень жанру апавядання.

Апавяданне, магчыма, як ні адзін празаічны жанр звязана з сучаснасцю, прытым не толькі духоўна, а ў першую чаргу «матэрыяльна», г. зн. жыццёвым матэрыялам, падзейнай асновай. Так было заўсёды. Так ёсць і сёння.

Разуменне жыцця з усімі яго супярэчнасцямі і складанасцямі, разуменне драматызму чалавечага лёсу, сапраўдная павага і любоў да простага чалавека ўласцівы лепшым сучасным апавяданням. Ад гэтага апавяданне ўзбуйніла свае маштабы, паглыбіла ідэйны і эмацыянальны змест. У такім плане можна гаварыць пра апошнія апавяданні В. Адамчыка. Іх не так многа з'явілася. Але гэта тыя творы, якія дазваляюць падыходзіць да іх з самымі высокімі патрабаваннямі. І гэтыя патрабаванні яны вытрымліваюць. Тут чалавечыя лёсы, пераломныя жыццёвыя этапы, складаныя, драматычныя, вылучаныя з жыццёвай плыні, але не адарваныя ад яе, асэнсаваныя як само жыццё; гэта —часцінка, у якой законы цэлага, тэндэнцыі ды ў нечым і сутнасць цэлага. Творы пранізаны моцнай любоўю да жыцця, да жыцця такога, якое яно ёсць, спачуваннем да чалавека, шчымлівым болем за яго памылкі, непрадуманыя ці лёгкадумныя ўчынкі. Дарэчы, у ранейшых творах Адамчыка эмацыянальны свет часта існаваў неяк нібы самастойна, ён утвараў своеасаблівы арэол вакол падзей, характараў. Зараз свет эмоцый і свет рэальных падзей зліліся, яны ўтвараюць адзінае арганічнае цэлае —жывую мастацкую мадэль рэчаіснасці, мадэль выключна моцнай эмацыянальнай кандэнсацыі.

Апавяданні Адамчыка не лёгкія для чытача, яны не развяселяць, не заспакояць і не закалышуць чалавека ў ружовых снах, яны не малююць перад ім лёгкіх шляхоў у жыцці. Яны суровыя. Яны рыхтуюць чалавека да жыцця сапраўднага, такога, якое яно ёсць, выхоўваюць любоў і павагу да чалавека, да яго нялёгкага і няпростага лёсу.

Гэтыя якасці ўласцівы не толькі Адамчыку. Тут яны, магчыма, выражаны найбольш па-мастацку дасканала і праўдзіва. Адчуванне драматызму звычайнага штодзённага жыцця, імкненне да арганічнай праўдзівасці яго ўзнаўлення, высокі этычны патэнцыял з'яўляюцца ўвогуле характэрнай адзнакай сённяшняга апавядання. Праўда, сапраўдных апавяданняў падобнага характару, на маю думку, не дужа многа. Апавяданні Адамчыка, Сачанкі, Наўроцкага, Дамашэвіча, Кудраўца, некалькі твораў гэтага жанру Капыловіча, Вышынскага, Жука, Калодзежнага...

Творы малога жанру А. Кудраўца атрымалі ўжо высокую ацэнку і крытыкі, і чытача. Апавяданне «Елачка» — гэта цэлая гісторыя незвычайнага жыцця простага чалавека. Праз асобныя скупыя дэталі, падрабязнасці, знешнія рухі пісьменнік глыбока і пераканаўча раскрывае няпросты ўнутраны свет самага, здавалася б, простага чалавека.

За апошнія гады на старонках літаратурных часопісаў з'явілася шэраг апавяданняў А. Наўроцкага. Яны не маглі не прыкаваць увагу ўсіх, хто цікавіцца літаратурай, любіць яе, хто сочыць за развіццём таленту гэтага пісьменніка. На першы погляд, творы яго могуць здацца нібыта вузка асабістымі, камернымі. І сапраўды, усе яны пра каханне. Ды і самога кахання, як узаемадачынення дзвюх асоб, тут няма. Ёсць роздум, глыбокія перажыванні героя, знешне вельмі пасіўнага, заглыбленага ў сябе. Ды ўрэшце апавяданні Наўроцкага не толькі пра каханне. Ідэйна-мастацкі змест іх значна шырэй. За каханнем высвечваецца жыццё, узаемадачыненні ў ім пачатку духоўнага і ўтылітарнага, вульгарна-матэрыяльнага. Пісьменнік па-мастацку тонка, дакладна, з багатым падтэкстам паказвае, як і ў нашым жыцці яшчэ даволі часта сапраўдныя чыстыя пачуцці разбіваюцца аб муры ўласніцтва, матэрыяльнага дабрабыту, чалавечай пасрэднасці і абмежаванасці. Гаворыцца гэта не ў лоб, не прасталінейна; яно вынікае натуральна з усёй мастацкай логікі, як адчуванне, як мастацкі адбітак. Тое, пра што піша пісьменнік, уражвае дакладнасцю малюнка, натуральнасцю ў перадачы ўнутраных і знешніх рухаў герояў, стрыманай моцнай эмацыянальнай напоўненасцю —сапраўднай таленавітасцю.

Сённяшняе апавяданне пераконвае, што мастацкае ўзнаўленне і асэнсаванне штодзённага жыцця справа для літаратуры выключна складаная. Тут патрэбна здольнасць мастака за асобным фактам, асобнай з'явай адчуваць і бачыць жыццё, яго рух, унутраныя мажлівасці, тэндэнцыі, патрэбен, апрача гэтага, высокі маральна-этычны патэнцыял, здольнасць мастака сваім пачуццём, сваім перажываннем, сваімі адносінамі да навакольнага свету і чалавека заразіць чытача. Без гэтага сапраўднага твора не будзе, тым больш не будзе апавядання, якое патрабуе мастацкай канцэнтрацыі. Будзе апісальнасць, ілюстрацыйнасць, нескампанаванасць матэрыялу. І яшчэ — у такім падыходзе да жыцця, у такім яго ўзнаўленні крыецца вялікая небяспека дробнатэмнасці, паўтарэння, проста небяспека звычайнай шэрасці.

Мінулы год для нашых літаратурных часопісаў быў даволі багаты на апавяданне. Больш дваццаці, а дакладней дваццаць тры апавяданні надрукаваў часопіс «Беларусь», каля дваццаці — «Маладосць». Дваццаць сем апавяданняў з'явілася ў «Полымі». Як бачым, больш шасцідзесяці твораў. Трыццаці сямі аўтараў. Нямала для аднаго года. Але колькі з гэтых твораў можна занесці ў сапраўдны актыў нашай літаратуры? Якія з іх моцна ўсхвалявалі чытача? Што ён захацеў бы перачытаць яшчэ раз, знайсці тут душэўнае заспакаенне, мудрую жыццёвую праўду? На жаль, вельмі і вельмі нямногія. Я знарок пацікавіўся ў некалькіх таварышаў, якія любяць літаратуру, настаяпна сочаць за ёй і вельмі далёкія ад снабісцкай пераборлівасці і нігілізму, якое апавяданне, надрукаванае ў мінулагодніх вышэй памянёных часопісах, іх асабліва ўразіла, усхвалявала. Адказы не дужа ўзрадавалі. Імён называлі не шмат. Але не будзем звышмеры прыдзірлівымі і патрабавальнымі, а так, на свежае вока, паглядзім, якія ўсё ж з гэтых больш шасцідзесяці апавяданняў выклікаюць цікавасць: ці то паэтычнасцю ўзнаўлення, ці імкненнем па-мастацку асвоіць новыя сферы жыцця, ці свежасцю навелістычнай формы, ці моцнай грамадзянскай актыўнасцю, імкненнем адгукнуцца на самыя балючыя пытанні сучаснасці, ці то вострым, непрымірымым сатырычным выкрыццём адмоўнага.

Перш-наперш — наконт грамадзянскай актыўнасці. Усё тое, пра што гаварылася ў пачатку гэтага артыкула, яшчэ ў большай ступені адносіцца да мінулагодняга апавядання. Што ж да апавядання, у якім былі б узняты вострыя пытанні сучаснага жыцця, то яго цяжка шукаць. З гэтым, напэўна, звязана і адсутнасць твораў прынамсі гэтага жанру з вострым сатырычным струменем, накшталт колішніх «Прывала» Я. Брыля ці «Кватарантаў» А. Кулакоўскага. Можна падумаць, што не хапае жыццёвага матэрыялу для сатыры. Але ж гэта не так: дастаткова пачытаць хаця б газеты. У чым жа тады справа?..

Пра што ж усё-такі пішуць аўтары мінулагодніх апавяданняў? Якія новыя жыццёвыя пласты ўзнімаюць? І дзе, у якіх творах адчуваецца мастацкае адкрыццё? Апошняе відаць, мабыць, толькі ў апавяданнях Б. Сачанкі. Пісьменнік па-свойму, з сённяшніх пазіцый, імкнецца асэнсаваць матэрыял, звязаны з мінулай вайной, звязаны ў пэўнай ступені з яго асабістым вопытам. У апавяданнях «Дом на беразе Эльбы», «Вязень», «Пяць пакункаў адзежы» пісьменнік па-свойму вырашае важныя пытанні чалавечага жыцця ў нямецкім палоне.

У 1970 годзе сусветная грамадскасць адзначала стагоддзе з дня нараджэння У. І. Леніна. Беларускія пісьменнікі-апавядальнікі таксама актыўна адклікнуліся на гэтую падзею. У «Маладосці» былі надрукаваны апавяданне В. Хомчанкі «Сустрэча з землякамі», тры апавяданні А. Ус — «Як закрасуе жыта», «Дзяўчына ў белым», «Крысмас»; у «Полымі» — «Знаходка на гарышчы», «Амерыканцава хата» Р. Сабаленкі і «Штрыхі да партрэта» П. Ткачова.

Шчырасцю, непасрэднасцю аўтарскага апавядання, трапнымі, запамінальнымі падрабязнасцямі ў абрысоўцы вобраза Ільіча вылучаюцца замалёўкі Ткачова. Яны чытаюцца, ім верыш. У астатніх творах шмат ілюстрацыйнасці, апісальнасці, штучнай прыўзнятасці, дэкларацыйнасці. Амаль нічога новага ў разуменні прастаты, чалавечнасці, велічы Леніна і яго спраў яны не ўносяць. Творы гэтыя яшчэ раз пераконваюць, што тэма правадыра

[Заканчэнне на 6—7 стар.].

Іванам Данілавічам. Аказалася, мы з ім ледзь не землякі — яго Круглае ад маёй вёскі ўсяго за шэсць кіламетраў. Для многіх мужчын — круглянскіх, рабацкіх, вясейскіх, сорагаўскіх — ён перад вайной іграў на вяселлях, радзінах.

І ў вайну іграў ён — на вечарах перад адпраўкай прызыўнікоў у маршавыя роты.

...Нехта з зухаватых дзецюкоў у моднай нейлонавай курткі прынёс прайгравальнік, запусціў пласцінку. Пад яе ў круг выйшла адна пара. І такі ўжо дысананс быў паміж тым, што людзі чулі ад Івана Данілавіча і тым, што рэзала іх вушы цяпер, што ўсе замахалі рукамі: «Спыні! Бо ў акно выкінем...»

— Хіба гэта музыка для вяселля?— ні то сам сабе, ні то мне сказаў Іван Данілавіч. — Якое вяселле без вальса, полькі? Я, браце, з пятнаццаці гадоў не разлучаюся з інструментам. А было так. Высачыў я ў матчыным куфры дваццаць пяць рублёў—бацька хаваў іх, хацеў на каня і драбіны пусціць. Ну, я на тыя грошы за пятнаццаць рублёў купіў гармонік. На мяхах ружы-кветкі... Пакуль прыйшоў дадому, разоў пяць садзіўся — пайграць. Дома бацьку сказаў, як было. Ён пачухаў патыліцу, узяў ад мяне рэшту — дзесяцірублёўку, а потым аддаў. «На, — кажа, — купі сабе пінжак і боты. Бо што ты за музыка ў лапцях і парванай світцы?» Во з таго часу і пачаў я вандраваць па вясяллях, радзінах, праводзінах у салдаты. Няма, браце, у акрузе такой вёскі дзе б я не пабываў за пяцьдзесят пяць гадоў. Падабаецца людзям мая музыка. Едуць і едуць, адбою няма. Кажу, наймайце маладзейшага, мне ўжо семдзесят бабахнула. Але як прыстануць сляпіцаю — бяру баян і еду. Усяго наглядзеўся на вяселлях за свой век. Трапляў і ў пераплёты... У Салігорскім, Слуцкім раёнах вяселлі праходзяць далікатней, тут калі і падап'юць мужчыны, дык аднаго патрабуюць: «Міцкевіч, урэж сваю «Крапіўку». Ну я і стараюся. Да раніцы іншы раз іграеш...

Яму можна даць не болей шасцідзесяці. Высокі, хударлявы, галаву нібы з ганаркам трымае, паходка цвёрдая, рука — лёгкая. Пяе, заліваецца перламутравы баян, толькі кранецца пальцамі клавішаў. Майстар, нічога не скажаш.

У сталыя гады Іван Данілавіч абслугоўвае не толькі вяселлі — чатыры гады працаваў штатным баяністам пры Мінскай радыёстудыі. Здаецца, гэта было ў трыццатыя гады. Па хваробе звольніўся і перад вайной працаваў у Слуцкім Доме культуры. І цяпер у куфры жонка хавае дыпломы, граматы за выступленні на аглядах, алімпіядах — прыемны напамінак пра лепшыя гады жыцця...

...Гудзе ў правадах вецер. За вёскай пагруквае шумная «гравелька». На вуліцы сігналяць машыны. Іван Данілавіч выглядвае ў акно — так і ёсць, да яго.

— На вяселле просім вас... У Падарэсе, недалёка.

— Ногі штосьці балець сталі. Гады, гады...

— Уся вёска вас просіць, — не адступае хлапец.

— Ну, добра, Маці, я паехаў...

І так амаль кожны тыдзень, без «выхадных». Нярэдка ён кампануецца з «трубачамі» з вёскі Селішчы — братамі Анатолем і Мікалаем Фядзюшкамі. Адзін з іх іграе на барытоне, другі — на трубе. І тады выступае трыё, першая «скрыпка» ў ім, вядома, Іван Данілавіч.

Пасля знаёмства з дзядзькам Міцкевічам я доўга раздумваў. Усё менш застаецца ў вёсцы моладзі, а значыць і таленавітых юнакоў, хто мог бы замяніць з цягам часу таго ж Міцкевіча, чапліцкіх «Антонаў», вясейскіх «Чэчатаў». Баяністы, якіх час ад часу выпускае гарадская музычная школа, часцей за ўсё выбралі прафесію не па прызванні, а з неабходнасці («праваліў экзамен, трэба ж недзе вучыцца»), і таму яны доўга не затрымліваюцца ў вёсцы. Мабыць, трэба яшчэ са школьнай парты падшукваць здольных міцкевічаў і антонаў, рыхтаваць іх да ўступлення ў вялікі свет музыкі, пасылаць на вучобу за кошт калгасаў, як гэта робяць пры падрыхтоўцы аграномаў, заатэхнікаў. Адным словам, падумаць над гэтай праблемай варта. Толькі ў Слуцкім раёне штогод ствараецца каля 900 новых сем'яў, амаль усе яны спраўляюць вяселлі. А без добрай музыкі — якая весялосць?

М. КУТНЯВЕЦКІ.





Кнігары Магілёўшчыны першымі ў рэспубліцы пачалі працаваць па-новаму, выкарыстоўваць прагрэсіўныя формы гандлю. Ва ўсіх магазінах адкрыт свабодны доступ да літаратуры, прыгожа, з густам аформлены выстаўкі і вітрыны. Кнігарні вобласці датэрмінова выканалі заданне пяцігодкі, прадалі звыш плана больш чым на трыста тысяч рублёў кніг. Камітэт па друку пры Савеце Міністраў СССР і ЦК прафсаюза работнікаў культуры ўзнагародзілі калектыў Магілёўскага аблкнігагандлю Ганаровай граматай і дыпломам.

Верхні наш здымак зроблены ў цэнтральнай кнігарні Магілёва. На ніжнім — адна з лепшых работніц абласнога бібліятэчнага калектара Валянціна Ткачова.

Фота М. ЖАЛУДОВІЧА. (БЕЛТА).

Аляксей КУЛАКОЎСКІ

# НАВЕЛЫ ІНСТРУКТАРА МАЦЯСОВІЧА



**Не я першы скажу, што найлепш пісьменніку жывецца і думаецца ў часы паездак і сустрэч з людзьмі. Не я апошні скажу, што пасля такіх паездак і сустрэч, бадай, кожнаму з нас хочацца сесці за пісьмовы стол і хоць што-небудзь скарыстаць са свайго дарожнага блакнота.**

**Цяпер у мяне на памяці дарожныя расказы інструктара Віцебскага абкома партыі Аляксандра Альфонсавіча Мацясовіча. Таму і даю адпаведную назву навелам.**



## АДВЕДЗІНЫ

Дырэктар мясцовага кансервавага завода ішоў па свежым мястэчковым асфальце, парыпваў новымі чаравікамі, пашоргваў шарсцянымі калашынамі і рукавамі нядаўна купленага касцюма.

У канцы мястэчка выскачыла з двара жанчына з пустым вядром, у кароткай, перацятай хвартухом сукенцы. Хацела перабегчы вуліцу, ды ўбачыла знаёмага чалавека, спынілася:

— Ты куды гэта жаніхом такім выстраіўся?

— На аўтобус іду, у горад ехаць...

— То выхадны ж сёння... Што там у горадзе рабіць?

— Жонка двайню нарадзіла, дык трэба ж сёетое харошае... Сама ведаеш.

— Нюрка, двайню!? — жанчына ўзмахнула рукамі, драцяная почапка ў пустым вядры завішчала. — Калі ж гэта?.. У цябе нядаўна была двайня!

— Час ідзе-е... — спакойна заўважыў дырэктар. — Час ідзе... Вось і яшчэ адна двайня. А ты Нюрку проста даўно не бачыла.

□

Назад ад калодзежа жанчына так імчала, што аж вада з вядра разлівалася, аж сукенка падцягнулася яшчэ вышэй. Голыя ногі толькі мільгалі тугім загарам. Прыбегшы ў хату, падкінула ў печ сухіх дроў, на скорую руку замясіла цеста з цукрам і яйкамі. Бабку спякла вялікую, пахучую, і як толькі яна крыху астыла, прыадзелася чысцей і пайшла да сваёй даўняй сяброўкі на адведзіны.

Гаспадыня нешта паласкала ў сенцах, калі адведніца, урачыста трымаючы тую бабку перад сабою, узыходзіла па прыступках на высокі ганак. Пераступіла парог і закрычала на яе так, што жанчына спалохана выпрасталася, апусціла мокрыя рукі:

— Губіш сябе, Нюрка, губіш! Як гэта можна, каб адразу за такую работу! Ушчуваць цябе няма каму!..

Нюра лыпала вачыма разгублена і недаўменна. Нешта загорнутае ў ручнік на руках у сяброўкі яшчэ больш здзіўляла і бянтэжыла яе.

— Куды гэта пакласці? — між тым папыталася адведніца. — Спецыяльна дзеля гэтага спякла, як даведалася... А ты не губі сябе, ідзі лажыся! Дай памагу, калі самой цяжка!..

— Мне нічога не цяжка... — сарамліва і азадачана памахваючы мокрымі рукамі, пачала апраўдвацца жанчына. — Я заўсёды дома сама ўсё...

— Заўсёды, ды не цяпер! — перапыніла яе адведніца. — Хадзем, хадзем у хату!

Пераклаўшы бабку на далонь правай рукі, левай жанчына падхапіла сяброўку пад паху, пацягнула да хатніх дзвярэй.

— А дзе ж твае двайняткі-птушаняткі?

— Ды там спяць на ложку.

— Адны, без нікога?

— А хто ім трэба?

У хаце адведніца асцярожна, нібы гэта была рэч з тонкага шкла, паклала бабку на стол, з замілаваным і цікаўным выразам на твары падышла да ложка, павольна адшмаргнула квятастую шырму.

— Дык гэта ж! — ледзь не ўсклікнула яна. Потым, каб не разбудзіць дзяцей, перайшла на здзіўлены, скрыпучы шэпт: — Дык гэта ж ужо вялікія!

— А пра якіх ты думала? — Нюра весела засмяялася, ужо крыху здагадваючыся, у чым тут справа.

— Я сёння раніцаю... — пачала ўжо ўсміхацца і адведніца, паглядаючы на пахучую бабку на стале, — раніцаю ішла па ваду, дык твайго сустрэла... Сказаў мне, што...

— Слу-ухай ты-ы яго-о! — залілася вясёлым смехам Нюра. — Можа клюнуў зранку, дык захацелася пачасаць язык!

□

Гаспадар вярнуўся позна, у неважнецкім настроі, відаць, трохі падстомлены дарогай, чаравікі ўжо не скрыпелі па падлозе, калашыны і рукавы касцюма былі добра памятыя.

— Павячэраць дасі? — звярнуўся ён да жонкі, якая ў гэты час ляжала на раскладзеным дыван-ложку, накрытая байкавай коўдрай.

— Сам бяры! — непрыязна азвалася кабета.

— А ты што, устаць не можаш, калі муж прыехаў галодны?

— Не магу.

— Чаму гэта?

— Таму, што я парадзіха, у мяне новая двайня пад бокам! Балбатун ты нягодны!

Гаспадар успомніў ранішнюю сустрэчу, зарагатаў так, што аж дзеці за шырмаю прачнуліся, настрой ў яго адразу палепшаў і нават узняўся на тую вышыню, дзе ўжо ніякія смуткі не існавалі.

— Ну, ла-адна, ладна-а! — гучна і раскаціста загаварыў ён, не спыняючы смеху. — Ляжы ўжо, калі ты сёння парадзіха! Скажы, дзе што ўзяць з'есці — сам вазьму!

Жонка таксама пачала сцішана давіцца смехам пад коўдрай, але хутка пераадолела гэты парыў, узяла сябе ў рукі і сурова сказала:

— Вунь там на стале рэшта той бабкі, што прынеслі на адведзіны. Даядай!

## КВІТЫ

Ішоў чалавек на базар. (Умоўна назавём яго Пятром).

Сустрэў свайго добрага знаёмага. (Умоўна назавём яго Іванам).

— Ты куды? — спытаў Іван.

— На базар, — адказаў Пятро.

— А што табе трэба на базары? — спытаў Іван.

— Кабана хачу купіць, — адказаў Пятро.

— Кабана-а?.. — Тут Іван пачаў пагладжваць пальцамі свой трохі ўжо адутлаваты падбародак і нешта быццам бы прыкідваць. — Кабана... То можа і не трэба ісці па яго на базар, там могуць усякую бацылу табе падсунуць.

— А куды ж мне ісці? — спытаў Пятро.

— От я і думаю, — заклапочана азваўся Іван, — куды б гэта табе пайсці. Слухай! А ці не паглядзець табе маіх кабаноў? У мяне два кормнікі як сланы, дык жонка піліць мяне, спакою не дае, каб аднаго прадаць. Я то, праўду кажучы, супраць: самому не пашкодзілі б вэнджаныя кумпякі ды кілбасы, колькі б іх ні было. Але як для цябе...

— Дык можа вось сходзім ды паглядзім! — ухапіўся за такую слушную і зручную прапанову Пятро.

— Я з вялікай бы ахвотай, — выказаў сваю падатлівасць Іван, — але мне вельмі трэба ў райвыканком, там нейкая нарада. Ідзі сам, проста да мае Настулі: у гэтых справах яна ў мяне камандзір. А вепручкі, скажу толькі табе, адным хлебам выкармлены.

□

Пайшоў Пятро да таго двара, дзе жыў Іван. Хлевушок у двары быў прыадчынены. Зазірнуў туды, а там сядзіць на цыпках Настуля і поіць з соскі дваіх маленькіх парасятак.

— Гэта вы яшчэ купілі? — спытаў, павітаўшыся, Пятро.

— Ды вось жа купіў на маю галаву ды на рукі, — ахвотна загаварыла Настуля, не перастаючы вазіцца з парасяткамі. — Сасункі яшчэ, нават есці самі не ўмеюць.

— А тыя дзе? Кормнікі? Іван сказаў, што вы маглі б аднаго прадаць.

— Што-о? — Жанчына выняла з парасячага рота соску, устала. — Каго прадаць, каму?

— Я купіў бы, — збянтэжана сказаў Пятро.

— Няма ў нас ніякіх кормнікаў! — ледзь не з крыўдай пачала запэўняць жанчына. — Вось толькі гэтыя сасункі і ёсць! Я ж кажу: на маю галаву і на мае рукі... А больш нічога няма. Нічога!

□

Прыйшла зіма, маразы неяк узяліся адразу, і ў першыя дні людзі найбольш угіналі шыі, хавалі рукі, бо яшчэ не звыкліся з халадамі. Ішоў Іван паўз Пятроў двор: можа з работы, а можа і так адкуль. Валлячок свой утуліў у каўнер паўшубка, а рукі трымаў у кішэнях штаноў, бо паўшубак быў без кішэняў.

— Што, цісне? — перапыніў яго Пятро нечаканым воклікам.

— У-ух! — азваўся Іван у каўнер. — Аж вочы зліпаюцца!

— Цісне па-сапраўднаму, — згадзіўся Пятро, падыходзячы да каліткі, адчыненай на вуліцу. Усё роўна як не ў нас, а дзе далёка на Поўначы. То можа зойдзеш на хвіліну, пагрэешся, калі не спяшаеш вельмі.

— Ды не так, каб сказаць... — трохі сумеўся Іван і затупацеў па дашчатым тратуарчыку прамерзлымі чаравікамі. — Добра хіба толькі... Настуля там адна...



# АПАВЯДАННЕ: МАГЧЫМАСЦІ, СЁННЯШНІ СТАН

(Заканчэнне. Пачатак на 4—5 стар.).

патрабуе выключнай сур'ёзнасці і глыбіні.

Шмат мінулагодніх апавяданняў будуецца на матэрыяле, які ўжо асвоены літаратурай. Праўда, можна сказаць — і гэта будзе правільна,— што не толькі жыццёвы матэрыял мае сэнс у мастацкай літаратуры, не толькі тое, пра што расказваецца, але і аўтарскі падыход да жыцця. Важна штосьці расказаць, але не менш важна праз гэтае «штосьці» выказаць нешта вельмі важнае для пісьменніка, асабістае. Але і тут не відаць адкрыццяў, навізны. Хацелася б удакладніць разважанні. Для мастацтва не так цікавая новая думка, думка як вывад, пэўны тэзіс (у чалавечым свеце ўвогуле адкрыць што-небудзь асабліва новае не так проста), як сам шлях да гэтай думкі, мастацкае яе абгрунтаванне. У першую чаргу свежасць, арыгінальнасць у гэтым павінна адчувацца. Інакш твор будзе паўтарэннем, больш ці менш удалым, агульнавядомага. Дык мала наватарства і тут. Агульная тэндэнцыя апавядання, якая выражаецца ў асаблівай ўвазе да штодзённага жыцця, на жаль, адчуваецца і ў самой мастацкай форме, хаця пра наяўнасць яе і не заўсёды можна гаварыць. Чаму «на жаль»? Ды таму, што такі матэрыял, а хутчэй сам падыход да яго мастацкага ўзнаўлення нібыта дае пісьменніку права быць абыякавым да мастацкай формы. Маўляў, паказвай жыццё — і ўсё. Але ж гэта не так. Парадокс мастацтва заключаецца ў тым, што вельмі часта дакладнае адлюстраванне рэальных падзей і фактаў выклікае да іх недавер. Проста: да іх падыходзіш як да мастацтва, а яны не мастацтва.

Апошнім часам М. Ракітны друкуе творы з цыклу «Сто вясковых навел». Сто вясковых сцэнак, абразкоў, малюнкаў ці яшчэ як там — ну, гэта было б зразумела. А то навелы. Дзе яны тут? Цяжка сказаць. За вызначэннем «навела» звычайна ўзнікаюць творы Мерымэ, Мапасана... Гэта апавяданні сюжэтныя, дынамічныя, асабліва дасканалыя ў мастацкіх адносінах, у іх своеасаблівыя канцоўкі і т. д. Што ж да «навел» Ракітнага, то іх можна, відаць, з такім жа поспехам аднесці і да жанру аповесці ці яшчэ да якога іншага.

Сёння вельмі пашыраны апавяданні-ўспаміны. Творы такія патрабуюць моцнай эмацыянальнай напоўненасці, настраёвасці, добрага адчування псіхалогіі. А так чытаеш і бачыш, што стварыўся нейкі стэрэатып апавядання-ўспаміну, і пісьменнікі ім карыстаюцца без усялякай унутранай неабходнасці. Няма ніякага ўзаемадзеяння часовых планаў, іх ідэйна-эмацыянальнага ўзаемападсвечвання. Ёсць павялічаная тэкставая плошча, расцягнутасць. Як прыклад можна назваць апавяданні Р. Сабаленкі «Пах ліпавага цвету», «Знаходка на гарышчы», «Амерыканцава хата». У іх недахопы, пра якія ішла размова вышэй, асабліва відавочныя: расцягнутасць, адсутнасць эмацыянальна-псіхалагічнай узаемаабумоўленасці падзей сучаснага і мінулага. Успаміны не насычаны тым унутраным цяплом, тым псіхалагічным зарадам, які толькі і можа апраўдаць іх як успаміны. Дарэчы, слабая псіхалагічная матывіроўка адчуваецца ўвогуле ў паказе людзей, што часам прыводзіць да грубага сацыялагізму, прасталінейнасці. Так успрымаецца апавяданне «Пах ліпавага цвету», асабліва яго канцоўка.

Сустракае жанчына, дачка калішняга арандатара, потым кулака і «культурнага гаспадара», знаёмага, былога хлапчука-бедняка. Ідуць успаміны. У канцы жанчына гаворыць:

— Пачакае твая Настуля! — не адступаўся Пятро. — Пайшлі!

У чыстай палавіне Пятровай хаты было цёпла, чыста і ўтульна, а галоўнае — пуста, нікога на гэты час не было дома з яго невялікай сям'і. Іван спачатку вытуліў з каўняра свой пачырванелы ад марозу валлячок, а потым нават расшпіліў верхні, абшыты аўчынкай гузік.

— Можаш і зусім распрануцца, — прапанаваў Пятро. — У мяне ў хаце — трубы. Падкладу ў кацёл антрацыту, дык ніякія маразы... Сядай! А я вось зараз...

Гаспадар, распрануўшыся і акуратна павесіўшы сваю ватоўку на вольны кручок на сцяне, выйшаў у сенцы, а Іван тым часам падышоў да вешалкі і з нейкай няпэўнай старонняй цікаўнасцю пачаў разглядаць яе, нібы жадаючы вызначыць, як яна зроблена ці проста знайсці вольны кручок для свайго паўшубка. Зняўшы паўшубак, нагнуўся, прыклаў руку да трубы, што ішла над падлогаю. Прыклаў і адразу ж адняў: труба сапраўды была добра гарачая.

Пятро вярнуўся з «пліскай» у руках, халоднай з марозу, моцна завінчанай, без этыкеткі. Пузатая пляшка хутка стала пацець ад хатняга цяпла.

Іван зразумеў, што там не каньяк, але ж надзейна спадзяваўся, што і не самагонка: чалавек, які працуе на спіртзаводзе, не адважыцца частаваць сябра самагонкай.

— Тут у мяне... — пачаў быццам бы апраўдвацца Пятро. — Самы ачышчаны... На лякарства трымаю... Але, як бачу, што ты вельмі змёрз, то... па каліве... Як, зробім? Развядзём трохі ці так?..

— Ды можа лепш так... — нібы і абыякава азваўся Іван, а сам неўпрыкметку варухнуў валлячком, глытнуў слінку.

— Тады знаеш што?.. — гаварыў далей Пятро, абціраючы пляшку ручніком. — Я тут пашукаю якой пасудзіны, сяго-таго, а ты — на, вазьмі нажа, злазь хуценька на вышкі ды адрэж там добры пласт вяндліны на закуску. Пад спірцік яна... Ты ж ведаеш... Сама ў рот пойдзе!..

□

На вышках Іван чамусьці затрымаўся. У хаце чутно было, як ён грузна ступаў то ў адным месцы, то ў другім. За гэты час гаспадар усё падрыхтаваў на стале, нават наліў па стопцы. Потым Іван стаў спускацца па лесвіцы і таксама нешта залішне цяжка і квола. Увайшоў у хату, кінуў на стол нож і, балюча скрывіўшыся, памацаў на ілбе яшчэ чырванаваты гузак. Ведаў па адчуванні болю, што гузак гэты хутка пасінее і тады паспрабуй прыдумай, што сказаць дома жонцы.

— Не знайшоў я там ніякай вяндліны, — з сумным раздражненнем прамовіў Іван. — Няма там нічога!

— Як гэта няма?! — не згадзіўся Пятро. — Там жа на кроквах вісяць кумпякі з таго кабана, што некалі ты мне прадаў. Як жа ты іх не ўбачыў?! Будзь здароў, дружа!

Іван спачатку крыўдліва залыпаў вачыма, страсянуў валлячком, а потым здагадаўся, ў чым тут справа, і зарагатаў на ўсю хату.

— Цяпер мы квіты, праўда?

Абагграванне пайшло з належным поспехам, закускі на стале хапала і без кумпякоў. А гузак на ілбе ў Івана ўвачавідкі наліваўся і сінеў.

# АБЕД КААПЕРАТЫЎШЧЫКА

Прыехала Аксіння з горада. Вылезла з аўтобуса ў канцы вёскі і па вуліцы ішла павольна, аддыхвалася ад аўтобуснай духаты, гулліва памахвала крыху растапыранай ад тавараў, аднак, напэўна, лёгкай кашолкай.

Насустрач трапілася Ганна Матыка, недалёкая суседка, яна ў гэты час ішла з фермы на абед.

— Ты адкуль? — спытала тая ў Аксінні, цікаўна паглядаючы на кашолку. — З горада? Што купіла, пакажы!

Аксіння не любіла хваліцца сваімі набыткамі аднак махаць кашолкай перастала і растапырыла яе яшчэ больш.

— Глядзі! — быццам з нейкім выклікам сказала яна і чамусьці ўставілася на суседку, можа нават для таго, каб лепш убачыць, як зменіцца ў той твар ад захаплення, а можа і ад зайздрасці.

— Бо-о-цікі-і! — ледзь не захліпнулася ад здзіўлення Ганна. — Сапраўдныя, скураныя?! І з замочкамі?! Дзе іх там давалі? Дзе?

— Не там, а тут, — спакойна прамовіла Аксіння, відаць, хочучы крыху паджартаваць над суседкай, якая часам занадта ўжо ўзрушваецца, калі ўбачыць у каго нешта лепшае ці навейшае, чым у яе.

— Тут, у нашым кааператыве?

— Тут, у нашым.

— Не можа быць! — Я ж заходзіла зранку, толькі гумавыя боцікі стаялі.

— Ну, гэтыя на полцы, вядома, не стаяць.

— Ага-а!..

Жанчына крыва ўсміхнулася і жвава рушыла да свайго двара.

Аксіння пайшла да свайго, аднак, неўзабаве агляНуўшыся, заўважыла, што Ганна нават і не прыпынілася каля сваіх варот, а пашыбавала далей, напэўна адразу ў кааператыў. І тут Аксіння адчула, што, мабыць, дарэмна нарабіла людзям бяды, і не так Ганне ці яшчэ каму, хто дачуецца пра боцікі, як самому Гаўрылу Пеўніку, кааператыўшчыку. Гэтая Матыка можа так пераматыкаваць яго на людзях, што чалавек за суткі не ачомаецца. А калі шапне яшчэ некаторым маладухам, то са свету звядуць кааператыўшчыка, лічы, што прапаў Гаўрыла.

«Пайсці самой следам за Ганнай,—перш было падумалася Аксінні, — сказаць там перад усімі, што пажартавала: боцікі не тут куплены». А потым як успомнілася, што на тым тыдні Гаўрыла і сапраўды прадаў аграномшы басаножкі з-пад прылаўка, то перастала яго шкадаваць: няхай трохі пакруціцца, папацее, бабыль нястрыжаны.

Ганна ж у гэты самы час думала пра кааператыўшчыка зусім іначай. Хоць ён і сапраўды нейкі не зусім людзімы і гаваркі, часта лахмаваты, хоць можа і праўда тое, што мала звяртае ўвагі на жанчын, таму амаль да сарака гадоў не жанаты, але калі яна, Ганна Матыка, лепшая ў калгасе цялятніца, вясёлая і прыгожая, а незамужняя толькі таму, што кінула свайго трактарыста — п'яніцу—калі яна пагаворыць з Гаўрылам, гляне яму ў вочы сваім зыркім паглядам, то не ўстаіць чалавек, аддасць хоць і апошнія боцікі.

Быў жа не адзін такі выпадак. Прыходзіць Ганна на аўтобусную станцыю: білетаў няма, шафёр закончыў пасадку, збіраецца ад'язджаць. Тады Ганна падбягае да кабіны, кідае позірк на шафёра, знаёмага ці незнаёмага, потым ўсміхнецца яму хораша — і месца ў аўтобусе адразу знаходзіцца, часцей за ўсё тут жа ў кабіне, побач з шафёрам.

На жаль, кааператыў быў у гэты час закрыты: яшчэ здалёк Ганна ўбачыла на вушаку вялікі вісячы замок. Каля дзвярэй стаяла некалькі жанчын.

«Значыць, ужо і яны ведаюць, — падумала Ганна. — Пры такім павароце, то, можа, яно і лепш, што Гаўрыла цяпер не тут, а, пэўна, дома, абедае ці адпачывае ў паложаную гадзіну. Пайду проста да яго ў хату».

І, нават не спыняючыся каля крамы, каб не ўступаць у гаворку з жанчынамі, яна ледзь не подбегам накіравалася да Гаўрылавага двара.

Кааператыўшчык сапраўды быў дома, сядзеў за сталом з апушчанымі на лоб чорнымі валасамі і нешта размешваў лыжкай у глыбокай талерцы, напэўна, смятану ў капусце, бо ў хаце і пахла варанай капустай. Тут жа была яшчэ яго сястра, пажылая ўжо кабета, але таксама адзінокая, і кажуць, што ніколі замужам не была. Яна нарэзвала лустамі хлеб.

— Прыемнага апетыту вам! — з парога сказала Ганна і шырока, весела ўсміхнулася, белыя, як часнок, зубы так і заблішчалі, ледзь не засвяціліся ў хаце. — Прабачце, што я проста ў абед: ішла паўз краму, а там — замок. Гэта ж кажуць, Гаўрылко, што там у цябе боцікі прывезлі... А мне так трэба боцікі... За якую хочаш цану, але каб...

— Боцікі толькі гумавыя, — нездаволена сказаў Гаўрыла і аблізаў лыжку.

— Дык гумавыя ў мяне ёсць, — не зводзячы вачэй з шырокага Гаўрылавага твару, даводзіла Ганна. — Аж дзве пары. Мне трэба гэтакія, што са скуры, ды каб з замочкам бліщчастым... Ты ж ведаеш, якія!

— З замочкам табе? — не адрываючы вачэй ад талеркі, бурчліва перапытаў Гаўрыла і зноў аблізаў лыжку.

— Ага, ага, — узрадавана пацвердзіла Ганна.—Ну, ты ж усё сам ведаеш, Гаўрылко... Ты ўсё разумееш!

— Няма ў мяне ніякіх замочкаў, — раптам зусім цвёрда заявіў кааператыўшчык. — Адкуль ты гэта ўзяла?

— Як гэта адкуль? — ужо крыху збавіўшы сваю ігрывасць, спытала Ганна. — А каму ты прадаў вось толькі што, перад абедам?

— Нікому не прадаваў, — ужо ледзь стрымліваючы сваё жаданне ўкусіць хлеба і пачаць чэрпаць забеленую капусту, пакуль яна не астыла, нахмурана сказаў Гаўрыла. — Бо не было чаго прадаваць.

— Як гэта не было! — не адступала Ганна і нават падышла крыху бліжэй да стала. — А гэтай самай Аксінні ты што сёння прадаў?

— Нічога, — крыху сумеўшыся, адказаў Гаўрыла. — Яна сёння і не была ў кааператыве.

— Як жа не была?! — пачынала абурацца жанчына, і з яе твару ўсё больш і больш сплывала прывабнасць, а яе месца заступалі злосць і абурэнне.—Я ж толькі што сама бачыла!.. Аксіння ішла дадому з кашолкаю... А ў кашолцы — боцікі... Паказвала мне, хвалілася, замочкі адшморгвала і зашморгвала.

— То, можа, не тут купіла, а ў горадзе.

— Сказала, што тут!

— Схлусіла яна табе, а, можа, наўмысля пажартавала.

— Гэта ты хлусіш, а не яна! — ужо амаль закрычала Ганна. — Як табе не брыдка абманваць,



Мал. А. САПЕТКІ.

брахаць чалавеку ў вочы, хоць ты і не падымаеш тут сваіх бельмаў. Да яго прыйшлі з чэснай просьбай, а ён...

Гаўрыла моцна бразнуў лыжкаю, памкнуўся ўстаць і вылезці з-за стала, але яго сястра перагарадзіла яму дарогу, лагодна ўзяла за плечы і пасадзіла на месца.

— Еш, а то зусім астыне! — сказала ўладарна, але ласкава. — Не бяры ўсё на сэрца!

Потым яна павярнулася да няпрошанай госці:

— Ты б сама пасаромелася, Ганна, — загаварыла спакойна і з павагаю, — так вінаваціць чалавека, калі ён не вінаваты. Прыйшла ў чужую хату і крыкам сваім разрываешся, рукамі махаеш!..А ён праўду табе кажа: няма ў кааператыве гэтакіх, як ты хочаш, боцікаў. Няма! Я ж таксама ведаю, што там ёсць!

— Для мяне то няма, канечне! — крыху збавіўшы тон, не адступалася ад свайго Ганна. — Я ж бычка ці якую цёлку не прывалаку з фермы... А хто можа і курачку, і яечак, то таму ўсё ёсць!.. Усё таму ёсць, усё! Пеўнікі любяць курачак! Аксіння і ў боціках, Аксіння і ў кофтачках няйлонавых, Аксіння...

І раптам Ганна рэзка азірнулася на дзверы, бо там нешта моцна бразнула, потым зазвінела на падлозе. Пачуўшы за сабою здаўлены ад абурэння голас Гаўрылы, здагадалася, што гэта ён папусціў у яе лыжкаю, ды не пацэліў.

Вось гэтак у той дзень прайшоў у кааператыўшчыка вызначаны законным часам абед.

□

Яшчэ расказваў мне інструктар Мацясовіч, як у адным клубе быў праведзены вечар на тэму: «Жанчына — друг чалавека», як у другім клубе вакол квадратнага закліку «Мацаваць грамадзянскую абарону» былі вывешаны партрэты пісьменнікаў, як адна настаўніца напісала на заяве аб вызваленні вучня ад вывучэння беларускай мовы: «Аслабаніць»...

— Гэта — дэталі для наступных гумарыстычных навел. Аднак толькі дэталі, а галоўная іх сутнасць — у дабраце, прыродным гумары і самабытнасці людской.

«Ведасце, Аляксей Кірылавіч, што ні робіцца — усе да лепшага... Я тады, як толькі апычулася на поўначы, навастрыла ногі ад бацькі. А следам за мною маці. Бацьку аднаго пакінулі, як ваўкалака. З ім жа нельга было жыць... Парвала, як нажом адрэзала тое бацькава дзікунства, яго непажэрнасць. І праўду казалі людзі, што кулакі, як смаўжы. І мой бацька самым прагавітым смаўжом быў...» Другі персанаж адказвае: «Прыемна чуць такое». Я вельмі сумняваюся, што прыемна такое чуць. Маецца на ўвазе і сам факт, і тое, як ён пададзены: спрошчана.

Некалі А. Франс на пытанне, што робіць пісьменніка вялікім, для многіх нечакана адказаў: любоў да людзей. І гэта так. Сёння, таксама як і заўсёды, найбольш хвалююць чытача творы, якія нясуць любоў да чалавека, даюць дабро, радасць, цеплыню.

Сталася неяк так, што ў апошнія гады з'яўляецца шмат апавяданняў, прысвечаных лёсу адзінокай маці, адзінокай старой жанчыны, якая выгадавала дзяцей, блаславіла ў свет, а цяпер яна жыве адна ў старой вясковай хаце, сумуе, чакае дзяцей, калі яны ёсць, або бясконца тужыць, успамінаючы дачасна загінуўшых сыноў і дачок. Прыгадаем апавяданні І. Чыгрынава «Жыве ў крайняй хаце ўдава», «Усціння», А. Кудраўца «Іваніха», А. Жука «Асеннія халады», Л. Калодзежнага «Сон», М. Парахневіча «Чаканне». Нягледзячы на розную сілу таленту, глыбіню мастацкага асэнсавання жыццёвага факта, кожны гэты твор уражае, выклікае добрыя пачуцці. Праўда, варта, асабліва гэта тычыцца апавядання, усё ж пазбягаць паўтарэння ці то матэрыялу, ці тэмы, ці то роздуму-настрою нават у агульным выглядзе. Інакш губляецца першаснасць мастацкага адкрыцця. А яно ідзе і ад новага жыццёвага факта, і ад свайго погляду, і ад свайго непаўторнага мастацкага ўзнаўлення жыцця і ўвасаблення ўласнага пісьменніцкага «я».

Ф. М. Дастаеўскі аднойчы заначыў: «Мастацкасць апрацоўкі надае думцы яснасць, выпукласць, адчувальнасць, праўду, — а мастацкая сіла і складаецца з праўды і з яркага яе паказу». Адсутнасць менавіта мастацкага ўзнаўлення і асэнсавання фактаў жыцця і падзей уласціва многім, калі не большасці мінулагодніх апавяданняў. Ёсць асобныя сцэны, замалёўкі, эпізоды, падзеі, магчыма, і рэальныя, больш-менш удала па-мастацку ўзноўленыя, але няма іх асабістага асэнсавання, няма жанравага пераламлення, няма аўтарскага бачання і разумення. Характэрна гэта не толькі для маладых, але і для такіх вопытных аўтараў, як М. Ракітны, А. Пальчэўскі, В. Хомчанка, А. Ус...

Апавяданне з яго асаблівай увагай да штодзённага жыцця, да сцвярджэння простых, але такіх у жыцці неабходных адвечных каштоўнасцей: чалавечнасць, дабрата, чуласць, спагадлівасць, увага, разумныя адносіны да ўсяго жывога, да прыроды, — патрабуе, як, магчыма, ніколі, мастацкай глыбіні, самастойнага глыбокага мыслення. Ніякія дадатковыя допісы, накшталт «нявыдуманыя гісторыі» ці іншае што-небудзь, не пераканаюць чытача ў тым, што гэта — мастацкая праўда. У гэтай сувязі нагадваецца такая заўвага з лірычных нататак Янкі Брыля:

«Аўтар» «дакументальнай аповесці» піша ў прадмоўцы да яе часопіснай публікацыі:

«У гэтым творы няма нічога прыдуманага».

Як апраўданне.

Бедная «Вайна і мір»!..»

Мабыць, гэта агульнавядома: беларускімі пісьменнікамі нямала створана ў апавядальным жанры. Варта нагадаць хаця б толькі мінулы год. Але, на маю думку, нельга сказаць, што гэта крок наперад у параўнанні з папярэднім перадз'ездаўскім перыядам: шлях развіцця літаратуры не заўсёды ідзе толькі ўгору. І ўсё ж цікавыя, таленавітыя творы, кніжкі, аўтары маюцца. Праўда, ёсць падставы — і больш чым дастаткова — і для турбот, непакою, роздуму, расчараванняў. Чытачу патрэбны творы таленавітыя. Ён іх чакае. Чакае ад пісьменнікаў, чакае ад рэдакцый часопісаў, чакае ад выдавецтва. Ён мае на іх права.

ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!

КАЛІ мне сказалі, што Веры Мікалаеўне Пола семдзесят гадоў — я не паверыў. Мне здавалася, што яна ніколі не пастарэе, хай будзе не маладою, але не вышэй сярэдніх гадоў, нават маладзейшаю, чым Агата ў «Паўлінцы». Ды, па праўдзе казаць, яна і сёння на свае семдзесят ніяк не выглядае.

Але лік часу — ёсць лік. Тут нікуды не дзенешся. Шкада толькі, што ён вельмі хутка праходзіць. Вось і Вера Мікалаеўна. Здаецца, гэта было нядаўна — дваццатыя гады, калі яна была і вельмі маладою і, я не пабаюся сказаць гэтага, вельмі прыгожаю, і вельмі здольнаю актрысаю, больш пэўна — пасапраўднаму таленавітаю. Я гавару гэта не як тэатразнаўца, а як просты, шчыры глядач, які з першага разу палюбіў і цудоўны Першы беларускі дзяржаўны тэатр, які пасля па праве атрымаў імя Янкі Купалы, і яго заснавальнікаў Фларыяна Ждановіча, Еўсцігнея Міровіча, Уладзіміра Крыловіча, а да ліку іх я адношу Барыса Платонава і Глеба Глебава, Уладзіміра Уладамірскага, Генрыха Грыгонiса, Кастуся Саннікава, Паўла Малчанава, Лідзію Ржэцкую, Ірыну Ждановіч, Стэфанію Станюту, Леаніда Рахленку, Уладзіміра Дзядзюшку і, бясспрэчна, сярод іх заўсёды бачу, як заснавальніцу тэатра, цудоўную актрысу, цяпер народную артыстку рэспублікі Веру Мікалаеўну Пола. Сярод гэтых слаўных імён у калектыў купалаўцаў адны прыйшлі раней, другія крыху пазней, але менавіта яны з'явіліся тым сапраўды цудоўным асяроддзем, што прынесла тэатру ўсенародную любоў на Беларусі, прызнанне акадэмічнага і славу сусветную.

## Пятрусь БРОЎКА

# НЕПАЎТОРНАЯ

*НАРОДНАЙ АРТЫСТЦЫ БССР*
*В. ПОЛА — 70 гадоў*

Я маю радасць віншаваць у дні сямідзесяцігоддзя сярод славутых купалаўцаў Веру Мікалаеўну Пола, як артыстку непаўторнага таленту, якая стварыла вобразы беларускі-сялянкі такой праўдзівай сілы і пранікнёнасці, што яны сталі сапраўды неўміручымі.

Я не магу пераказаць усяго, што таленавіта ўвасоблена на сцэне Верай Мікалаеўнай. А зроблена ёю многа. У дваццатыя гады яна выступала і як спявачка беларускіх народных песень. Перада мной пажаўцелая ад часу праграма, якая ў 1927 годзе паведамляла, што ў Вялікім тэатры ў Маскве адбудзецца «вечар нацыянальнасцяў» для дэлегатаў IV з'езда Саветаў Саюза ССР, у якім выступіць Вера Мікалаеўна Пола з беларускімі песнямі «Кланяйся, Маланачка», «Сем год сох», «Сваток».

На афішы невялічкае паведамленне: мастацкае афармленне канцэрта Анатоля Васільевіча Луначарскага — гэта значыць, мастацкага кіраўніка; і для мяне зусім ясна, як высока прагучалі спевы Веры Мікалаеўны ў той час, бо такога патрабавальнага знаўцы мастацтва, з парады якога падбіраліся выканаўцы, цяжка болей знайсці.

Але не спевамі, хай і ўдалымі, праславілася Вера Мікалаеўна. Вобразы беларускай сялянкі — вось што прынесла ёй заслужаную славу. Я хачу спаслацца на такі вядомы аўтарытэт, як вахтангавец Барыс Захава. Ён пісаў пасля прагляду спектакля «Пяюць жаваранкі» Кандрата Крапівы: «Вялікая ўдача спектакля — вобраз Паўліны Бохан у выкананні В. Пола. Шчырасць, тэмперамент і майстэрства актрысы захапляюць гледача з першага яе з'яўлення на сцэне. Ён літаральна ўлюбёны ў створаны ёю вобраз і прагна сочыць за ім на працягу ўсяго спектакля...»

Я многа разоў глядзеў купалаўскую «Паўлінку» і не ўяўляю сабе спектакля без удзелу Веры Пола. Ды хіба толькі я. Усе. І зноў жа спашлюся на вядомага дзеяча мастацтва М. Гарчакова, які, ўпершыню пабачыўшы «Паўлінку», сказаў: «Альжбета — Ржэцкая і Агата — Пола. Вось ужо найсапраўдныя сялянскія жонкі! У ігры гэтых таленавітых артыстак літаральна прычапіцца няма да чаго...»



А Кацярына ў «Партызанах» К. Крапівы. Але я не магу абмежавацца толькі тым, што створана Верай Мікалаеўнай на беларускім матэрыяле. Яна актрыса шматгранная. Многа зроблена ёю і на матэрыяле зарубежных п'ес. Пані міністэрша ў аднайменнай п'есе Б. Нушыча, пані Астроўская ў п'есе «Зыбучыя пяскі» Хайноўскага. Правільна, што яна тонка адчувае сатыру славянскай драматургіі.

Але досыць пра тое, што лепш за мяне могуць сказаць тэатразнаўцы, я вяртаюся зноў да сваёй ролі гледача і хачу павіншаваць дарагую Веру Мікалаеўну з выключным поспехам яе працы на працягу ўсяго жыцця і падзякаваць ёй за тое, што яна зрабіла разам са сваімі таленавітымі сябрамі і для майго тэатральнага выхавання.

А яшчэ я ведаю Веру Мікалаеўну Пола як цудоўную нашу грамадзянку і добрую савецкую патрыётку, якая горача любіць родную зямлю і якой яна аддавала ўсе свае сілы і свой выключны талент і ў гады вайны, і ў мірны час.

Доўгіх жа вам гадоў жыцця і добрага здароўя, дарагая Вера Мікалаеўна, і яшчэ многіх поспехаў на любай нашаму сэрцу купалаўскай сцэне.

Скажу вам проста — схаджу я і «тудэма і сюдэма», пабачу і тое і сёе, але зноў і зноў мяне цягне да купалаўцаў, дзе я заўсёды рады бачыць вас.

Іграйце часцей, Вера Мікалаеўна!




## Валянцін ЛУКША

# ВЯСЕЛЬНЫ КАРАГОД



### СУГЛЯДЫ

У хаце — ляда лядам.
— Навошта нам сугляды?
— Патыліцу чухай,
Трымай вострa вуха.
Абрус пад настольнік—
Для шчаснай долі.
Каравайны абрус —
З ладам-складам хаўрус.
Каханага да яе,
Як жалезам, прыкуе.
...Бацька злосны,
Хмара-хмарай:
— Значыць, па́ра?
— Значыць, па́ра!
— Ну, давай за стол, радня!
Ой, хадня да дня...

### ЗАПОІНЫ

Барышы—барышамі,
І самі з вусамі.
Слухаць — слухаем,
П'ем медавуху.
Не ведаць дзяўчыне
Суму камлачынкі.
Сукенка шаўковая,
Пяцісценка новая.
Усё зрабіў у час
Звеннявой калгас.
Старшыня ўру́чыць, —
Даў ён слова,—
Тэлевізар каляровы.
Налівай, сваццяl
— Поўны дом багацця!
— Каб шчаслівыя нашчадкі,
Як антоны, былі гладкі.
Госці змучаны...

На ганку — заручыны.

### ЗАРУЧЫНЫ

Лічы — навекі злучаны:
Як рой, гудуць заручыны.
— Каб саюз не зачах —
Па руках!
Цешча ўзяла слова:
— «Волгу» б старшынёву!
Не было б той бяды:
Абы добра маладым!

### ДЗЯВІЧНІК

Касу сяброўкі расплятаюць,
Сяброўкі ёлку завіваюць.
— Як вытрымаць да ранку
Мне без Янкі?
Ох, наплачуся ў ахвоту
Я у зборную суботу...
Я чакаю, як у сне,
Першы промень у акне.

Каралавая раніца
Шашэрыцца, туманіцца.
Набраклымі пупышкамі,
Асмужаная, пыхкае,
Трывожнымі надзеямі,
Як Золушка, надзелена.

### ВЯСЕЛЛЕ

Частуюць брагаю, не саладам,
Маладога, маладую.
І ўсё ж такі:
— Не саладка!
Госці лямантуюць.
Каб жыццё не зеллем горкім—
Мёдам стала ўсім на радасць,—
— Горка!
— Горка!—
Ляціць за прысады.
Паспявае каравай,
Паспявай — налівай!
— Чарак не хапае?
— Конаўка пустая!
Каравай раздзялілі —
Чаркі асушылі.
Цёмна ў вочах, ў вочах дым.
— Добрай ночы маладым...

### ПЯРЭЗВЫ

На пад'ём цяжкі, як звер,
Перазоўны чацвер.
Ткуць за печчу цёткі
Пра нявесту плёткі...
Пярэзвы—перазовы —
Горкі месяц мядовы.
Ці будуць жыць шчасна?
Дзень настаў заўчасна...

# НАРАДА
## МАСТАКОЎ ТЭАТРА

У рэспубліканскім Доме мастацтваў прайшоў семінар тэатральных мастакоў і загадчыкаў пастановачных частак тэатраў рэспублікі, арганізаваны Міністэрствам культуры БССР і Беларускім тэатральным аб'яднаннем.

З дакладам «Мастак і тэатр» выступіў адказны сакратар праўлення Саюза мастакоў СССР, галоўны мастак тэатра імя Массавета, заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР А. Васільеў. Загадчык пастановачнай часткі Акадэмічнага Малога тэатра СССР, заслужаны работнік культуры РСФСР М. Антонаў расказаў пра культуру працы мастацка-пастановачнай часткі тэатра. Кандыдат мастацтвазнаўства Г. Барышаў пазнаёміў удзельнікаў семінара з работай тэатральных мастакоў абласных тэатраў Беларусі.

Галоўны мастак Маскоўскага абласнога тэатра юнага гледача А. Тарасаў падзяліўся сваімі думкамі пра афармленне спектакляў на сцэне маскоўскіх тэатраў, а таксама пра афармленне мінскіх спектакляў «Пэпі Доўгаяпанчоха» і «Амністыя».

Удзельнікі семінара пазнаёміліся з эскізамі беларускіх тэатральных мастакоў, якія былі паказаны ў Доме мастацтваў.

На семінары выступілі таксама галоўны мастак Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР А. Грыгар'янц, рэдактар Міністэрства культуры БССР А. Герштэйн, мастак Б. Малкін, галоўны мастак тэатра імя Я. Коласа, народны мастак БССР Я. Нікалаеў, мастак Гродзенскага тэатра М. Апіок і іншыя.

**Т. КАЛЯДА,**
**кансультант Беларускага тэатральнага аб'яднання.**

# НА СЦЭНЕ — ГРЫНЮКІ

Сям'ю Івана Ігнатавіча і Наталлі Пятроўны Грынюкоў ведаюць далёка за межамі вёскі Ісерна. Трынаццаць сыноў і дочак выгадавалі Грынюкі. І ўсе яны добра спяваюць, граюць на музычных інструментах, выступаюць з канцэртамі.

Вось і нядаўна Грынюкі далі канцэрт у суседнім калгасе «Савецкая Беларусь». Добра выступілі Галіна, Наташа, Васіль, Вольга, Ганна, Алена. Хлебаробы шчыра дзякавалі самадзейным артыстам адной сям'і.

**М. СЯЎРУК.**

Слуцкі раён.

# ЛЕВІНСОН, ЛУКОНІН І ІНШЫЯ

**СПЕКТАКЛІ «РАЗГРОМ» І «ХЛОПЕЦ З НАШАГА ГОРАДА» Ў МАГІЛЁЎСКІМ АБЛАСНЫМ ТЭАТРЫ ДРАМЫ І КАМЕДЫІ Ў БАБРУЙСКУ**



*— Эх, Вано, чаго б я ні даў, каб зараз у Маскву трапіць хоць на дзень...*

**Сцэна са спектакля «Хлопец з нашага горада». Сяргей Луконін — Аляксандр Мароз, Гуліашвілі — Вячаслаў Саладзілаў.**



*Толькі наперад!*

**Артысткі Ала Палухіна (справа) і Наталля Падзічэўская едуць на вызны.**



*— Рабіце, як я кажу, і ўсё атрымаецца...*

**Віктар Каралько, галоўны рэжысёр тэатра, на рэпетыцыі.**



*Уражанні аб маскоўскіх прэм'ерах — цікавыя ўсім...*

**Рэжысёр Уладзімір Шыманскі вярнуўся з паездкі ў сталіцу.**

Цяжкія «блуканні па пакутах» для адных, ясная і адзіная мэта для іншых — рэвалюцыя. Нам, людзям 70-х гадоў, тыя пуцявіны здаюцца дарогай зразумелай і адзінай.

Пазней адзін з герояў п'есы К. Сіманава «Хлопец з нашага горада» Сяргей Луконін скажа: «Мне падабаецца на карце толькі тая яе частка, якая афарбавана ў чырвоны колер». Але гэта пазней. А пакуль права на чырвоны колер на карце трэба было заваёўваць.

Пра бясконца суровую барацьбу, дзе кожнаму давялося не толькі перамагаць ворагаў, але і пераступаць праз смерць і пакуты блізкіх людзей, быць жорсткім і бязлітасным, расказаў у сваім спектаклі «Разгром» малады калектыў Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі, які пачаў нядаўна сваю дзейнасць у Бабруйску. Знаёмыя героі аднайменнага рамана А. Фадзеева прыйшлі на сцэну і зажылі новым жыццём.

Што ж прывабіла калектыў у інсцэніроўцы М. Захарава і І. Прута, на якія хвалюючыя пытанні «з сёння» захацеў ён адказаць тым, хто ў глядзельнай зале? Відаць, прывабіла магчымасць пагаварыць пра месца чалавека ў жыцці, пра абавязак яго на зямлі, дзеля чаго ён нараджаецца, жыве, у чым сэнс існавання ў пару вялікіх грамадзянскіх зрухаў, у віры барацьбы.

І адказвае — чалавек нараджаецца, каб любіць, гадаваць дзяцей, араць зямлю, будаваць. Але каб кожны меў права на гэта, яму часам даводзіцца забіваць, ненавідзець, паміраць. Чалавек павінен пакінуць пасля сябе добры след на зямлі, гавораць стваральнікі спектакля. Але гэта цяжка. Вельмі.

Рэжысёр Віктар Каралько (гэта яго першая работа ў якасці галоўнага рэжысёра), мастак А. Салаўёў стварылі выразны малюнак спектакля, задалі яму імклівы рытм, адпаведны бурнай плыні падзей, дзе кожны герой раскрываецца ў складаных абставінах. І хоць ёсць для іх толькі два шляхі — з Левінсонам або супраць яго, за рэвалюцыю або супраць рэвалюцыі, перад намі характары складаныя, шматгранныя, супярэчлівыя.

Прысадзісты, шырокі ў плячах, крыху нязграбны, з доўгімі рукамі, роўным, нават крыху аднастайным голасам, Левінсон — увесь імклівасць, мэтанакіраванасць. Ён, думаюць пра яго партызаны, ведае выйсце з любога становішча. Яму нічога не страшна. Ён жалезны, — гэтак таксама думаюць пра яго. Ён здаецца ім «чалавекам асаблівай пароды». Але на самай справе, гэты чалавек з таямнічымі «нетутэйшымі» вачыма ведае, што ніякіх планаў выратавання атрада ў яго няма, што ён баіцца мышэй, што нясцерпна баліць бок. Аднак ён выбраў сабе жыццё, адзінае. Сэнс яго — барацьба. Ён служыць рэвалюцыі.

Такім стараецца паказаць нам Левінсона артыст Валерый Філатаў. Герой спектакля ўнутрана напружаны, бо абавязаны быць мацней за галодных, разутых, анархічных людзей, якія ў сілу сваёй палітычнай і духоўнай абмежаванасці могуць разбегчыся, у парыве адчаю кінуцца на яго. Яны жывыя, а не кніжныя людзі, і з імі — складана.

**Успамінаецца поўная драматызму сцэна, калі атрад акружылі белыя. Дарога да выратавання адна. Але там — непраходная багна. Левінсону важна не толькі вывесці атрад, не толькі выратаваць людзей, але і прывесці іх у рэвалюцыю душэўна больш моцнымі, больш перакананымі ў справядлівай справе. Яны павінны выйсці з лесу іншымі, чым прыйшлі. І хоць абставіны прымушаюць Левінсона праяўляцца аднастайна, рэжысёр і артыст разумеюць, што ён фігура не адназначная. Таму не-не, ды прамільгне на яго твары ўсмешка, у вачах хітрынка...**

**І ўсё-такі часцей за ўсё даводзіцца яму быць суровым камандзірам, толькі камандзірам. Жорсткасць абставін нараджае жорсткасць патрабаванняў. Ён аддае загад урачу Сташынскаму ліквідаваць смяротна параненага байца Фралова. Жорсткасць? Так. Але іншага выйсця няма. Валерый Філатаў і Вячаслаў Саладзілаў стараюцца правесці сцэну гранічна скупа, па-мужчынску стрымана, з той чалавечай пакутай, якую нараджае такая драматычная сітуацыя.**

Левінсон судзіць свайго ардынарца Марозку за тое, што той украў дыні. Дыні... Удумацца толькі — дыні. Нібы няма іншых клопатаў, нібы дыні — самае галоўнае ў такія крывава-цяжкія дні! Але суд гэты таксама яго, левінсонаўскі. Тут, відаць, важна было данесці думку, што чалавекам звацца не так ужо проста, што на шляху да гэтага многа маленькіх і вялікіх спакус і вось іх і трэба пераадолець дзеля таго, каб быць чалавекам, як гэта разумее камуніст Левінсон.

**У спектаклі, мне здалося, эпізод гэты не вельмі атрымаўся. Наступае нейкі спад рытму, нібы кончыўся завод, сцэна распаўзаецца, акцёры чагосьці чакаюць, не знаходзяць свайго месца ў падзеях. І раптам выразна адчуваеш, што ўсё гэта не па-праўдзе — проста разыгрываецца, што пад скураной курткай б'ецца сэрца артыста Філатава, а не Левінсона. Не адбылося галоўнага цуда — акцёр не здолеў цалкам пераўвасобіцца ў свайго героя і пачаў «дэманстраваць» яго.**

І ўсё-такі артыст Філатаў здаўся мне бясспрэчна цікавым у гэтай ролі. Проста яшчэ не накоплена майстэрства, не на вышыні акцёрская тэхніка, якая нямала дапамагае пры стварэнні такіх складаных і значных вобразаў. Гэта ў яго яшчэ наперадзе. А цяпер добра выглядае там, дзе ўнутрана наблізіўся да характару, напісанага Фадзеевым.

Цяжкасць у стварэнні сцэнічнага вобраза Левінсона яшчэ і ў тым, што на сцэне няма, або амаль няма яго адкрытых ворагаў. Дзед Піка (артыст Пётр Масцераў) вельмі пасіўны і, бадай, больш смешны, чым небяспечны, а Мечык (артыст Валерый Шушкевіч) надта малады. «Маладзенькі такі»... — многа разоў паўтарае Вара (артыстка Ала Палухіна). Гэта пралікі інсцэніроўкі. А пралік рэжысёра ў тым, што перад Валерыем Шушкевічам не былі пастаўлены дакладныя сцэнічныя задачы, і акцёр не да канца здолеў разабрацца ў супярэчнасці свайго героя. Няма ў яго Мечыка «біяграфіі», ён атрымаўся нейкі абстрактны. Гэта асабліва крыўдна, таму што мы паспелі ўжо палюбіць здольнага, сур'ёзнага, думаючага артыста па яго папярэдняй рабоце — ролі князя Мышкіна, над вобразам якога ён пачаў працаваць яшчэ ў інстытуце.

Адным з цэнтральных герояў спектакля стаў Марозка ў выкананні абаяльнага і праўдзівага артыста Аляксандра Мароза. То злосны, па-жывёльнаму прагны, гэтакі нахабны хлопецзух, то велікадушны чалавек і адчайна смелы партызан. Ён то імклівы, як бываюць імклівыя рэкі або дзікія звяры, то спакойна-марудны, нібы ведае сабе цану. Ён з тых хлопцаў, якім лёс наканаваў шлях, падобны да шляху Паўла Уласава з рамана Горкага «Маці». Проста жыццё завяло яго на такое раздарожжа, што давялося загінуць вельмі рана. Марозка сэрцам прыняў рэвалюцыю, але розумам яшчэ не паспеў асэнсаваць значнасць таго, што выбраў у жыцці.

Артысту ўдалося разгледзець непаўторную сутнасць гэтага чалавека. Усім сэрцам палюбіў Аляксандр Мароз свайго неўтаймаванага, усё яшчэ без «цара ў галаве» Марозку. Яго шырокая разудалая натура ажыла пазней у Сяргеі Цюленіне з фадзееўскай «Маладой гвардыі», яго смелая дзёрзкасць жыве ў маладых людзях, нашых сучасніках. Дарэчы, пры такой трактоўцы вобраза незразумелым здаецца, што Вара чамусьці цягнецца да Мечыка. Ёй, таксама ў нечым незвычайнай, усёй душой бы «прыліпнуць» да Марозкі. І думаецца, што Вара — Палухіна змагла б гэта зрабіць, нягледзячы на жорсткія рамкі тэксту. Трэба было толькі падштурхнуць яе, падказаць. Аднак ужо тое, што зроблена актрысай, дае падставы думаць, што наперадзе нас чакаюць цікавыя сустрэчы з ёй.

**Раман А. Фадзеева «Разгром» даўно аднесены да разраду «хрэстаматыйных». Вывучаюць яго ў школе, шчыра скажам, не лепшым чынам: неяк без шырыні, без выхаду за сюжэтныя межы рамана, які так і вядзе на прасторы жыцця. Відаць, нездарма на сцэну прыйшлі «Маці», «Што рабіць?», «Разгром», і мы са здзіўленнем адкрываем гэтыя даўно вывучаныя ў школе творы нанова. У яркай пастаноўцы Ю. Любімава ў Маскоўскім драматычным тэатры на Таганцы зноў нарадзіліся творы, вартыя таленту Чарнышэўскага і Горкага. «Разгром» паставілі многія тэатры, якія за хрэстаматыйнай прыгладжанасцю і літаратуразнаўчай адназначнасцю здолелі адчуць жывы пульс і нерв таго часу, убачыць непасрэдную чысціню і шчырасць яго людзей, як незгасальную каштоўнасць.**

Сцэну гібелі Мяцеліцы раскажа любы школьнік. І гэты эпізод, здавалася б, сёння проста небяспечна іграць: усё загадзя вядома, і таму наўрад ці ўзнікне тое «боскае трапятанне», якое нараджаецца ад нечаканага спалучэння эмацыянальнага запалу артыстаў у кантакце з гледачом. І ўсё-такі ў спектаклі адбываецца нечаканае. Адбываецца таму, што і рэжысёр, і артыст Георгій Маляўскі, які выконвае ролю Мяцеліцы, шукаюць і знаходзяць адказ на тое самае пытанне, у імя якога пастаўлены спектакль: дзеля чаго жыве і дзеля чаго гіне чалавек.

Тонен\u044cкі, гнуткі, яшчэ зусім юны Мяцеліца, народжаны для шчасця, для радасці, для кахання, загіне ў той самы момант, калі яно напаткае яго, гэта самае каханне. У кнізе А. Фадзеева няма гэтага эпізоду, і ўсё-такі ён не супярэчыць усяму духу рамана. Мяцеліца сустракае дзяўчыну-пастушку (артыстка Элеанора Шклярава) і ўвесь раствараецца ва ўзнікшым пачуцці. Каханне працягваецца імгненні — але як многа адбываецца ў юных сэрцах. На нашых вачах нараджаюцца не тое каб іншыя людзі — не, адбываецца пераацэнка каштоўнасцей, позірк з вышыні... Мяцеліцы не суджана было сустрэць дзяўчыну яшчэ раз — ён загінуў, выконваючы цяжкае партызанскае даручэнне.

«Мяцеліца... Імечка якое прыго-

# БАБРУЙСК, САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ, 105, ТЭАТР...



*Давайце сябраваць!*

**Валерый Шушкевіч (у цэнтры) і Валерый Філатаў на «агеньчыку» ў сярэдняй школе № 3.**



*— Незвычайны ён быў чалавек, наш Еўсцігней Афінагеновіч...*

**Ларыса Федчанка — з першага выпуску Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, Элеанора Шклярава і Леанід Кучко — з апошняга.**

жае»... — гучыць у гаснучай яго свядомасці голас пастушкі...

**Адна з першых работ маладога калектыву спектакль «Разгром» — заяўка творчая, сур'ёзная і, бадай, смелая. Бо для большасці выканаўцаў — гэта першыя крокі на прафесіянальнай сцэне. І тое, што яны не спалохаліся быць незразуметымі (шчыра скажам, бабруйскі глядач, выхаваны на аперэце, не вельмі рвецца ў драматычны тэатр, дзе спрабуюць весці размову па высокім рахунку), і тое, што не пагналіся за танным поспехам, выклікае пачуццё павагі да калектыву.**

Працягам гаворкі, пачатай тэатрам у «Разгроме», стаў у нейкай меры і спектакль па п'есе К. Сіманава «Хлопец з нашага горада» (рэжысёр У. Шуманскі, мастак І. Чумакоў).

Падзеі п'есы адносяцца да трыццатых гадоў і напісана яна па свежых слядах тых гадоў. Можа таму сёння характары здаюцца крыху прастадінейнымі, а ўчынкі — недастаткова матываванымі. Вось чаму, прымаючы п'есу да пастаноўкі, так важна было зусім ясна ўяўляць, у імя чаго будзе пастаўлены спектакль. Хутчэй за ўсё вызначальнай тэмай маглі б стаць словы выдатнага паэта тых гадоў І. Уткіна: «Я хотел бы с песней, с маршем за свободу умереть». Але гэтага, на жаль, удалося дабіцца не ў поўнай меры.

**Галоўны герой п'есы Сяргей Луконін— яго іграе А. Мароз — вельмі ўжо катэгарычны і безапеляцыйны ў сваіх учынках. Ён так фанатычна захапляецца сваёй мэтай, што ў нейкую мінуту ўзнікае трывожнае пачуццё — ці не хоча ён зрабіць кар'еру ў арміі, ці не бяздушны ён чалавек, калі так проста, без усякага шкадавання пакідае любімага чалавека і ад'язджае. Гэта ёсць і ў п'есе. Але там ужо ёсць і тэма «чакай мяне!», якая так натуральна працінае абавязак чалавека сказаць сябру: «Я не магу інакш... Я павінен». Адзін чалавек — частка чалавецтва, нельга гэта забываць. Калі Левінсон з «Разгрома» жорсткі, дык мы бачым, у імя чаго яна — яго жорсткасць. Мы разумеем: на карту пастаўлены лёс рэвалюцыі, быць можа — будучае ўсяго чалавецтва. Сяргей Луконін жыве ў іншы час, ён не заўсёды трапляе ў такія трагічныя акалічнасці, таму ўдвая важна псіхалагічнае абгрунтаванне кожнага яго ўчынку.**

У маладога артыста, натуральна, яшчэ няма вопыту, і пры ўсёй сваёй адоранасці ён не можа часам апраўдаць апантанасць героя. У некаторых сцэнах А. Мароз парадаваў глыбокай шчырасцю, праўдай перажыванняў — першая сустрэча з Варай, няпростая размова з Аркадзем Бурміным у шпіталі пасля ранення. Трэба аддаць належнае артысту — ён спрабуе стварыць вобраз чалавека таленавітага, якому ўласціва абвостранае пачуццё адказнасці за ўсіх і за ўсё: ён пакідае інстытут, ідзе служыць у армію, змагаецца з фашызмам у Іспаніі, потым зноў ваюе з японцамі на рацэ Халхын-Гол. І ўсё-такі хацелася б убачыць характар больш рознабаковы, больш шматзначны, з адценнямі і нюансамі. Тым больш, што побач жывуць і дзейнічаюць сябры Сяргея — яркі, тэмпераментны Гуліашвілі і нясмелы Севасцьянаў.

У выкананні артыста Вячаслава Саладоўнікава Гуліашвілі вельмі светлы чалавек. Ён умее шырока думаць, глыбока адчуваць, ён куды больш уважлівы і добры да Вары, якую вельмі дэкларацыйна любіць Сяргей. Ад Севасцьянава — яго старанна іграе Леанід Кучко — так і праменіць цеплыня, ён мяккі, інтэлігентны. І той і другі не менш перакананыя ў справядлівасці сваёй справы, чым Сяргей Луконін, аднак гэта не перашкаджае ім быць жывымі, чулымі, непасрэднымі.

Герой п'есы ступіў на падмосткі з жыцця і знайшоў пераймальнікаў і прыхільнікаў, як толькі выйшаў на сцэну. Але кожны час нараджае свой тып героя. Сённяшні Сяргей Луконін, натуральна, адрозніваецца ад таго, даваеннага. Ён стаў крышачку больш іранічны, мудры, стрыманы — ён не так адкрыты ў сваіх парывах і наўрад ці будзе гаварыць доўгія дэкларацыйныя маналогі.

**Раскрыццё вобраза галоўнага героя ў многім залежыць ад таго, як складаюцца яго ўзаемаадносіны з блізкімі людзьмі. Ужо з першых рэплік п'есы мы даведваемся, што Сяргей Луконін кахае Вару, а Вара кахае яго. Каханне робіць цуд, яно — натхненне, свабода, жыццё... Вось што павінна ўзнікнуць ад духоўнага сутыкнення двух таленавітых людзей. У спектаклі ж іх узаемаадносіны звяліся да сустрэч і расстанняў, да новых сустрэч і новых расстанняў.**

Вару іграюць дзве актрысы — Надзея Мароз і Валянціна Нежувака. Калі ў Вары—Мароз ёсць яшчэ нейкая тайна, калі ў радзе сцэн яна даволі шчырая, дык В. Нежувака проста іграе жанчыну з нескладаным светам перажыванняў і пачуццяў, якая хоча спадабацца ўсім — і Сяргею, і яго сябрам, і гледачам. У жыцці ўсё было б проста: Луконін, чалавек яркі, буйны, адразу б зразумеў, што з такой жанчынай яму будзе сумна, нецікава і расстаўся б з ёй.

Дарэчы, цяжка паверыць і ў тое, што Жэня (артыстка А. Бендава) столькі гадоў пакорліва і аддана кахае Аркадзя Бурміна (артыст А. Жук). За што? Праўда, мы даведваемся, што Бурмін спачатку дацэнт, потым — прафесар, што ён, як і кожны вучоны, рассеяны і нерашучы з каханай жанчынай. Але ўсё гэта — з набору абавязковых атрыбутаў, якія сталі ўжо штампамі. Акцёру яўна не хапае жыццёвых назіранняў, пераканаўчых дэталяў, глыбокай распрацоўкі характару, каб вывесці свайго героя з разраду ардынарных персанажаў.

Добрасумленны і старанны акцёр, павярхоўна разумеючы сутнасць вобраза, часта робіць на сцэне не тое, што трэба, — толькі б нешта зрабіць. Гавораць, што калі Станіслаўскі запытаўся ў Рахманінава, у чым заключаецца майстэрства піяніста, той адказаў: «Не чапляць суседняй клавішы...» — гэта значыць быць гранічна дакладным.

Могуць запярэчыць, маўляў, акцёры яшчэ маладыя, наперадзе ў іх доўгае акцёрскае жыццё. Усё гэта так. Тэхніка, майстэрства, майстэрства пераўвасаблення прыходзяць з гадамі. Але адлік пачаўся ўжо!

**Толькі два разы з'яўляецца на сцэне лабарантка Жэня — А. Бендава, а — запамінаецца! Праўда, у першае імгненне яна выклікае пачуццё раздражнення — так часта бывае, калі сутыкаешся з нечым нечаканым: непрывычныя інтанацыі яе працяглага, пявучага голасу, яе манера трымацца на сцэне. Але непрыкметна яна завалодвае ўвагай глядзельнай залы, і хочацца слухаць, аб чым яна гаворыць, што яе хвалюе. У А. Бендавай ужо ёсць вопыт работы ў тэатры. Некалькі гадоў яна была ў Мінскім тэатры юнага гледача. Праўда, тут лёс яе неяк не склаўся, і хочацца верыць, што ў маладым тэатры актрысе больш пашанцуе: яна заслугоўвае гэтага.**

**Відаць варта было б спыніцца на работах актрысы Валянціны Дзямянковай, якая з тактам і пачуццём меры сыграла Сюлі, і на маленькай ролі шафёра Сафонава, якую са шчырым задавальненнем і запалам сыграў Мікалай Глушакоў. Але памеры газетнай рэцэнзіі абмежаваныя.**

У Бабруйску нарадзіўся тэатр. Не ўсё дасканала ў першых спектаклях. І ўсё-такі радасна было сустрэцца з маладым калектывам, аб якім можна гаварыць без скідак. Прыемна адзначыць, што на першай афішы значыцца «Разгром» А. Фадзеева, «Хлопец з нашага горада» К. Сіманава, «Ідыёт» Ф. Дастаеўскага, «Трыбунал» А. Макаёнка... Чакаем спектакляў аб нашых днях, аб нашым сучасніку. А калектыў, ад якога чакаюць такое, — гэта ўжо тэатр.

Ірына ПІСЬМЕННАЯ,
спец. карэспандэнт
«Літаратуры і мастацтва».



*У маладым тэатры трэба быць маладой...*
**Артыстка Валянціна Дзямянкова і парыкмахер Людміла Алашэўская.**



*Апошні шывок, і можна выходзіць на сцэну...*
**Касцюмерка Аляксандра Тапароўская і артыст Мікалай Глушакоў.**



*Свяціць заўжды!..*
**Асвятляльнік Жанна Ардынская ля сваёй гаспадаркі.**

Фота Ул. КРУКА.

## НА СЦЭНЕ НАРОДНАГА...



Народны тэатр Баранавіцкага палаца культуры паказаў гледачам новую работу — спектакль па п'есе М. Горкага «Мяшчане». Пастаноўка рэжысёра М. Пячойкінай. Мастак Э. Тарасевіч.

На здымку—сцэна са спектакля: Пётр—В. Болбат, Акуліна Іванаўна—К. Соцкая, Бессямёнаў — В. Заяц.

Фота Т. ЛАПШЫ.

## КІНО. ПЕРАМАГЧЫ СЯБЕ

НА ШОСТЫМ кіламетры, мінаючы чырвоны пікет, я ўжо не бачыў узмакрэлую спіну ўпарцістага, сухажылага Карыткіна. Толькі — вострыя насы сваіх лыж, ды метры на два ўперад утаптаная глыбокая лыжня. Толькі невыносная стомленасць і зайздрасць да радавога Карыткіна, які аказаўся крапчэйшы, засцілі мне свет. Можа сысці з дыстанцыі, тым больш, што ўжо ззаду нехта не раз наступаў на лыжы? І што ў прынцыпе тут такога — ну, стаміўся, выбіўся з сіл. Вунь як сэрца трапечацца ў грудзях, і паветра не хапае, і рэзкім болем у вушах адзываецца гэта лыжнае — жжух, жжух... Сысці з лыжні, расцерці шчокі снегам і па цалюткай белай-белай роўнядзі, міма тонкіх елак, застыўшых у маўклівай нерухомасці, міма гэтых сцяжкоў-пікетаў — напрасткі да фінішу. Палюбавацца па шляху вяртлявым следам беляка, паслухаць папіскванне сініц...

Але што гэта спыніўся Карыткін, чаго ён валтузіцца з крапленнем?.. Ага, левая лыжа — папалам.

Ён хутка адкідвае абломак убок і амаль на агрызку, моцна налягаючы на правую нагу, ідзе далей. Ідзе, чорт вазьмі!..

А я... Пра што я думаю?..

Прыціхла сэрца-верабей, пасвятлела ў галаве і вачах... І бачу я, як разварачваецца на апошнім павароце да фінішу сержант Маркін, як выдыхае ён густыя клубы пары, і крапчэйшымі становяцца мае ногі, і нейкая незразумелая радасць агортвае мяне, і я моцна сціскаю ў руках палкі....

Гэты выпадак з часоў маёй службы ў арміі прыпомніўся, калі я глядзеў дакументальны фільм «Споведзь марафонца» рэжысёра В. Сукманава, знятага па сцэнарыі В. Сечына кінааператарамі А. Дуброўскім, В. Кавалёвым, Ю. Мільтнерам, І. Рамішэўскім у творчым аб'яднанні «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм».

Зразумела, успамін прамільгнуў у адно вельмі кароткае імгненне, але ён, так думаю цяпер, якраз і быў тым імпульсам-іскаркай, які выклікаў у маёй душы суперажывальныя пачуцці. Я далучыўся да дзеяння на экране адразу. Атрымалася гэта, відаць, таму, што ўжо з першых кадраў кранула шчырая адкрытасць спавядальніка-марафонца, які, нетаропка прасуючы майку з нумарам, гаворыць: «Хаця аднаму богу вядома, якой стане гэта форма на дыстанцыі, няпісаны закон марафонцаў дыктуе: выходзь на старт у ідэальным выглядзе».

І яны выходзяць. Ім прадстаіць прабегчы шлях даўжынёй у 42 кіламетры 195 метраў — той шлях, які дзве з палавінай тысячы гадоў таму назад прабег воін з вёскі Марафон у Афіны, каб паведаміць аб перамозе грэкаў.

І бягуць. І ў час гэтага прабегу ідзе расказ пра тое, дзеля чаго яны бягуць, чым увогуле выклікана такая «дабравольная неабходнасць».

Мы амаль не бачым на экране таго, хто нам усё гэта расказвае. Ва ўсякім разе, яго цяжка выдзеліць з групы бегуноў. Але мы слухаем яго дасціпны каментарый і з неаслабнай увагай сочым за людзьмі, якія па сваёй добрай волі выпраўляюцца ў нялёгкі шлях, каб даказаць самім сабе ж, на што яны здольны, адкрыць у сябе невядомыя дагэтуль магчымасці.

Ён апавядае спакойна, нават неяк прыглушанаціха, стрымана, быццам не хоча парушыць атмасферу скрытага змагання чалавека з самім сабой. Зрэшты, не зусім і скрытага — вунь як напяты жылы ў бегуна, вунь які адбітак высокай напругі на яго твары мы бачым у «стоп-кадрах».

Камера ў залежнасці ад тэксту то абганяе марафонцаў, то адстае ад іх, то спыняецца разам з удзельнікамі прабегу. Напрыклад, ідзе размова пра тое, што спартсмен, які зараз бяжыць апошнім, усё-такі рухаецца хутчэй, чым 75 гадоў назад бег пераможца першых алімпійскіх гульняў грэчаскі пастух Луіс. Значыць, можа атрымацца так, што праз якія-небудзь сто гадоў людзі з хуткасцю сённяшніх чэмпіёнаў таксама апынуцца ў хвасце прабегу.

І камера, як бы ілюструючы гэтыя словы, абганяе вялікую групу марафонцаў, якія ўзначальваюць калону.

У апошні час у многіх дакументальных стужках дыктарскі тэкст або адсутнічае зусім, або зведзены да мінімуму. Яго замяняе музыка, напісаная спецыяльна «пад сюжэт». Далёка не ва ўсіх фільмах такі прыём апраўдвае сябе. Думаецца, аўтары «Споведзі марафонца» пайшлі па правільным шляху, арганічна знітаваўшы слова з дзеяннем. Ад старту да фінішу дыктарскі тэкст дакладна і пераканаўча выяўляе душэўны стан спартсмена, перадае яго крытычныя моманты на дыстанцыі, ваганні, і мы не можам не перажываць за яго, не хваляваца разам з ім. Бо, і а сутнасці, гэта расказ у пэўнай меры і пра нас, гледачоў. Хто з нас «...у глыбіні душы не прагнуў даказаць, чалавечую здольнасць перамагчы ўсе цяжкасці, добраахвотна ўзятыя на сябе, са здзіўленнем адкрыць у сабе кладовую новых сіл, калі, здавалася, усе яны вычарпаны...»!

І я зноў успамінаю сержанта Маркіна на апошнім павароце і радавога Карыткіна, які на агрызку лыжы дайшоў (усё-такі дайшоў!) да фінішу.

І калі ён пасля дэмабілізацыі паступіў у Вышэйшае тэхнічнае вучылішча імя Баўмана, скончыўшы яго з дыпломам выдатніка, і працуе ў адным з навукова-даследчых маскоўскіх інстытутаў, — я думаю, што гэта і ёсць працяг яго той армейскай дыстанцыі, якую пераадольваў ён з неймавернымі намаганнямі.

І мне здаецца, што галоўная вартасць фільма «Споведзь марафонца» менавіта і заключаецца ў тым, што ён як бы падштурхоўвае нас змагацца з самім сабой, адкрываючы ў сабе ўсё новыя непазнаныя дагэтуль сілы....

Віктар ПОЛЯК.

# ЧАСОПІСЫ Ў ЛЮТЫМ

## «ПОЛЫМЯ»

**У лютаўскай кніжцы надрукаваны аповесць Р. Няхая «Туман над стэпам», паэма А. Лойкі «З твайго паверху», «Апавяданні пра Сяргея Лусту» П. Кавалёва, вершы А. Бялевіча, А. Астрэйкі, А. Наўроцкага.**

**Пад рубрыкай «Новыя пераклады» змешчаны апавяданні вядомых грузінскіх пісьменнікаў у перакладзе на беларускую мову Т. Цулукідзе, А. Шарахоўскай і А. Пальчэўскага, вершы, Лесі Украінкі (пераклад Хв. Жычкі) — да 100-годдзя з дня нараджэння паэтэсы, Айзіка Платнера (пераклад з яўрэйскай А. Вольскага) — да 70-годдзя з дня нараджэння паэта.**

**Часопіс друкуе пачатак нарыса В. Якавенкі «Дарога цераз гаць».**

**Артыкул Л. Кісялёва «У тыя дні» змешчаны ў раздзеле «Успаміны, дзённікі, дакументы». Увазе чытачоў прапанаваны і артыкул П. Дзядзюлі «Сельская інтэлігенцыя і культура вёскі».**

**Раздзел «Крытыка і літаратуразнаўства» прадстаўлены эсэ «Saxifraga» Ул. Караткевіча, артыкуламі «Удумлівасць, талент, майстэрства» (да 50-годдзя Івана Мележа) А. Кулакоўскага і «Запаветная лабараторыя пісьменніка» (пра майстэрства Янкі Брыля) В. Віткі.**

**Артыкул Г. Кісялёва «Справа падпаручніка Будзіловіча» надрукаваны ў раздзеле «Старонкі нашай гісторыі».**

## «МАЛАДОСЦЬ»

**Нумар адкрываецца вянком санетаў А. Сербантовіча «Курганы».**

**Часопіс друкуе таксама аповесць для кіно «Залаты ганак» С. Палякова, апавяданні «Попел сэрца» Ул. Навумовіча, «Сіні золак» Л. Арабей, «Старонкі з блакнота» Ул. Ліпскага, вершы М. Арочкі, Т. Бондар, Г. Каржанеўскай, І. Калесніка.**

**Пад рубрыкай «Дзень сённяшні» змешчаны артыкул намесніка міністра сельскай гаспадаркі БССР Ул. Самсонава «Здабыткі і перспектывы», фотарэпартаж В. Ждановіча «Чацвёртае кола» (пра жыццё і вучобу студэнтаў-завочнікаў з Беларускага політэхнічнага інстытута).**

**Знойдуць чытачы і артыкулы «Незабыўныя дні» Ул. Гранава — былога сакратара Барысаўскага падпольнага гаркома ЛКСМБ, «Школы суровых дзён» П. Кабрынца, «Легендарны артылерыст» І. Краўцова. «На пераправе» Ул. Смірнова, «Каму быць журналістам?» Б. Стральцова, «Кветка Украіны» (да 100-годдзя з дня нараджэння Лесі Украінкі) Э. Мартынавай, «Як само жыццё» (нататкі пра стыль «Палескай хронікі» Івана Мележа) С. Андраюка, «У жанры дакументальным» С. Міхайлавай і многія іншыя. Тут жа надрукавана інтэрв'ю А. Гардзіцкага з доктарам філалагічных навук Ф. М. Янкоўскім.**

## «БЕЛАРУСЬ»

**Пад рубрыкай «Пяцігодкі год першы...» у нумары змешчаны артыкул П. Суцько і В. Турава «Згуртаваныя адным імкненнем» (пра будні калгаса імя Калініна Пружанскага раёна), нарыс Я. Пархуты «Надзея».**

**Карэспандэнцыі «Творцы разумных машын» Я. Радкевіча, «Падарунак перадавікоў» Ул. Пернікава, «На навуковай аснове» М. Лапусты, «За вышынёю — вышыня» М. Сідаровіча і іншыя прысвечаны з'езду роднай партыі.**

**У часопісе надрукаваны апавяданні «Двор» М. Ракітнага, «Салавей» А. Лазнявога, «Дзе цякла Вусцянка» Ул. Ляўданскага, працяг аповесці «А восьмай вечара...» Д. Маеўскай (пераклад з польскай М. Паслядовіча), вершы А. Бялевіча, В. Лукшы, М. Федзюковіча, В. Яфрэмава.**

**У нумары змешчаны артыкулы «З паэтычных крыніц» (да 50-годдзя Івана Мележа) Б. Бур'яна, «Чырвоны рамантык» (да 70-годдзя з дня нараджэння Міхася Зарэцкага) М. Хведаровіча, «Пісьменніца-інтэрнацыяналістка» (да 100-годдзя з дня нараджэння Лесі Украінкі) В. Ахрыменка, а таксама вершы паэтэсы ў перакладзе з украінскай Э. Агняцвет.**

**У часопісе рэцэнзуюцца кнігі «Мінай Шмыроў» А. Бялевіча, «З клопатам пра песні народа» Н. Гілевіча, «Лукішкі» М. Машары.**

## «НЁМАН»

**Часопіс друкуе заканчэнне рамана М. Кругавых «А зязюля кукавала...», паэму Р. Барадуліна «Блакада» (аўтарызаваны пераклад з беларускай Н. Кісліка), вершы Б. Спрынчана «З палескага сшытка», апавяданне В. Чарняцова «Прагулка ў Джамбейту».**

**Публіцыстыка ўключае артыкулы «Квітней, Беларусь!» А. Міронава і «З чаго пачынаецца Радзіма?» Е. Шарамецьевай. Ул. Рыбін выступае з нарысам «Адна з маіх дарог».**

**Артыкулы «Чалавек — буйным планам» В. Нячай і «Тэма — подзвіг» М. Смірновай змешчаны ў раздзеле «Мастацтва».**

**У кніжным аглядзе надрукаваны рэцэнзіі на новыя кнігі.**

**Артыкул А. Азёмшы «Сустрэча з продкамі» змешчаны пад рубрыкай «На скрыжаваннях мінулага».**

**Ёсць у часопісе раздзел «Усялякая ўсячына».**

---

САМАДЗЕЙНАЕ МАСТАЦТВА. СВЯТЫ І БУДНІ

Л. МЕЛЯШКЕВІЧ

# «А ПАД ГАЕМ ЗЕЛЯНЕНЬКІМ...»

Уладзімір Журовіч ішоў па Лельчыцах і ледзь паспяваў адказваць на прывітанні. Часам спыняўся, каб перакінуцца словам з кім-небудзь са знаёмых, паслухаць навіны, расказаць, што робіцца ў Мінску. Але на запытанні землякоў, над чым працуе зараз, што новага стварыў, адказваў неахвотна. І толькі маладому байкапісцу Паўлу Шыбуту Уладзімір шчыра адказаў:

— Зайздрошчу я табе, Паўло. Ты от цікавішся, што новага зрабіў. А новае — яно тут, у цябе пад бокам. Таму і прыехаў, браце, каб, пачуўшы старое, стварыць нешта новае...

Развітаўшыся з сябрам, Журовіч шпарка пайшоў па дарозе, што вяла да Убарці. Яму карцела прайсціся па знаёмых з маленства мясцінах, бо недзе ў душы Уладзімір спадзяваўся, што калі ўбачыць драўляны масток праз ціхую Убарць, дубовы гай на другім беразе, роднае поле, на якім там-сям бранзавеюць сцірты саломы, да яго зноў вернецца душэўная раўнавага і ўпэўненасць у сабе. У жыцці ж не заўсёды ўсё гладка і добра, асабліва, калі гэтае жыццё творчае. У такія часіны, калі ў душы падымаецца і чамусьці доўга не згасае пачуццё незадаволенасці сабой, Уладзіміра заўсёды цягнула ў родны кут. І яшчэ не было такога выпадку, каб не набываў ён дома спакою і не вёз у Мінск тое, што часам знікала, — творчае натхненне. Гэтай зарадкі хапала на доўгія дні сталічнага жыцця, яна дапамагала ў працы.

За апошнія два гады зроблена нямала: з'явіўся на свет падручнік па музыцы для чацвёртага класа, напісана музыка для дакументальных фільмаў «Песні Палесся» і «Беларусь сінявокая», песня на словы Рыгора Барадуліна «Ленін і Кастрычнік нам усё далі».

У вольны ад асноўнай работы час Уладзімір яшчэ кіруе хорам народнай песні Палаца культуры трактаразаводцаў. А колькі часу забірае «Крыніца» — гарадскі клуб аматараў беларускай народнай песні, якому Уладзімір аддае сэрца і душу! А калі ездзіць дадому, дык ніколі не мінае вёскі Ліпляны, дзе ён стварыў цудоўны калектыў мастацкай самадзейнасці, пра які ведаюць за межамі Гомельшчыны...

Уладзімір уздыхнуў і, узлёгшы грудзьмі на парэнчы мастка, пачаў глядзець на цёмную, колеру настоенага чаю, ваду.

— Добрыдзень! Ото ж я пазіраю, пазіраю — хто гэта? Ажно вы тутака...

Журовіч азірнуўся. Побач стаяла паважнага веку жанчына. Яна трымала аберуч перад сабой кашэль, накрыты чыстым шматком палатна. Ён адразу пазнаў старую Сініцкую, маці Дусі.

Нагадалася, як аднойчы, ідучы па Лельчыцах, раптам пачуў з рэпрадуктара на слупе наўдзіў чысты голас. Ён нават спыніўся, слухаючы песню. Зразумеў, што спявае не прафесійная артыстка. Знаёмы голас. І чаму спявае па радыё? Хто яе запісаў? Калі ішоў міма пошты, убачыў, што гэта спявае Сініцкая з раённага Дома культуры, не ведае, відаць, што мікрафон уключаны! От жа, дзеўка! Ён кінуўся ў дзверы пошты.

Дзяўчына сядзела за сталом, перабірала паперы і спявала. Убачыўшы Уладзіміра, змоўкла, заружавелася ад збянтэжанасці. Ён выключыў мікрафон і пачаў гаворку пра яе голас, пра песні...

І вось цяпер Дуся працуе ў сталіцы і запявае ў хоры... Маці яе стаіць зараз побач, распытвае пра дачушку, дзякуе за клопаты і просіць, каб зайшоў у госці.

Развітаўшыся з Сініцкай, Уладзімір рушыў па беразе да купы дубоў.

---

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ПАРТРЭТ — ГЭТА НЕ ТОЛЬКІ ПАДАБЕНСТВА...



Маці. Эцюд.

Нядаўна ў Брэсце адбыўся вернісаж. Гледачы знаёмяцца з творамі аднаго з папулярных на Брэстчыне мастакоў — Івана Якаўлевіча Фяцісава. Выстаўка адкрыта ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем жывапісца і дваццаціпяцігоддзем яго творчай дзейнасці.

Рэтраспектыўны характар выстаўкі дае магчымасць асэнсаваць вытокі творчай біяграфіі мастака, асноўныя вяхі развіцця яго здольнасцей.

Многае ў Фяцісаве — чалавеку і мастаку вызначылі вогненныя рубяжы вайны. Чатыры гады ў баявой разведцы навучылі Фяцісава добра разбірацца ў людзях. Прывычка назіраць і аналізаваць у многім дапамагае яму ў мастацтве. Яна, на мой погляд, у значнай меры вызначыла і жанравы кірунак яго творчасці.

Фяцісаву дарагія нацюрморты і пейзажы, кампазіцыйны партрэт і тэматычная карціна. Але часцей за ўсё ён звяртаецца да свайго любімага жанру — да кампазіцыйнага партрэта. Бо гэты жанр, як ніякі іншы, адпавядае задачы вобразнага раскрыцця духоўнай сутнасці чалавека. А для мастацтва, як гаварыў яшчэ Бялінскі, няма больш высакароднага прадмета, чым чалавек.

Твар называюць люстэркам душы. Аднак змест партрэта рэалізуецца не ў адным толькі выразе твару. Сутнасць чалавечага характару выяўляецца ва ўсім яго пластычным комплексе, у тым ліку і ў адзенні, і нярэдка нават у рэчах, якія яго акружаюць. Таму Фяцісаў лічыць за лепшае, калі не поўны, дык паясны кампазіцыйны партрэт, які дае больш магчымасцей для псіхалагічных і сацыяльных характарыстык.

Свае партрэтныя кампазіцыі ён вырашае, не адмаўляючыся ні ад публіцыстычнай, ні ад лірычнай інтанацыі. За чвэрць стагоддзя створана цэлая галерэя розных партрэтаў. Розных і па ўзроўні майстэрства і па раскрыцці тэмы. Найбольш удалыя з іх партрэты Героя Сацыялістычнай Працы, дэпутата Вярхоўнага Савета СССР Е. Карачан, даяркі Н. Жук, старога бальшавіка В. Смоліна, знатнай свінаркі П. Тупік, даяркі С. Сысы. Паколькі пісаліся канкрэтныя асобы і даводзілася часам шмат увагі ўдзяляць знешняму падабенству і прафесіянальным прыкметам, гэта перашкаджала іншы раз аналізу ўнутранага свету персанажаў.

Больш вольна адчувае сябе мастак у рашэнні абагульненых партрэтаў, вобразаў збіральных. Жыватворнае зерне эцюда, узбагачанае творчым бачаннем мастака, дае шырокую прастору для свабоднай аўтарскай інтэрпрэтацыі. Менавіта такім шляхам прыйшоў І. Фяцісаў да стварэння раду збіральных вобразаў нашых сучаснікаў, з якіх асаблівым поспехам карыстаецца «Будаўніца». Гэта работа была паказана на абласной, рэспубліканскай, усесаюзнай выстаўках, уключалася ў экспазіцыю работ савецкіх мастакоў у Бухарэсце.

Цікавы па раскрыцці тэмы, глыбіне характарыстыкі і майстэрстве выканання «Беларус-партызан», датаваны 1948 годам. Свежасць фарбаў, прыкметы часу, яркі нацыянальны характар. Востры позірк, сцятыя вусны — усё выдае рашучасць «палешука» стаяць на смерць за свабоду роднай зямлі.

Сапраўдным адкрыццём, кульмінацыяй творчых пошукаў Фяцісава сталі партрэты, створаныя на матэрыяле шматлікіх паездак мастака «по градам и весям» рэспублікі. Найбольш плённай была яго працяглая садружнасць з будаўнікамі Бярозаўскай ДРЭС. Ён першы з мастакоў з'явіўся на будоўлю і за два-тры леты стварыў столькі замалёвак, эцюдаў і завершаных работ, што яны склалі экспазіцыю асобнай выстаўкі на самім будаўніцтве, і затым у Брэсце.

Запамінаюцца партрэты «А. Сярмяжка» і «Дзед Сяўрук» — вобразы перадавікоў будоўлі Бярозаўскай ДРЭС. Абодва — энтузіясты стваральнай працы. Упэўнены, ацэньваючы позірк, магутная шыя і рукі, гатовыя падняць любы цяжар, шырокія, разгорнутыя грудзі і ўся фігура Сярмяжкі гаворыць аб магутнасці і непахіснай волі браць любыя рубяжы. Пластыка партрэта дзеда Сеўрука і асабліва яго ўдумлівы позірк сведчаць аб вопыце і дзелавой мудрасці старога рабочага.

У лепшых тэматычных партрэтах Фяцісаў, беручы як зыходнае знешняе аблічча і вядучыя рысы характару мадэлі, пераўвасабляе іх у абагульнены мастацкі вобраз. Не проста муляр Сярмяжка, а натхнёны будаўнік новага грамадства. Не проста хірург Кананідзі, а носьбіт высокага гуманізму савецкага медыка. Не проста эцюд жаночай галавы, а ўвасабленне трагедыі маці. А гэта ўжо — прыкмета творчай сталасці мастака.

Фяцісаў нейкі час быў адарваны ад станковага жывапісу. Пачынаючы з 1965 года пад яго кіраўніцтвам ажыццёўлены часткова або цалкам праекты мастацкага афармлення амаль усіх музеяў вобласці. Гэтыя цікавыя работы пашырылі творчы



А. Сярмяжка — будаўнік Бярозаўскай ДРЭС.

Ціхенька высвістваў вецер, было холадна і няўтульна. І гэта няўтульнасць выбівала з звыклай каляіны думак. Чамусьці здалося, што наогул няма іх, гэтых думак, а ідзе ён проста так.

Уладзімір спыніўся пад дубам і, злуючы на сваю бездапаможнасць, прыхіліўся да камля. Удалечы відне-



Уладзімір Журовіч.

ліся стрэхі хат, над якімі там-сям уздымаліся грывы дыму. Гледзячы на гэтыя далёкія хаты, ён раптам падумаў, што добра было б напісаць кніжку «Палеская хата». У гэтую кніжку можна ўключыць песні, прыказкі, прымаўкі, і ўсё гэта аздобіць малюнкамі народнай жыткі. А што? Ніхто ж яшчэ такога не рабіў? Над поплавам гракалі вароны, сакатала сарока над галавой, і нешта нібы цененька, сумна звініць удалечыні. Яшчэ адна восень сыходзіць. А так мала зроблена.

За рэчкай, ля капца з бульбай, мітусяцца жанчыны. Чамусьці адразу, убачыўшы іх, прыгадаў маці, прыгадаліся ўсе яе нягоды. І яму стала шкада старую. Рэдка, вельмі рэдка піша ёй... А яна ж усе вочы прагледзела, чакаючы паштальёна. Што ж яна цяпер робіць? «Мама, мама! Даруй мне за ўсё...»

Хваляванне працяло сэрца. Ён адчувае, як наплываюць на яго ціхія, самотныя гукі — нараджаецца музыка. Ён выхапіў з кішэні паперу, і рука з самапіскай таропка забегала па аркушы. І калі скончыў, яшчэ доўга стаяў з заплюшчанымі вачыма, адчуваючы, як тахкае ад хвалявання сэрца. «Мама,—білася ў галаве думка, — мама, гэта песня будзе твая!»

Ціха напяваючы толькі што народжаную мелодыю, Уладзімір шпарка пайшоў дахаты. Словы песні добра можа напісаць Рыгор Барадулін... Ён зробіць гэта, цёпла і шчыра... Гэта ж песня для маці! Журовіч падняўся на ганак, намацаў клямку і адчыніў дзверы. А ля печы на ўслоне сядзела маці і, абіраючы бульбу, ціхім, журботным голасам спявала:

А пад гаем зеляненькім,
А пад гаем зеляненькім,
Рвала дзеўка лён бяленькі.
Яна рвала, тонка слала,
Яна рвала, тонка слала,
К сырой зямлі прыпадала...

«Якая песня!» — застыў ля парога Уладзімір, усхвалявана прыслухоўваючыся да матчынага голасу. Хто ж з дзяўчат перадасць такую сірочую тугу? Дуся Сініцкая? Не, тут патрэбен голас... Валі Пачкоўскай. Так, Валя будзе запяваць. Дзе ж магнітафон? Хутчэй трэба запісаць!

І больш не могучы стрымацца, Уладзімір, падышоў да маці, абняў яе і асцярожна падцягнуў:

Ой, зямліца ты сырая,
Ой, зямліца ты сырая,
Нашто ўзяла бацьку, маці?
Ўзяла маці, усю радзіну,
Вазьмі мяне, сіраціну...

Уладзімір спяваў разам з маці і ўжо бачыў, чуў, як гучыць песня ў выкананні хору.

І песня гэта загучала, калі ён вярнуўся ў Мінск.

Загучала... А колькі прыйшлося папрацаваць над кожным радком, амаль над кожным гукам, каб песня кранала ўсіх... У рэпертуары самадзейнага калектыву шмат беларускіх, украінскіх і рускіх народных песень. Зараз прыбавілася гэтая, асаблівая, хвалюючая...

...Невялікі пакой на другім паверсе Палаца культуры трактарнага завода адведзены хору народнай песні. Шмат сюды прыходзіць юнакоў і дзяўчат на рэпетыцыі. Кожнага трэба навучыць правільна спяваць. А спяваць у хоры, гэта не тое, што аднаму...

Уладзімір стаіць перад хорам, пільна ўслухоўваецца ў галасы, і адчувае, як хваля радаснага захаплення запаўняе ўсю яго істоту. Не стрымаўшы, сам падхапіў песню, падаўся наперад, а рукі лунаюць, як птушкі, кіруючы ўзлётам і спадам галасоў. І раптам увесь скалануўся, неяк пакрыўджана прыгорбіўся і запляскаў у далоні.

— Стоп! Вадзім, ты куды пацягнуў? Чаму не слухаеш, як вядзе ўвесь хор? Не выпінайся... Увага! Пачнём з другога радка.

Узяўшы ў рукі баян, Уладзімір расцягнуў мяхі.

Іграў, слухаў, як спявае хор і чамусьці ўспомніў тыя часы, калі на рэпетыцыю прыходзіла тры, потым дзесяць чалавек. Цяпер ужо шэсцьдзесят. Кіраўніку радасна, што людзі ідуць да яго. І прыняўшы чалавека, паслухаўшы, ён ужо адчувае адказнасць за яго талент, за яго голас.

Калісь Журовіча проста здзівіў Анатоль Карпук. «Музыку разумее і голас добры, але трэба папрацаваць»—адзначыў тады сабе. Цяпер Анатоль ужо сам кіруе хорам у школе, завочна займаецца ў музычным вучылішчы. Калектыву не кідае, бо заняткі ў хоры — гэта не толькі захапленне, адпачынак, але і дапамога ў вучобе.

Жыццё сурова да яго паставілася: пакінула без бацькі, без маці, і ў дарогу хлопца вывеў дзіцячы дом. Цяпер Анатоль цвёрда стаіць на нагах. Трэба будзе пасля рэпетыцыі спытаць у яго, як ідзе вучоба, можа яму патрэбна якая дапамога.

— Стоп! Зоя, даражэнькая, завысака... Раўней трэба, цяплей.

Раптам у дзверы нехта ціха пастукаўся.

— Заходзьце.

— Ой, прабачце, — у клас зайшла Валя Пачкоўская, а за ёй пяцігадовая дачка. — Пакуль збіраліся, дык і спазніліся.

Малая Ірынка часта бывае на рэпетыцыях. Сядзе побач з маці і паціху падпявае. «Гэта добра, што малая так любіць песню, можа з яе некалі атрымаецца вялікая спявачка. А калі не, то ўсё адно не блага будзе ёй расці і жыць разам з песняй...» — думае Уладзімір...

— Ну што ж, прыйшла салістка. Спяём яшчэ нашу любімую...

І палілася песня, меладычная, задушэўная, матчына.

«Трэба адбіць тэлеграму, хай прыедзе, унукаў паглядзіць. Паслухае заадно, як гучыць яе песня...»



Хірург П. І. Кананідзі.

дыяпазон мастака. Вяртанне Фяцісава да жанру станковага жывапісу азнаменавана на выстаўцы дзвюма работамі, датаванымі 1970 годам, —«Да сонца» і «Пераймальнасць». У іх адчуваецца пошук новых стылявых рашэнняў.

Дэкаратыўнае пано (эскіз насценнага роспісу) «Да сонца», вытрыманае ў залаціста-зялёнай гаме, успрымаецца як паэтычны гімн каханню і прыгажосці. Глядач, які прывык да пастознага жывапісу мастака, прыемна здзіўлены лаканізмам і яснасцю плоскаснага рашэння. З нейкай асаблівай прыгажосцю перададзена паэзія чалавечага цела.

Станковая кампазіцыя «Пераймальнасць» прысвечана вялікай тэме эстафеты пакаленняў. Тэма, як кажуць, пастаўлена, але не вырашана. Калі гаварыць па вялікім рахунку, мастак паказаў толькі эскізны варыянт. Але несумненна: зроблена сур'ёзная заяўка на арыгінальнае раскрыццё тэмы, якая патрабуе новых выяўленчых сродкаў.

Абедзве апошнія работы Фяцісава пераконваюць: творчы патэнцыял мастака тоіць у сабе нязведаныя магчымасці, і мы можам чакаць ад яго новых адкрыццяў.

Аркадзь СУРСКІ.

Ул. СТЭЛЬМАХ

# ВЕРНАСЦЬ

*Да 70-годдзя з дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў БССР М. МІЦКЕВІЧА*



М. Міцкевіч.

КАЛІ Я ЎСПАМІНАЮ майго сябра і настаўніка Мікалая Антонавіча Міцкевіча, калі зноў і зноў вяртаюся да яго жыцця, дык уяўляю сабе імклівую раку, якая нясе свае воды да мора. Іншы раз здаецца, што ўсё ідзе без напружання. Але гэта толькі здаецца... Рака спакойная толькі на паверхні. Там, у глыбінях яе, ідзе нястомная, бясконцая праца.

Міцкевічу пашчасціла адкрываць заслону Першага Беларускага тэатра. Ён працаваў рабочым сцэны, суфлёрам, а потым акцёрам. Разам са сваімі сябрамі—К. Саннікавым, А. Ільінскім, С. Станютай—М. Міцкевіч едзе ў Маскву. Там яны паступаюць у Беларускую драматычную студыю. Жылі напружаным творчым жыццём. Праўда, іншы раз даводзілася разгружаць вагоны з вугалем ці дровамі—было цяжка. Але не гэта ўспаміналася. Успаміналіся спектаклі МХАТа, Малага тэатра, тэатра Меерхольда, К. Станіслаўскі, І. Масквін, В. Качалаў, П. Садоўскі, М. Ярмолава, А. Яблачкіна...

Ужо ў першыя гады вучобы М. Міцкевіч пачаў захапляцца рэжысурай. У адным са студыйных спектакляў ён выступае, як асістэнт рэжысёра і аўтар кампазіцыі па п'есе «Цар Максіміліян». У спектаклі былі багата выкарыстаны беларускія народныя песні, танцы, музыка, якія дапамагалі раскрыццю вобраза спектакля. «Цар Максіміліян» стаў своеасаблівым камертонам для далейшай рэжысёрскай працы Міцкевіча над беларускімі творамі.

Упершыню я сустрэўся з Мікалаем Антонавічам у 1927 годзе ў драмгуртку Мінскага клуба «КІМ», дзе ён працаваў з намі над «Цудоўным сплавам» У. Кіршона. (Пазней кімаўскі драмгурток стаў асновай Беларускага ТРАМа). Пасля прэм'еры Міцкевіч параіў мне, А. Тэлічану, Л. Новіку паступаць у студыю пры БДТ-2.

Кіраўніком студыі, яе душой і асноўным педагогам па акцёрскім майстэрстве быў М. Міцкевіч. Вялікае значэнне прыдаваў ён кожнаму нашаму выступленню на сцэне, патрабаваў з адказнасцю ставіцца да кожнага выхаду ў масоўцы. Мы вучыліся валодаць голасам, рухацца на сцэне, грыміравацца.

Мы ўсё больш і больш любілі свайго настаўніка—такога сціплага чалавека з прыгожай душой і добрым сэрцам, які з радасцю дзяліўся сваім вопытам і майстэрствам з кожным вучнем.

Хвалюючай падзеяй для ўсяго калектыву стаў спектакль «Разлом» Б. Лаўранёва (пастаноўка С. Розанава), у якім мы былі заняты толькі ў масоўках, а Міцкевіч іграў ролю здрадніка, ворага рэвалюцыі афіцэра фон Штубе.

Міцкевіч «ляпіў» характары выразныя, запамінальныя. Колькі гадоў прайшло, а забыцца не магу на яго Часаўшчыка з «Крамлёўскіх курантаў»...

Творчы шлях рэжысёра Міцкевіча непарыўна звязаны з творчым шляхам тэатра імя Якуба Коласа. Дзякуючы Міцкевічу на коласаўскай сцэне ўбачылі святло рампы «Качагары» І. Гурскага, «Напор» А. Александровіча, «Заложнікі» А. Кучара, «Алазанская даліна» К. Губарэвіча і І. Дорскага, «Песня нашых сэрцаў» В. Палескага, «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы і інш.

Яго спектаклі вызначаліся ўменнем «угрызацца» ў аўтарскі тэкст і «здабываць» з яго як мага больш. Але ніколі ён не прымушаў аўтара працаваць «пад сябе», не злаваўся, а заўсёды па-сяброўску, чула, тактоўна даводзіў сваю думку драматургу. Ад акцёраў патрабаваў выразных сродкаў у абмалёўцы таго ці іншага вобраза, яркага знешняга малюнка і глыбокага мастацкага пераўвасаблення. Але разам з тым ён прыслухоўваўся да кожнага слова акцёра, пажадання, даваў прастору яго творчай індывідуальнасці.

У 30-я гады Міцкевіч з болем у сэрцы вымушаны быў пакінуць любімы калектыў. Ён працуе ў Харкаўскім, а потым у Палтаўскім тэатры імя Гогаля. Тут ён паставіў «Браняпоезд 14-69». Ус. Іванава, «У стэпах Украіны» А. Карнейчука, «Наталку-Палтаўку» І. Катлярэўскага, «Фальшывую манету» М. Горкага і інш.

Спектаклі беларускага рэжысёра Міцкевіча карысталіся заслужанай любоўю ўкраінскіх гледачоў.

У гады Айчыннай вайны Мікалай Антонавіч працаваў у адным з франтавых тэатраў, а ў канцы 1942 года вярнуўся ў родны калектыў коласаўцаў.

Першая пастаноўка пасля вяртання — «Нашэсце» Л. Ляонава. Творчая атмасфера панавала паўсюды: на сцэне, за кулісамі, у глядзельнай зале, у якой апрача рэжысёра прысутнічалі вольныя ад спектакля акцёры і ўсе працаўнікі тэатра. Усе хваляваліся за лёс новай пастаноўкі. У тую пару адышла ўжо ад маіх настаўнікаў і сяброў першая маладосць; на змену ёй прыйшло майстэрства, патрабавальнасць і другая маладосць, якая не пакідае сапраўднага артыста ўсё жыццё.

Спектакль «Нашэсце» ў пастаноўцы М. Міцкевіча прагучаў як драматычная сімфонія мужнай барацьбы савецкага чалавека за сваё шчасце і свабоду, за родную краіну.

З асаблівым натхненнем працаваў Міцкевіч над новай сцэнічнай пастаноўкай «Крамлёўскіх курантаў» М. Пагодзіна ў вызваленым ужо Віцебску. Дзень і ноч рэпеціравалі, сустракаліся з людзьмі, якія ведалі Леніна, чыталі і спрачаліся, думалі, каб потым расказаць гледачам аб адной з хвалюючых старонак гісторыі нашага народа. Такі спектакль натхняў віцяблян, якім у гэты час прыходзілася нялёгка: горад ляжаў у руінах, знясілены ад вайны.

Плённай была праца рэжысёра з маладымі тады аўтарамі К. Губарэвічам і І. Дорскім над камедыяй «Алазанская даліна». Гэтая п'еса сапраўды нараджалася ў тэатры пры непасрэднай дапамозе яе пастаноўшчыка М. Міцкевіча. Спектакль вабіў сваёй паэтычнасцю, яркімі вобразамі.

І яшчэ мне хочацца сказаць пра спектакль «Разлом» Б. Лаўрачёва, па сутнасці нанава пастаўлены рэжысёрам у 1951 годзе. М. Міцкевіч імкнуўся падысці да вырашэння класічнага твора па-новаму, паглядзець на яго сучаснымі вачыма, падкрэсліць рэвалюцыйнае і рамантычнае гучанне п'есы і спектакля.

Ён быў рэжысёрам-будаўніком тэатральнага ансамбля ў лепшым і самым шырокім сэнсе гэтага слова.

### 3.

Улажыўшы малых, людзі адчулі сябе вальней.

Паступова багамолаў вакол цэркаўкі агарнуў містычны ажыятаж. Яны ўжо чакалі суднага дня і калаціліся ад страшэннай няўпэўненасці — выцягне лёс ім запаветны білецік у рай ці шпурне ў адхлань вечных пакут і цярпенняў? Людзі пападалі на калені, пачалі аддана маліцца.

— Бом!.. — голасна, трывожна і сумна прагучаў у вячэрняй цішы галоўны звон.

— Цілім-цілім-цілім! — адразу заўторылі яму меншыя.

— Госпадзі памілуй, госпадзі памілуй, госпадзі памілуй! — пранёсся шэпт, нібы вецер прашуршэў вялізнай гурбай сухога лісця.

Сярод багамолаў шаптаў малітву і Альяш. У яго «Пасланні» вызначаны быў толькі дзень, а цяпер людзям не цярпелася ведаць—калі ж наступіць той самы момант: раніцай, у абед, вечарам? Многія хацелі ўдакладніць, крадком прабіраліся да прарока і спрабавалі спытацца, але Альяш маўчаў. Пару разоў прарок нервова ўсхопліваўся і некуды выбягаў.

— Ходзіць з усявышнім гутарыць — падказала Піліпіха.

— Вядома, клопату цяпер у яго — як у генерала!— згадзіліся іншыя.

І Альяша пакінулі ў спакоі.

Дзядзьку Клімовічу сапраўды было не да іх. Тое, што аб'яўляў ён людзям і ў што, магчыма, сам верыў, было з галіны фантазіі, гульні. Практычнага мужыка цяпер разбірала вінаватая ўзбуджанасць і непакой. Мітусіўся ён і выбягаў з натоўпу ад прадчування небяспекі — агорнуты страхам, падсвядома, дзядзька шукаў выйсця з крытычнага становішча.

У гэты час Грыбоўшчына ўкладвалася да сну. Толькі ля плоту на каменнях сядзела купка моладзі. Юнакі і дзяўчаты слухалі званы і абгаворвалі падзею.

— Ну, сёння свінні мелі чым пажывіцца на выгане! — заўважыў адзін хлопец. — Столькі хлеба, сыроў, яек багамолы пакідалі там!..

— Цэлы тыдзень будуць падбіраць! — падхапіў другі.

— І рыззя рознага колькі там валяецца! — дадаў другі.

— А наша цялушка ледзь не падавілся! — пахвалілася дзяўчына. — Хустку засмактала! Добра, што тата ўбачыў і выцягнуў. Дарагая і яшчэ зусім новая шаляноўка.

— Будзеш мець да пасаг! Памый толькі, а то замуж не вазьму!..

— Наш малы навалок з дваццаць лахманоў розных, але тата прымусіў яго назад усё занесці.

— Пакідалі ўсё, быццам ім нічога ўжо не трэба!

— І выдумалі ж — канец свету!..

— Падурэлі людзі!

— Ці толькі яны. А як набожныя яўрэі ў Крынках перад сваім новым годам шалеюць? Аж дзіва бярэ! І гэтаксама мітусяцца, і пеўняў белых над галавой рэжуць, і нічога не ядзяць, адно моляцца — быццам ужо больш і на свеце не збіраюцца жыць!..

— А ў шабас нават свечку не запаляць.

— У суботу нават ключы ў кішэнях не носяць!..

Потым пачалі абгаворваць католікаў, набожных татар з Крушнян...

— Эх, трэба ісці спаць, — пазяхнула нейкая дзяўчына. — Канца свету не будзе і трэба зноў ісці на той халерны торф!

І моладзь разышлася па хатах. Над соннай вёскай плылі магутныя гукі бронзавых волатаў.

### 4.

Людзі каля царквы — хто на каленях, хто лежачы пластом на зямлі — маліліся ўсю ноч. Усю ноч на цэлую акругу білі званы:

— Бом!.. Цілім-цілім-цілім!..

— Бом!.. Цілім-цілім-цілім!..

Нарэшце стала світаць. Было халаднавата, сыра, але ніхто гэтага і не адчуў: вось-вось мелася адбыцца і жаданае, і страшнае.

Калі ўзышло сонца, людзі згрудзіліся яшчэ цясней. У нейкім першабытным жаху яны зыркалі на неба і калаціліся, як у ліхаманцы. Кожныя пяць мінут на званіцы мяняліся званары, успатнелыя мужыкі з усяе сілы цягалі за вяроўкі, усё гэтак жа гучна і прызыўна біў першы звон, нібы казаў:

— Прыйдзі-і!.. Прыйдзі-і!..

Усё гэтак жа меншыя таропка дабаўлялі:

— Мы цябе чакаем!.. Мы цябе чакаем!..

Папрачыналіся галодныя дзеці і палезлі да бацькоў. Іх білі, адганялі, але нічога не дапамагала — малыя ўзнялі лямант.

Нехта запрапанаваў сабраць іх разам і пад наглядам мацярок з груднымі малымі, з торбамі ежы адправіць на балота збіраць кветкі. Чакаць запаветнага часу яшчэ трэба было, мажліва, і некалькі гадзін, таму ўсе згадзіліся, і мацяркі пачалі даваць малым апошнія наказы:

— Манечка, калі загрыміць і заблішчыць, адразу бяжы сюды, мілая! А калі згубішся — не плач. Падыдзі да ангела і скажы яму — хачу да мамы! Ён цябе і давядзе. Толькі ветлівенька прасі, дачушка!

— І ты, Міколка, глядзі, будзь ветлівым. Мо вас сам гасподзь бог будзе пытацца пра нешта, то скажы яму, чый ты сын, пакланіся ў ногі і ручку пацалуй. Ён будзе такі стары, барадаты, як наш дзед Мікодым. Пазнаеш яго адразу.

— А як захочуць вас, дзеткі, у ангелы браць, то вы не супраціўляйцеся. Бо будзе вам добра-добра.

— І крылцы нам дадуць?

— А як жа! Святы Пятро падрыхтаваў вам і белыя, і жоўценькія, і рабенькія.

— Назусім?

— Назусім!

— І з пёркамі?

— Вядо-ома!

Дзеці пайшлі...

Мінуў час абеду, а званы ўсё галасілі на ўсю моц. Гэтак жа галасілі яны і праз пару, і праз пяць гадзін, і калі сонца пачало хіліцца к заходу...

З вяночкамі на галовах, з піскарамі і конікамі ў кошычках і скрыначках вярнуліся з балота засумаваныя па бацьках дзеці — перамурзаныя, з зялёнымі плямамі на адзенні. Шчаслівыя малыя пачалі хваліцца трафеямі, але бацькам было не да іх.

Толькі цяпер пачалі ачынацца сектанты.

Людзі са здзіўленнем і з насцярожанай трывогай сталі кумекаць, што нічога не здарылася. Свет не толькі не разваліўся — ён нават не здрыгнуўся.

І дрэвы, і платы, і хаціны стаялі сабе, як заўсёды. Сяляне вярталіся з поля. Грыбоўшчынскія пастушкі гналі дадому кароў. Мужчыны з разакамі на плячах валакліся ад торфу. Нейкая фурманка плялася з Крынак...

Калі стала ўжо ясна, што не будзе ніякага канца свету, Альяш з апосталамі пачалі радавацца і казаць, што бог перадумаў і вырашыў судны дзень адкласці.

— Гасподзь бог усявышні спусціў нам вялікую міласць — дазволіў яшчэ несці нам крыж на грэшнай зямлі, каб яшчэ раз выпрабаваць нашу веру ў яго!— аб'явіў усім Данілюк. — Радуйцеся і лікуйце, ісцінна вам гавару!

Людзей гэта раззлавала.

Адчуваючы, як у натоўпе мяняецца настрой, Альяш

Аляксей КАРПЮК




з апосталамі вышмыгнулі з тлуму. Непрыкметна пазнікалі і ўсе «трэція свяшчэннікі».

Грыбоўшчынскія мужчыны потым бачылі, як у кустах разлютаваная Тэкля адчытвала нявенчанага мужа:

— А-а, дык ты ніякі не святы-ы? То ты ўсё гэта вы-ыдумаў? Ах, стары чорт!

Гэтым часам людзей вакол царквы агарнула дзікая і роспачлівая паніка: яны засталіся без граша, без даху над галавой, з бяздомнымі дзецьмі на руках.

— Нас ашука-алі! карау-ул! — раптам закрычаў нехта з фанатыкаў.

Людзей нібы прарвала. Узняўся крык і лямант.

— Бо-ожа, забралі ўсе грошы, забралі усенькае наша багацтва і кінулі нас на скананне!

— Ашуканец!

— Разадраць яго мала!

— Паліцыю трэба выклікаць, бо ўцячэ:

— Яны адно за адно-о! Мы самі яго рашым!

Разлютаваны натоўп рынуўся да хаты свайго былога ідала.

— Пустая-ая!.. — са шкадаванне аб'явілі тыя, што дабеглі першыя. — Нічога, нікуды не дзенецца, ён недзе тут блізка!..

Адны разбегліся шукаць яго па вёсцы, іншыя памчалі ў поле, пачалі шнырыць па кустах.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

### 1.

Раптам пранеслася чутка, што прарок з Грыбоўшчыны — зусім не Альяш Клімовіч, а — белагвардзейскі афіцэр з арміі Балаховіча. Гэты нягоднік, каб нажыцца на бедным і цёмным народзе, узяў сабе чужое прозвішча і прыкінуўся святым, а ў самога — аж чатыры маладыя жонкі, цэлыя мяшкі золата ў агародчыку закапаны. Столькі гадоў ён прыкідваўся непітушчым, а самому, мярзотніку, аж з Парыжа прывозілі розныя віна...

Усе гэтыя падрабязнасці па тым самым бяздротавым тэлеграфе ляцелі ў народ.

— Ашукаў і гэты!..

— Ах, як ло-оўка ён нас!..

— Зноў буржуі нас абдуры-ылі! — ляцела з вёскі да вёскі.

— Дакуль будуць паны з нас здзекавацца?.. І калі ўжо гэта скончыцца?!.

— А ўсё таму, што мы іх не правучылі як след!

— А і праўда, няўжо мы не можам каторага прыціснуць, каб і другім было непаваднa?..

Паступова чужых людзей на вёсцы не стала, аднак Альяш мазоліць вочы людзям асцерагаўся. Не могучы і мінуты пасядзець без справы, ён асцярожна пачаў начамі выязджаць на поле з плугам ці бараной. Толькі жыў не дома — адпраўляўся спаць да суседзяў, куды Тэкля насіла яму гаршчок з кашай.

У гэты час больш за сотню кіламетраў ад Грыбоўшчыны, пад Бельскам, самыя заядлыя ў мінулым Альяшовы паклоннікі рыхтавалі яму пакутніцкую смерць.

На скрыжаванні дарог Белавеж — Гайнаўка — Заблудаў з адпаведнымі малітвамі і заклёнамі спілавалі бяльчане ноччу дуб, змайстравалі крыж, бабы павязалі на яго ільняны фартушок. Тады некалькі сотнь мужыкоў узялі гэты крыж і пакрочылі пад Крынкі. Ішлі яны праз Заблудаў, Міхалова, Гарадок, Случанку. Куды яны валакуць гэтую ношу, бяльчане маўчалі. Прызналіся, чамусьці, толькі аднаму нашаму Салвесю.

Страшавец ехаў якраз з млына і дзіўную працэсію спаткаў на вялілскай дарозе.

— Куды гэта вы, мужчынкі? — добразычліва пацікавіўся дзядзька. — І з такім цяжарам! Хіба коней у вас няма?

— Так трэба. Ідзем правяраць Ілью! — адказаў яму адзін бяльчанін.

Другі нядобра бліснуў вачыма:

— Мы ўжо яго праве-ерым, не сумнява-айся! Болей не захоча абдурваць ніколі!..

— І другім закажа! — кінуў трэці.

### 2.

Бяльчане з крыжам прыбылі ў Вершалін на світанні.

Мужчынам пашанцавала — яны адразу натрапілі на дом, дзе начаваў прарок. Дзядзька ўсю ноч баранаваў за гумнамі, толькі што распрог свайго змарэлага буланчыка і збіраўся ісці снедаць. У гэты момант яго і сцапалі.

Адны бяльчане пад ліпай пачалі капаць ямку, іншыя вывалаклі Альяша з падворка, паставілі ў круг. Мажны і высокі Іван Антанюк з белавежскай вёскі Масева, які быў за старэйшага, выйшаў да прарока і аб'явіў:

— Ілья, не злуй на нас, але ўсе людзі кажуць, што ты—белагвардзеец! Ты чуў пра гэта?

Перапалоханы стары памаўчаў, потым здзівіўся не сваім голасам:

— Я — белагвардзе-ец?!

— Так усе гавораць! І мы прыйшлі праверыць! Бо мы хочам па-справядлівасці, каб нікому крыўды не было! Цябе мы зараз укрыжуем. Калі на самай справе ты святы, то няма чаго табе баяцца — уваскрэснеш на трэці дзень, як Ісус Хрыстос...

— А калі не, то здохнеш на бервяне, як сабака! — не вытрываў, крыкнуў з пагрозай нехта з мужыкоў.

— Але! — з ноткай ужо нядобразычлівасці і скрытай пагрозы пацвердзіў старэйшы. — А гэтыя тры дні мы павартуем ля крыжа, паназіраем за табой і нікога не падпусцім!

Наступіла цягучае маўчанне.

На вёсцы вяла прамычалі сонныя каровы, якіх гаспадыні павыганялі на вуліцу. Побач двое мужчын дзелавіта падсякалі перашкоды і выкідвалі з ямкі зямлю — нібы збіраліся ўкопваць для плота слуп. Добра было чуваць, як мужчыны пры гэтым спрачаюцца:

— Казаў табе — тут шмат халерных карэнняў!

— А дзе ты хацеў — каменіца!.. Там зноў — дарога і зямля вельмі зляжалая!

— Ну, ужо лепшага месца не знайшоў!..

— Не будзь такім панам — ліпавы корань лапата рэжа, нібы масла!..

— Ладна. Яма ўжо — паўтары аршыны!.. Хопіць, крыж будзе цяпер стаяць!..

— Хлопцы, нясіце яго!

Добры дзесятак мужчын дружна хапілі дубовае бервяно з перакладзінай і палатняным фартушком ды, паступова ўзнімаючы перакладзіну ўверх, пасунулі тоўсты канец у ямку. Было чуваць, як цяжкі камель гупнуў на дно.

— Прастуй цяпер!.. Лявей яго, лявей!.. О, та-ак!..

— Прысыпай!

На іх закрычаў Антанюк:

— Стоп, сто-оп! Трэба прымерыць, ці не будзе ён дставаць нагамі да зямлі!

Два мужыкі хапілі Альяша пад пахі і павалаклі да крыжа.

— Во-о, яшчэ запасу колькі — болей, як паўаршына!.. — здаволена праказаў бяльчанін. — Цяпер ужо можна і прысыпаць! На, Іване, патрымай яго, а то ўцячэ яшчэ, халера! Мікалай, а ты глядзі, каб не пакасіла яго, покуль будзем засыпаць!

Мужчыны, не надта спяшаючыся, сталі пакрысе кідаць у ямку пясок ды старанна нагамі ўтрамбоўваць, а тым часам Іван Антанюк моцна трымаў за локаць амярцвелага дзеда.

Гэты здаровы і валахаты дрывасек з Белавежы, які і з зубром мог бы падужацца, свабоднай рукой выняў з кішэні сваёй світкі малаток, вострыя і новенькія ўхналі-цвікі, паказаў Альяшу, «суцешыў»:

— Нічога, нічога, я табе быстра гэта зраблю, балець доўга не будзе, не бойся!..

Клімовіч маўчаў. Скажы ён супроць хоць адно слова, і злыя, ашуканыя людзі задушылі б яго тут жа, яшчэ перад тым, як распяць.

### 3.

Нашы страшаўцы, як і Альяшовы аднавяскоўцы, байкам Клімовіча не верылі. Глядзелі яны на паломніцтвы, на суцэльныя кірмашы ў Грыбоўшчыне і пляваліся. Аднак да земляка нічога не мелі. Паводле іхняй думкі — чалавек не вінаваты, што існуе столькі дурняў.

Альяшу грыбоўшчынцы нават сімпатызавалі. Бо праз яго яны нарагаталіся і з папоў, і з архірэяў, і з паноў.

Адным словам, паводле аднавяскоўцаў дзядзьку Альяша яшчэ можна было цярпець. Той раніцы большасць з іх ахвотна яму дапамагала б, але людзі яшчэ ўсе спалі.

У крытычную хвіліну Тэкля несла ў гладышу снядане нявенчанаму мужу і спаткала збітых у гурбу пастушкоў. Хлопчыкі збіраліся на ранкі выганяць кароў.

— Цётко! — закрычалі яны здалёк. — А там вашага Альяша хочуць да крыжа прыбіваць!

— І цвікі падаставалі ўжо!

Жанчына выпусціла вузел у пясок і паляцела да солтыса — Курзы Сцяпана.

Тэкля ўбегла на пусты падворак. У Курзаў, чамусьці, было насцеж адчынена акно. Жанчына сунула ў яго галаву, прыгледзелася.

Апрануты Сцяпан сядзеў на ўслоне, а расчахраная яго Нінка — на ложку. Устрывожаны солтыс гаварыў сваёй жонцы:

— Хопіць, што нарваўся тады з Юзікавым трупам, і паліцыя мяне доўга пілавала, навошта замальдаваў! А халера іх зразумее, чаго ім трэба і як дагадзіць!

— І я памятаю, як цябе сам староста палохаў! — падхапіла Нінка. — Правільна, на гэты раз ты не лезь, разбяруцца самі!

— Лезці я і не думаю!

Да ўзбуджанай і перапалоханай Тэклі не даходзіў сэнс гутаркі паміж мужам і жонкай. Яна закрычала:

Заканчэнне. Пачатак у нумарах за 15, 22, 29 студзеня і 5 лютага г. г. Аповесць надрукавана са скарачэннямі. Цалкам будзе друкавацца ў бліжэйшых нумарах часопіса «Москва».

— Сцяпа-ан! Ні-інка! Што гэта ро-обіцца? Хутчэй адчыняйце хату!

Жанчына матнулася ад акна.

Тэклі давялося доўга барабаніць у дзверы, покуль у іх з'явілася ў начной кашулі солтысіха.

— Нінка, кліч свайго Сцяпана! — выдыхнула яна і паімкнулася прарвацца ў сені. — Няхай збірае хутчэй людзей, бо там з Альяшом хочуць зрабіць...

Солтысіха заступіла ёй дарогу, прытрымала дзверы і аб'явіла з прытворным шкадаваннем:

— Калі мой Сцяпан прыхварэў крыху. Ты мо збегай па другіх мужчын.

Тэкля заўважыла праз Нінчына плячо, як солтыс з кухні сігае ў свіронак, і ўсё зразумела.

— А-а, дык твой умывае ру-кі, та-ак?

Тут солтысіха пабачыла, што няма чаго болей прыкідвацца, і выбухнула:

— А ну яго з тваім Альяшом! Сцяпан ужо аднойчы ўмяшаўся, дык доўга адвязацца не мог. Нават я чула, як сам староста яго лаяў. А што, хіба ён кепскае што хацеў? Цяпер староста няхай і разбіраецца.

Пабачыўшы, што недарэмна траціць час, Тэкля кінулася да Альяшовага зяця. Уварваўшыся ў хату, пачала яго тармасіць, упрошваць:

— Волесь, Волесь, уставай! Глядзі, што хочуць зрабіць з тваім цесцем. Вольга, скажы ты яму, няхай устае, будзіць мужчын і ратуе бацьку! Даруйце старому дурню, будзьце хоць вы разумнейшыя!

І покуль Аляксандр апранаўся, Тэкля з Вольгай кінуліся ў суседнія хаты будзіць людзей.

### 4.

Нарэшце, крыж быў падрыхтаваны. Бяльчане чакалі, што перад смерцю скажа прарок: яны ж не бусурмане якія, каб адразу адправіць чалавека на той свет.

Стары доўга маўчаў. Дзядзька, аднак, быў не без здольнасцей, і прыроджаны талент падказаў яму выйсце. Альяш нейкім мяккім і спакойным голасам, якім ніколі і не гаварыў з людзьмі, сказаў:

— На крыж? Можна і на крыж! Для кожнага раба божага найвялікшае шчасце — прайсці па цярністаму шляху Ісуса Хрыста, сына божага, і быць за народ укрыжаваным. Але ж толькі што я з поля вярнуўся, прыязджаў да дому каня карміць. Вось яшчэ і рукі ў зямлі, бачыце? Баранаваў я, сынкі мае, з расой бульбу і не маю цяпер у сабе святасці, з уваскрэсеннем нічога не выйдзе, мабыць... Дайце мне памаліцца, уабраць божую сілу ў сябе, і тады ўжо рабіце са мной, што хочаце.

Мужыкі маўчалі, думалі. Мабыць, чалавек і праўду кажа. І які ён, да д'ябла, афіцэр? Які дурань выдумаў гэта? Заскарузлыя, як капыты, рукі. Такая самая, як на іх, кужэльная кашуля на старэчых і вострых, бы ў птушкі, грудзях. Аднак, халера яго ведае, і праверыць не пашкодзіць. Ну і што? Праверым, толькі пару гадзін пазней, якая розніца?

Цеснае кола сялян расступілася.

Бяльчане яшчэ паназіралі, як Альяш, увайшоўшы ў хату, бухнуў перад іконамі на калені і пачаў маліцца. Тады цалкам супакоеныя людзі, выставіўшы варту, паваліліся на мурог і пасля стакіламетровай дарогі без адпачынку паснулі сном змардаваных да смерці істот.

### 5.

Гэтым часам сабраліся ўжо грыбоўшчынскія мужчыны і абрынуліся на вартаўнікоў:

— Вы чаго прычапіліся да старога чалавека?

Бяльчане хацелі захаваць павагу да той незвычайнай місіі, дзеля якой прыйшлі, і таму прамаўчалі.

Грыбоўшчынцаў гэта раззлавала.

— У вас — што, дома няма ні жонак, ні работы?

— Абібокі вы ці дурні!

— Во, і крыж прывалаклі для дзеда! А вы падумалі, што вас паліцыя пазабірае за гэта і судзіць усіх будуць?

— А чаго ён брэша байкі? — не вытрымаў і агрызнуўся адзін бяльчанін.

— Хто цябе застаўляе верыць? — адразу прычапіўся да яго Чарнецкі.

— Скажы, які стары не кажа баек? — дапамаглі яму.

— Не было чаго табе рабіць, ты і патураў яго казкам, а цяпер яшчэ вінаватага шукаеш, так? Гадка вам, людзі!

— Совесці няма!..

— Бо пазашываліся ў сваю пушчу, жывуць з зубрамі і аленямі, нават думаць развучыліся! Во, ты ж нават і не ўмываўся ўжо з месяц, ці не праўда?

— Што — месяц? Ён ад вялікадня не мыўся!..

Покуль так грыбоўшчынскія мужчыны спрачаліся з гасцямі, Альяшоў зяць са старым Аўхімюком Базылём праніклі ў хату. Блакіраваны дзядзька Клімовіч усхапіўся з падлогі і паўзіраўся на іх з вялікай надзеяй.

— Халера на цябе, ці я табе, Альяш, не казаў, — ты яшчэ дажывешся, што яны табе галаву скруцяць за твае выдумкі?

— Казаў ты, Базыль, было гэта...

— Дзе твае апосталы? — касціў яго сябра далей.— Дзе тыя жулікі — Рогусь той, Данілюк Каменскі, Бельскі з Пянькоў? Дзе святыя дзевы?! Паўцякалі! Пакінулі цябе аднаго з ашалелымі сектантамі. Ты іх спарадзіў, а яны цябе парашаць!

— Дальбог праўда, Базыль, дальбог! Гэтым людзям я ўсю душу... Усяго сябе... Я ім найлепшыя званы раздабыў! Толькі ў Кракаве такія бываюць у касцёле...

Клімовіч расплакаўся.

А ў гэты час Волесь дужаўся з акном, якое дагэтуль ніколі ніхто не адчыняў. Нарэшце яно расчынілася і зяць выглянуў на падворак. Там стаяла Тэкля і давала знак.

— Дзядзька Альяш, — шапнуў Волесь, — вартаўнікам нашы зубы загавораць, а вы — уцякайце, пакуль час!

— Давай, паўзі праз акно з уласнай хаты, бы злодзей, а я дапамагу! — усё здзекваўся з сябра стары Базыль.

Клімовіча падсадзілі на падаконнік і адтуль спусцілі ў агародчык.

### 6.

Упарты дзядзька не здаваўся.

На другі дзень Альяш вярнуўся з Гродна пад аховай узброеных стрэльбамі малайцоў. Атрад даў пару залпаў у паветра і кінуўся разганяць сектантаў.

Праз нейкі час ад бяльчан застаўся толькі дубовы крыж. Стаіць ён у Грыбоўшчыне і па сённяшні дзень.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

### 1.

Дзядзька Клімовіч зноў ашаламіў людзей.

Надзя Чарнецкая, якая цяпер жыве ў Азёрах, апавядае, што пачалося тое дзіва так:

— Пайшла я з кумой лён палоць і чуемо мы з поля, што ў царкве нешта — трэсь!.. трэсь!.. трэсь!.. «Кума, — кажу я, — хадзем, паглядзім, што там робіцца!..» Прыбягаем на ўзгорак — званіца пустая, званоў няма!.. Заходзім у царкву, а там — разгром!.. Райскія вароты вывалены. Прастол звернуты. Свечкі па царкве валяюцца. На сценах ні адной іконы! Ходзяць у шапках нейкія мужыкі ды свішчуць сабе!.. «Бяжым, — кажу, — кума, паднімемо народ, бо і нашы ж бацькі для царквы стараліся!..» Толькі дзе вы бачылі, з нашага старання нічога не выйшла!..

А гэта Альяш помсціў за сваю крыўду.

Першым чынам ён наняў рабочых, паздымаў званы, завёз іх у Студзянку і ўтапіў у сажалцы. Потым павыдзіраў з царквы ўсе атрыбуты, peравалок на хутар у Вершалін і адкрыў малельню там. Затым адправіўся ў Саколку да ксяндза і папрасіў прыняць яго царкву пад касцёл — насельніцтва ў Грыбоўшчыне па веры было мешанае.

Далей не толькі Чарнецкая, але і тысячы бабак нават войкнуць не паспелі, як з купала іхняй святыні іншаверцы выдралі праваслаўны крыж, устанавілі каталіцкі, а ў былую царкву, у якую яны столькі ўклалі душы і надзеі, унеслі халодныя гіпсавыя скульптуры ды чорныя дубовыя лаўкі.

Зрабіўшы ўсё гэта, дзядзька на кужэльны і старэнькі зіпун panaчапляў польскія ордэны і ў такім выглядзе пачаў выходзіць да людзей.

Прыйшлі да яго аднойчы «суботнікі» з Ваўкавыска. Мужчыны адкрылі «Біблію» і пачалі яму зачытваць радкі аб прадажніцтве. Альяш слухаў, слухаў, а потым вырваў у іх кніжку, кінуў на падлогу яе і патаптаў.

— Бойся ж бо-ога, брат Ілья, гэта ж — «Біблія»!— аслупянелі «суботнікі».

— Пляваць я хацеў на вашу «Біблію»!.. — кіпеў Альяш. — Вучыць мяне прыйшлі? Пляваў я і на вас! А гэта вы бачылі? — паказаў ён на свае ордэны. — Вон з хаты, а то паліцыю паклічу!

Баптысты адзін перад другім вышмыгнулі на вуліцу і зараз жа зніклі з Грыбоўшчыны.

Альяшу было ўсё мала.

Дзядзька наняў адвакатаў — у Саколцы павятовага, у Беластоку — акружнога. Юрысты цяпер ад яго імя пачалі цягаць людзей па судах.

Зайшлі аднаго дзядзькі каровы на тэрыторыю Вершаліна. Адвакат пра гэта даведаўся, і адразу суд у Саколцы пакараў мужыка высокім штрафам. Памерла Альяшова ўнучка. Неслі цераз вёску нябожчыцу на могілкі, два хлопцы пры гэтым штосьці ўслых сказалі. Выклікалі ў суд Чарнецкага Івана з сябрам і суддзя ўляпіў абоім па тры месяцы турмы.

Тэкля папаўнела і яшчэ больш пахарашэла, але заразілася ад мужа помстлівасцю таксама. Варта было каму-небудзь з мужчын пажартаваць з яе, і Альяшовы адвакаты адразу браліся за жартаўнікоў — прысылалі ім павесткі на суд.

І, тым не менш, знайшліся сектанты, якія неўзабаве зноў пачалі хадзіць да Альяша на хутар, пакланяцца яму і валачыць ахвяры.

### 2.

Зусім магчыма, што Альяш неўзабаве зноў выкінуў бы які-небудзь фокус, зноў уразіў бы забабонную фантазію цёмных сялян, і ўсе яго былыя паклоннікі даравалі б яму промахі, і слава прарока праз год-два ўваскрэсла б з яшчэ большай сілай.

Але надышлі падзеі верасня 1939 года.

Чырвоная Армія вызваліла Заходнюю Беларусь. У нашых перанаселеных вёсках забурліла. Энергія майго шматпакутнага народа, які дагэтуль траціў яе так неразумна, нарэшце, атрымала накіраванне. Людзі шуганулі хто — у школу, хто — на будаўніцтва, хто — у Данбас. Бабкі ляталі па магазінах і, ледзь не ашалелыя ад радасці, давалі волю інстынкту накаплення — на пуды куплялі соль, цукеркі-падушачкі, матэрыю — за ўсе пакаленні, што жылі ў нэндзы і нястачы.

Альяшом цяпер людзі перасталі зусім цікавіцца. Патрэба ў «Вершалінскім раі» адпала і прамень «псіхалагічнага рэха», накіраваны на Грыбоўшчыну, аўтаматычна выключыўся. У самой Грыбоўшчыне Альяшовы будынкі сяляне разабралі і перавезлі ў суседнія вёскі на школы і сельсаветы.

Верная Тэкля павяла Альяша ў свае Празнікі. Да Альяша цяпер не хадзіў ніхто.

●

Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Калі праз глухі, незаезджы і лясісты куток у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны праходзіла лінія фронту, людзі нават гэтага не заўважылі.

У канцы чэрвеня адступала наша рота з дзвюма гарматамі, але байцы запэўнілі людзей, што адыходзяць толькі яны.

Чырвонаармейцы ў Празніках паелі, перавязалі раны, іхнія гарматы пару разоў стрэльнулі ў бок Бельска, і к вечару, калі неба супакоілася ад нямецкай авіяцыі, рота ўзнялася і накіравалася на ўсход.

Гэта былі нашы апошнія часці.

У наступны дзень Тэкля з бацькам яшчэ з раніцы пагнала ў гушчары Белавежскай пушчы хаваць быдла, Альяша пакінула вартаваць хату. Дзядзька ў сітцавай касаваротцы і ў апорках на босую нагу выйшаў на двор, пагаспадарыў крыху ля хаты, а тады ўладкаваўся ля парога на сонцапёку ды пачаў майстраваць сабе граблі.

Раптам старога нехта паклікаў з агарода:

— Папа-аша!.. Эй, старык!..

Альяш узняў галаву і насцярожыўся — са сланечніка выставала пілотка са звяздой.

— Немцаў у вас няма? — з юнацкай бяспечнасцю баец ужо ўстаў на ўвесь рост і, бы грудное дзіця, падтрымліваючы правай рукой левую, пайшоў да старога, як да свайго бацькі.

— Разумееш, я ўцёк з калоны палонных!.. Нас гналі па шашы Ваўкавыск — Беласток!.. Ды во, фрыц, нягоднік, стрэліў уздагон і куля дагнала ўжо ў кустах!.. Бабы твае дома?.. Перавязаць трэба рану...

Хлапец раптам асекся — насустрач яму нёсся з грабліскам раззлаваны Альяш.

— Папа-ашу сабе знайшоў?!. — віскнуў ён ды з завіднай лёгкасцю сперазаў байца грабліскам па маладых плячах у тонкай гімнасцёрцы. — На табе яго!.. Воўк табе папаша, во, маеш!..

— Ты што, дзед, звар'яцеў?!. — прыкрываючы параненую руку, адступаючы ў сланечнік, дзівіўся перапалоханы хлопец. — Будзь чалавекам, дзядуля!..

— А ты — чалавек, думаеш?! Ты — бальшавік!.. Ты — чорт!.. Ідзі да свайго Сталіна, няхай цябе ратуе!.. Папрыходзілі сюды... Цяпер немец вас паставіць на пуць ісціны, абразу-уміць, пачакайце!..

Да іх падляцела Тэкліна суседка, тоўстая цётка Макарыха, і засланіла сваёй магутнай фігурай хлопца, запрычытала:

— Ах, сыно-очак, ах, зо-олатка, да каго ж цябе лёс пакіраваў, да каго ты прыстае-еш?.. Ці такі табе дапамо-ожа?! Нават і снегу не дасць!.. Ды ён роднага сына паслаў на смерць, пракляты, ад яго родныя дочкі паадракаліся!.. Ідзі ў той будынак, я зараз туды вады прынясу і бінту!.. Перавяжам цябе, сынок і адправім, куды трэба!..

Макарыха абрушылася на старога:

— А ты, дурань, прэч адгэтуль!.. Яшчэ і Тэклі пра ўсё раскажу, дык яна грабліска гэтае на табе паламае, будзь пэўны! Начмуціў у сваёй Грыбоўшчыне і да нас прыехаў? У нас табе гэта не ўдасца, не дамо-о...

Макарыха павяла байца ў гумно. Нешта мармычучы, вярнуўся да сябе на парог і дзед.

Аднойчы ў Празнікі заглянулі немцы — шукаць зброі, трафеяў і камуністаў.

Убачыўшы немцаў здалёк, мужчыны пахаваліся. У апусцелых хатах засталіся толькі старыя ды дзеці.

На агародах і падворках салдаты назбіралі процівагазаў, плашчпалатак, касак. Сабралі яны яшчэ гільзы ад снарадаў. З кустоў вывалаклі «максіма» без затвора, пару скатаў. Сярод выгана стаяла вайсковая павозка. Салдаты гэтые рэчы паскідалі ў павозку і загадалі гаспадыні з бліжэйшага дома: як вернецца мужык, каб адразу ўсё адвёз у Свіслач.

Справіўшыся з першай часткай службовага абавязку, афіцэр склікаў бабуль.

— Кто знает комуністэн, комісарэн унд юдэн? — спытаўся ён у іх, блытаючы польскія і рускія словы.

— Э-э, паночку, адкуль яны ў нас могуць быць?— хітравалі старыя. — Усе камуністы і бальшавікі — у Маскве. І юдаў у нас ніколі не было — па гарадах яны ўсё больш...

Ужо афіцэр збіраўся весці ўзвод у суседнюю вёску, ды бабка Пілініха ўспомніла:

— Пане, затое ў нас адзін антыхрыст е!.. Цацаліст!..

— І праўда! — падхапіла другая. — Ён здрадзіў сваёй веры. Вунь — у гэтай хаце хаваецца!

— Ды маўчыце вы, цётко, што гэта малоць уздумалі! — цыкнула на іх Макарыха. — Не слухайце вы дурных баб, пане, яны вам нагаво-ораць! От, жыве тут адзін такі сабе чмут...

Але паддала толькі жару. Бяззубая і ўся зморшчаная, як сушаная груша, Пілініха, якая некалі з Альяшом пачынала будаваць царкву і потым рабіла стаўку на «Вершалінскі рай», цяпер разлютавала:

— Цацаліст ён!.. Хрыстапрадавец!.. Каб ён у пекле на самым дне гарэў!..

— А чаго маўчаць?!. — выбухнула яшчэ нейкая бабка. — І колькі маўчаць? Мала і я слёз выліла, молячы, каб дачка выздаравела ад чахоткі? І авечкі дзве самыя лепшыя заперла яму, як дурная, і грошай столькі ўбухала, а для чаго? Каб прапілі яго «апосталы»?

— Ох, і папіл-і ж яны, а людцы ж вы мае, папілі-і!.. — пацвердзілі іншыя.

— Правільна гаворыць Пілініха! Дзе гэта бачыў хто, каб так людзей абдурваць! Столькі народу ўзбунтаваў і ўсё дарэмна! Антыхрыст, пане, самы сапраўдны!

Не хаваючы сваёй гідлівасці да жанчын, немец доўга паблажліва ўсміхаўся і моршчыў лоб — стараўся зразумець, у чым справа.

— Вось, на гэтым падворку ён жыве! — падказала Пілініха.

Немец глянуў, куды паказвала бабка, і ўбачыў на парозе старога чалавека.

— Ком, ком!.. — паклікаў яго.

Дзядзька Альяш ці прыкідваўся, ці і праўда не пачуў, што яго клічуць, стругаў сабе зубы да грабель і не азіраўся.

— Ком! — крыкнуў афіцэр.

Не надта спяшаючыся Альяш прыставіў недаконченыя граблі, у шчыліну сцяны ўсадзіў лязо нажа і паклыпаў да калiткі.

— Што дзелаць?

Не выказваючы ніякага страху, Альяш пачаў тлумачыць:

— А нічога такога. Яна пайшла некуды раніцай, дык я каля хаты цэлы дзень вось таўкуся. Гуркі паліў, капусту... За граблі ўзяўся...

— Паглядзіце, ён яшчэ і прыдурваецца! — бушавала Пілініха.

— Пане, але каб вы бачылі, які ён быў раней! Ці ён так гаварыў? — крычала другая жанчына. — Я да яго з хворай дачкой паўзла, дык ён мне крыжам так ударыў па галаве! Во, сюды! — паказала яна, зняўшы хустку. — Жалезным!..

— Нам казаў маліцца, а сам са сваім апосталам— ні ў бога, ні ў чорта не верыў! Антыхрыст! Цацаліст!

— Мужа яе забіў, і паны яму за гэта нічога не зрабілі! Толькі ноч патрымалі, падумайце!

— Бо заадно быў з імі!

— Заадно-о, заадно-о! Цацаліст! Антыхрыст!

Покуль наіўныя бабы гэтак вылівалі накіпеўшую злосць, афіцэр меў свой клопат. Для справаздачы немцу мала было процівагазаў і гільз з вайсковай павозкай. Ён мусіў яшчэ знайсці і жывую сілу праціўніка — камуністаў і камісараў. За сённяшні дзень ён перагрос пятую лясную вёсачку, але ніхто яму не трапіў — хоць не вяртайся ў часць. Афіцэр скеміў— і гэты можа сысці за таго, хто патрэбен.

Немец паклікаў двух салдат, паказаў на гумно і кіўнуў ім:

— Эрледзіген!..*)

*) Прыкончыць яго!..

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Мікола ВЯРШЫНІН

## ЛІСТЫ МАЛАДЫМ АЎТАРАМ АД НЕКАТОРЫХ ЛІТКАНСУЛЬТАНТАЎ

### Ад Пятра ВАЛКАДАЕВА:

Што, вы—аўтар малады!
Я ж тут дваццаць два гады
Кансультантам літ. нязменным,
Стаў даўно ўжо незаменным,
Вершы б вам пісаць не раіў.
З прывітаннем—Валкадаеў.

### Ад Міколы ГАМОЛКІ:

Скажу і ўвечары, і ўранні,
Не год працую і не два:
Ты мне высокае гучанне
У кожным вершы падавай.
Хай будзе нават гумарэска—
Давай гучанне аж да трэску.
Няма гучання—быць бядзе:
Не надрукуешся нідзе.

### Ад Алеся СТАВЕРА:

Маю звычку я такую,
Лаяцца я не люблю:
Каго-небудзь—крытыкую,
Але больш за ўсё—хвалю.
Мне не трэба ўжо вучыцца,
Я другіх вучу па звычцы.
Палюбіў я працу тую:
Хоць дзе-небудзь—кансультую.

## У СВЕЦЕ КАЛЕКЦЫЯНЕРАЎ





Малюнкі К. Ферстэра (з часопіса «Польское обозрение»).

Апанас ПАЛІТЫКА

## ЯК Я НЕ СТАЎ ПАДХАЛІМАМ

КОЛЬКІ разоў спрабаваў я трапіць на прыём да Пятра Пятровіча — і ўсё дарэмна: то чарга вялікая, то сам дужа заняты, то яго выклікалі кудысьці. А ў мяне да яго вельмі пільная справа: каб дапамог перавесці ў горад жонку. Не так даўно стаў я бацькам, нашчадка нашага трэба карміць праз тры гадзіны, а жонка працуе за горадам.

Я ўжо было страціў надзею на дапамогу Пятра Пятровіча. Ды вось стаю аднойчы ў чарзе каля дзвярэй лазні. Перада мною—толькі адзін тоўсты мужчына. Гляджу я на дзверы і раптам — Пятро Пятровіч уваходзіць. Ледзь стрымліваючы хваляванне, імгненна рашаю: трэба трапіць з ім на адзін услон. Для гэтага—прапусціць яго перад сабой.

Толькі я так падумаў, як таўсцяка майго нібы хто шылам пырнуў. Лёгка, па-юнацку крутнуўся ён да Пятра Пятровіча і, адсоўваючы ад дзвярэй усю чаргу, забляяў:

— Пятро Пятровіч, калі ласка, праходзьце!

— Дзякую, я ў чарзе пастаю...

— Ды што вы! Тут жа ніхто не супраць! Праходзьце!

— Ды я...

Таўсцяка падтрымалі іншыя, і Пятро Пятровіч не паспеў заўважыць, як апынуўся перад дзвярыма. У гэты час дзядок-кантралёр адчыніў дзверы, і таўсцяк з Пятровічам увайшлі ў лазню.

Усё гэта здарылася так імгненна, што мне засталося загарнуць у хусцінку кукіш і падцерці ім сабе нос. Калі зноў дзверы расчыніліся, у мяне адпала ахвота мыцца...

У лазні я сустрэў Мотава, свайго начальніка. Пазычыў у яго венік, сеў на ўслон, азірнуўся і — такое бывае толькі ў кіно: побач са мной сядзіць Пятро Пятровіч і мые галаву. Веніка ў яго не было. Ага, для пачатку няблага... Я ўзрадаваўся, схапіў тазік і пайшоў набраць вады. «Цяпер, даражэнькая жоначка, паглядзім, у каго дубовая галава!» Вяртаюся —гляджу, ні суседа, ні веніка. Я ў парылку. На палку ляжыць Пятро Пятровіч, а над ім—Мотаў з двума венікамі. Лупцуе — аж дым ідзе!

«Стойце, браткі, Ванька — таксама не дурань». Спакойна кіруюся на сваё месца, саджуся, неўпрыкмет бяру мачалку Пятра Пятровіча, выходжу ў прымыцельнік «адпачыць» і — шусь мачалку за шафу.

Цяпер яго спіна — мая спіна.

А вось і ён сам — чырвоны, распараны. За ім — Мотаў, нібы целаахоўнік. Задаволены, падае мне венік:

— Прабач, Ваня, я рашыў папарыцца...

— Ды што вы, гэта вы мне прабачце, — адказваю. А ў думках: «Сэнк'ю вэры мач, падхалім! Я, брат, магу сёння і не парыцца...»

Пятро Пятровіч, бачу, азіраецца, пад услон палез...

— Дзіва, хтосьці мачалку ўзяў.

— Цю, чорт, і маёй няма! Вось свалата!

Не паспеў я і рота раскрыць, як на ўслон шмякнулася чыясьці мачалка. Гляджу—так і ёсць: Мікалай, першы п'яніца і падхалім у горадзе. Ясна, гэта ён свіснуў маю мачалку. Аднак спіна ўсёроўна будзе маёй. Намыльваюся, а сам вачэй не спускаю з суседа. Чакаю моманту, калі ён захоча спіну пацерці. Раптам...

— Пятро Пятровіч, —у два галасы адначасова, — дазвольце вам спіну...

Падхапіўся я, нібы мяне хтосьці гарачым жалезам пырнуў, падскокваю да суседа, а за яго спіною ўжо Мікалай завіхаецца.

— За табой! — гукнуў я ў адчаі і стаў у чаргу.

— Будзеш трэцім, —буркнуў таўсцяк і спакойна адсунуў мяне ўбок.

— Даруй, Ваня, але за ім займаў я, — сказаў Мотаў.

Нехта яшчэ бесцырымонна адапхнуў мяне далей, потым яшчэ і яшчэ. Выстраілася ладная чарга. Адны ў руках трымалі мачалкі, іншыя — тазы з цёплай вадой. І тут я зразумеў — чаргі мне не дачакацца...

Я спакойна ўзяў з рук суседа мыла і запусціў ім па электрычнай лямпачцы...

Цікава, як яны адшукалі мяне ў цемры?..

Ігнат РАДЗІЕЎСКІ

## МАЖОР ЖЫЦЦЯ

Эх, ноч — падскоч!
І зор узор.
Сысці нас з воч
Заве прастор.
А гай, як рай,
І сад, як сват.
Усіх ззывай
Хлапцоў, дзяўчат!
І куст так густ,
І хмар пажар,
І пальцаў хруст,
І вуснаў жар...
— І я — твая...
— І твой—з табой...
І ў салаўя
Такі ж настрой.
А бор замёр,
І мох аглох.
Жыцця мажор!
— Ах-ах!
— Ох-ох!..

Яцэк КАВАЛЬЧЫК

## НАДПІСЫ

На дыску сонечнага гадзінніка ў Грэцыі:

«Не можаш утрымаць гэтага дня, але можаш яго не страціць».

□

На дошцы Лонданскага медыцынскага калегіуму:

«Прафесар Янгіс паведамляе, што атрымаў званне ганаровага лекара яго Каралеўскай Міласці».

Унізе нейкі дасціпнік прыпісаў:

«Божа, беражы караля».

□

У бары Лос-Анджэлеса:

«Не трэба перабольшваць у стрыманасці».

□

Перад партовым барам у Марселі:

«Перасцерагаем скандальных п'яніц, што выклічам паліцыю альбо іх уласных жонак».

□

У вестыбюлі лонданскай гасцініцы:

«Мы жывём тут адзінай сям'ей. Не пакідайце каштоўных рэчаў у пакоях!»

Пераклаў з польскай П. КАПЧЫК.

## І ТУТ ПАДЫШОЎ КІНДЗЮЛІС...

*— За самыя шчаслівыя ў маім жыцці хвіліны я ўдзячны тэатру.*

*— Няўжо вы гэтак часта яго наведваеце?*

*Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:*

*— Наведвае не ён, а яго жонка.*

□

*Юнак кажа пра свайго сябра:*

*— Ён усё можа — нават спаць на столі.*

*— Чаму ж ён не спіць?*

*Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:*

*— Коўдра зваліцца.*

□

*Хлопчык, заплаціўшы дваццаць капеек і выпіўшы шклянку газіроўкі, не спяшаецца адысці ад ларка.*

*— Напіўся?—пытае прадаўшчыца. — А што цяпер трэба сказаць?*

*Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:*

*— Дайце рэшту.*

□

*— Толькі пасля маёй смерці людзі даведаюцца, што я для іх зрабіў! — усклікнуў мастак-абстракцыяніст.*

*Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:*

*— Ну, тады вы ўжо будзеце ў бяспечным месцы.*

□

*— Наш тэатр сёлета прыкметна наблізіўся да сучаснай тэматыкі.*

*— Адкуль гэта відно?*

*Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:*

*— Летась ставілі трагедыю з часоў Рымскай імперыі, а зараз паказваюць п'есу аб паходах Напалеона.*

□

*— Я ўзяў бы вас на працу ў наш універмаг, але вы задужа малы.*

*Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:*

*— Затое яму будзе вельмі зручна прадаваць з-пад прылаўка.*

□

*— Мой сабака такі разумны, што калі прыходзіць дадому, дык сам націскае кнопку званка.*

*Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:*

*— А няўжо ён не мае сваіх ключоў?*

□

*— Заўсёды, калі я заказваў у вас лангет, вы прыносілі два шматкі мяса. Чаму ж сёння толькі адзін?*

*Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:*

*— Ён забыўся разрэзаць гэты шматок на дзве часткі.*

□

*— Чаму ты ўцякаеш з тэатра? Яшчэ ж засталося дзве дзеі.*

*Тут падышоў Кіндзюліс і сказаў:*

*— Таму і ўцякае.*

Пераклаў з літоўскай БОХАН.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.





Індэкс 63856 АТ 08570